Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 6-7 (45-46) Чэрвень-Ліпень 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Да пытаньня аб краязнаўчай працы ў нізавых краязнаўчых організацыях.

Калі прыходзілася праводзіць гутаркі з культурнымі працаўнікамі гораду і вёскі, з працаўнікамі розных гаспадарчых установ і грамадзкіх організацый, з рабочымі, сялянамі і вучнямі аб краязнаўчай працы, амаль што заўсёды ставіліся такія пытаньні: „А дзеля чаго яна патрэбна, гэта краязнаўчая праца? Якую карысьць яна мне прынясе? Якое непасрэднае дачыненьне яна будзе мець да маей вытворчай (альбо службовай) працы?“ Масавыя культурныя працаўнікі (масавае настаўніцтва, дактары і інш.) часьцей ставяць пытаньні: што вывучаць і як вывучаць? Пытаньні гэтыя на першы погляд здаюцца простымі, элемэнтарнымі, а між іншым, яны яшчэ патрабуюць тлумачэньня; гэтыя пытаньні павінны зрабіць блізкімі і зразумелымі для шырокага кола культурных, гаспадарчых грамадзкіх працаўнікоў, для перадавых рабочых і сялян.

Мы яшчэ цяпер шырокага актыўнага ўдзелу ў краязнаўчай працы з боку працоўных мас ня маем і тут ёсьць, бязумоўна, пэўныя прычыны. На некаторых з іх я і хачу застанавіцца.

Аднэй з сур'ёзных прычын, якія перашкаджаюць, ці больш правільна, затрымоўваюць разьвіцьцё масавай краязнаўчай працы з шырокім удзелам працоўных мас, зьяўляецца некаторая аддаленасьць нашае краязнаўчае працы ад штодзённага гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва. Праўда, у нас ёсьць установка, што краязнаўчая праца павінна дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву і яна ўжо дапамагае гэтаму будаўніцтву, але гэта робіцца ў досыць шырокім маштабе, дзе непасрэднай сувязі краязнаўчае працы з соцыялістычным будаўніцтвам для рабочага і селяніна і ня відаць. Справа ідзе аб гэтым, каб краязнаўчую працу ў нізавых краязнаўчых організацыях (гурткі на прамысловых прадпрыемствах, у вёсках і школах) непасрэдна зьвязаць з практычнымі мясцовымі задачамі ў галіне гаспадарчага або культурнага будаўніцтва, што, на мой погляд, зусім будзе адпавядаць задачам і характару нашага будаўніцтва і задачам нашага савецкага краязнаўства.

Соцыялістычнае будаўніцтва патрабуе, каб пры вырашэньні кожнае практычнае задачы (падвышэньне ўраджайнасьці, пабудова прамысловага прадпрыемства, організацыя колгасу і г. д.), 1) было праведзена ўсебаковае вывучэньне данага пытаньня, 2) каб на падставе здабытых матар'ялаў былі зроблены ўсе патрэбныя і абгрунтаваныя вылічэньні і зложаны конкрэтны плян працы, 3) каб самая праца праводзілася згодна складзенаму пляну. Такой прыблізна пастаноўкі працы патрабуе ўсякае плянавае будаўніцтва.

Ці ёсьць тут месца для краязнаўчай працы? Бязумоўна ёсьць. Уся папярэдняя дасьледчая праца і нават складаньне пляну працы ёсьць

па сутнасьці ў значнай меры праца краязнаўчая (за выключэньнем, зразумела, розных тэхнічных вылічэньняў).

Для прыкладу возьмем якую-небудзь конкрэтную задачу. Дапусьцім, што ў вёсцы з'арганізавалася тарфянае таварыства (сябры якога, магчыма, уваходзяць у мясцовы краязнаўчы гурток). Якую працу можа правесьці краязнаўчы гурток у справе організацыі мясцовых торфараспрацовак? Краязнаўчы гурток можа дасьледваць мясцовыя заляганьні торфу і яго якасьць, спосабы яго дабываньня і ўжываньня (на апал, угнаеньне і інш.) у даных мясцовых умовах (на вопыце бліжэйшых мясцовых таварыстваў ці асобных гаспадарак) і далей на падставе ўсіх здабытых матар'ялаў злажыць конкрэтны плян працы, організаваць самую працу і дасьледваць яе вынікі.

Апрача непасрэднага вытворчага эфэкту ўсей праведзенай працы, вынікам яе можа зьявіцца каштоўны нарыс краязнаўчага характару аб мясцовых торфазаляганьнях, спосабах іх распрацоўкі і ўжываньні торфу ў гаспадарцы. Ёсьць тут увязка краязнаўчае працы з вытворчасьцю? Яна сама сабой відаць. Мы маем тут характар вытворчага краязнаўства. Прыблізна ў такім-жа кірунку можна організаваць працу па гуртках і на прамысловых прадпрыемствах, прычым вынікі працы краязнаўчага гуртка на фабрыцы ці заводзе ў значнай меры могуць быць выкарыстаны вытворчымі камісіямі і наадварот.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што краязнаўчая праца стане масавай працай толькі тады, каля яна набудзе выразны вытворчы практычны ўхіл і будзе ўвязвацца з непасрэднымі чарговымі задачамі мясцовага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва [1]).

Толькі ў такім выпадку рабочыя і сяляне зразумеюць задачы і патрэбнасьць краязнаўчае працы для палепшаньня сваёй гаспадаркі і дабрабыту.

Адыходным пунктам краязнаўчае працы нізавых краязнаўчых аб'яднаньняў павінна быць пэўнае практычнае заданьне культурна-бытавога ці гаспадарчага значэньня, навокал якога (заданьня) і концэнтруецца ўся дасьледчая і плянуючая праца таго ці іншага краязнаўчага аб'яднаньня (гуртка). Характар працы—комплексна-тэматычны. У даным выпадку я зусім ня буду застанаўлівацца і вызначаць тэмы - заданьні для паасобных відаў краязнаўчых гурткоў (на прамысловых прадпрыемствах, пры с-с., пры школах і інш., паколькі ЦБК мае на ўвазе даць програмы для гэтых гурткоў у бліжэйшым часе і абмяжоўваюся толькі пастаноўкай пытаньня аб характары працы памянёных гурткоў, які, як мне здаецца, будзе найбольш адпавядаць і сучасным запатрабаваньням да краязнаўства ў нашай краіне, і сілам, і магчымасьцям працы нізавых краязнаўчых організацый.

Што да школьных краязнаўчых гурткоў, дык характар іх працы таксама павінен мець вытворчы ўхіл; краязнаўчая праца школьных гурткоў павінна быць цесна зьвязана з грамадзка-карыснаю працаю школы, паколькі гэтая праца мусіць быць базай для ўсяго пэдагогічнага працэсу ў школе. Гэтую органічную сувязь школьнага краязнаўства і грамадзка-карыснае працы школы вызначае і рэзолюцыя па дакладах на сэкцыі школьнага краязнаўства III Усерасійскай конфэрэнцыі па краязнаўстве (11—14 сьнежня 1927 г.), дзе гаворыцца, што „и школа и краеведение имеют одинаковую установку на трудовую деятельность человека и

[1]) Я маю тут на ўвазе выключна першапачатковыя нізавыя краязнаўчыя організацыі (гурткі на фабрыках і заводах, пры сельсаветах і школах).

на социалистическое строительство культурной и хозяйственной жизни СССР. В своем развитии эта мысль приводит к признанию большой важности целевого момента в педагогической работе, чрезвычайного значения общественно-полезной работы школы среди населения, исследовательского метода и проектной системы. Необходимо также отметить, что и краеведение и школа одинаково базируются на научном знании и что поэтому и общее и школьное краеведение ни в каком противоречии не стоят: и там и тут он должен быть научно-точен и проверен, и там и тут в процессе работы и школьники и краеведы овладевают рядом научных приемов и навыков... Принцип участия в общественно-необходимом труде дает возможность краеведам и школе не останавливаться лишь на вопросах изучения тех или иных явлений или на коллекционировании, но принять непосредственное участие в живой работе советского строительства среди широких трудящихся масс в качестве необходимых и полезных членов“.

Сутнасьць, характар і месца школьнага краязнаўства (а таксама і агульнага) у прыведзенай рэзолюцыі вызначаны досыць выразна і правільна. Вывучэньне тых або іншых зьявішч прыроды і грамадзкага жыцьця зьяўляецца характэрным і для краязнаўчай працы ў буржуазных краінах (і школах) і нават для былой царскай Расіі, істотнай-жа адзнакай нашага краязнаўства павінна быць яго цесная органічная сувязь з соцыялістычным будаўніцтвам, як аб гэтым гаварылася ўжо вышэй.

Устаноўка на вытворчае краязнаўства, калі можна так сказаць, ёсьць асноўны шлях нашага краязнаўства, але гэта не выключае, бязумоўна, зьбіраньня і запісаў, напр., фольклёрнага матар‘ялу, апісаньня помнікаў старасьветчыны, колекцыянаваньня розных экспонатаў і інш., калі хто з сяброў гуртка зацікавіцца гэтымі пытаньнямі і працай у даным кірунку, але гэтая праца ня можа быць асноўнай працай у нізавых краязнаўчых організацыях. Рабочых і сялян, працаўнікоў розных гаспадарчых устаноў і вучнёўскую моладзь больш цікавяць пытаньні сучаснасьці, пытаньні нашага соцыялістычнага будаўніцтва, і з гэтага мы павінны выходзіць пры пабудове плянаў працы для масавых краязнаўчых гурткоў.

Пастаноўка краязнаўчае працы ў вызначаным кірунку зробіць гэтую працу зразумелай, простай і патрэбнай для шырокіх працоўных мас, якія ўжо ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва пазнаюць, што „толькі на падставе дэталёвага веданьня самых дробных куткоў краіны мажліва правільная організацыя вытворчасьці і працы, устаноўка школьнае і пазашкольнае асьветы, аховы здароўя і соцыяльнага забясьпечаньня і ўсіх пытаньняў новага быту“ (Ленін).

Краязнаўства, непасрэдна зьвязанае з вытворчасьцю і культурным будаўніцтвам, павінна зьявіцца ў значнай меры практычным ажыцьцяўленьнем лёзунгу Леніна.

Організацыя і разьвіцьцё краязнаўчае працы на прамысловых прадпрыемствах, пры сельсаветах або ў паасобных вёсках і ў школах упіраюцца ў адсутнасьць на мясцох належна падрыхтаваных кіраўнікоў-інструктароў. Бываюць выпадкі, калі гурткі організуюцца і тут-жа развальваюцца, не знаходзячы для сябе карыснай і пасільнай працы; бываюць і такія выпадкі, калі больш-менш добра працаваўшыя гурткі распадаюцца з выбыцьцём з гуртка яго кіраўніка. Пытаньне аб інструктажы і кіраўніцтве краязнаўчаю працай, асабліва ў нізавых краязнаўчых організацыях, зьяўляецца вельмі сур‘ёзным і актуальным пытаньнем,

на якое патрэбна зьвярнуць максімум увагі: інструктаваньне і практычная дапамога на месцы, распрацоўка мэтодычных пытаньняў, высьвятленьня вопыту лепшых гурткоў у краязнаўчым друку і інш. Разам з тым паўстае пытаньне аб падвышэньні краязнаўчай кваліфікацыі кіраўнікоў краязнаўчых гурткоў, што робіцца па ўсіх галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба організаваць шэраг краязнаўчых курсаў, студый і інш., праз якія прапусьціць краязнаўчы актыў, які можа выдзеліць патрэбных нам кіраўнікоў і організатараў краязнаўчае працы сярод рабочых, сялян і вучнёўскае масы.

Далей паўстае пытаньне аб вывучэньні хаця-б і невялікага вопыту краязнаўчае працы нізавых ячэек і аб выданьні шэрагу мэтодычных дапаможнікаў, інструкцый і програм для гэтых нізавых ячэек, прычым найлепшым дапаможнікам, па маёй думцы, будзе выданьне якой-небудзь закончанай працы тэй або іншай краязнаўчай ячэйкі.

Вялікім тормазам у разьвіцьці краязнаўчае справы зьяўляецца амаль-што поўная адсутнасьць популярнай краязнаўчай літаратуры ў бібліотэках нашых рабочых клюбаў, хат-чытальняў, нардамоў і нават большасьці школ розных тыпаў. Папаўненьне бібліотэк (рабочых, сялянскіх і вучнёўскіх) популярнай краязнаўчай літаратурай павінна зьвярнуць на сябе належную ўвагу мясцовых (ды і цэнтральных) краязнаўчых організацый і органаў політасьветы.

Наладжваньне краязнаўчых выставак, пастаноўка дакладаў аб выніках праведзенай краязнаўчай працы гуртком, організацыя экскурсій для рабочых і сялян—усё гэта ў значнай меры будзе популярызаваць задачы і мэты нашага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас і патрохі ўцягваць іх у краязнаўчы рух і практычную працу.

Прыкладная *схэма* краязнаўчае працы ў сувязі з практычнай задачай палепшаньня сьвінагадоўлі ў вёсцы.

*Мэтавая ўстаноўка:* дапамагчы справе рацыяналізацыі сьвінагадоўлі ў вёсцы.

*Разгортваньне працы.* Усебаковае вывучэньне пастаноўкі сьвінагадоўлі ў вёсцы: пароды сьвіней у вёсцы; кармленьне надворных сьвіней улетку і ўзімку і адкорм на сала (у якім узросьце кормяць сьвіней на сала; чым і як кормяць, на працягу якога часу); колькі скармліваецца аднэй сьвінёй збожжа, бульбы і інш.; вылічыць усе выдаткі на адну кормную сьвіню і прыбытак ад яе (сала, мяса, шэрсьць) пры звычайным сялянскім кармленьні; у якой меры праводзіцца стойлавае ўтрыманьне сьвіней; уцяпленьне хлявоў.

У якіх гаспадарках (бядняцкіх, серадняцкіх, кулацкіх) сьвінагадоўля мае найбольшае значэньне і чаму? Пароды сьвіней у залежнасьці ад заможнасьці гаспадарак і прыбыткоўнасьць (сярэдняя) сьвінагадоўлі ў розных гаспадарках.

Дасьледваньне пастаноўкі сьвінагадоўлі ў якой-небудзь культурнай гаспадарцы: савгасе, колхозе і інш. у параўнаньні з сьвінагадоўляй у звычайных вясковых умовах: розныя пароды сьвіней, спосабы догляду, прыбыткоўнасьць сьвінаводзтва ў залежнасьці ад пароды сьвіней і спосабу догляду іх.

Вывучэньне найлепшай пастаноўкі сьвінагадоўлі ў вясковых умовах (вывучэньне адпаведнае літаратуры, практычнае вывучэньне пытаньня ў найбольш культурных гаспадарках і інш.).

Азнаямленьне сялян (сялянак пераважна) з вынікамі дасьледчае працы (з належнымі лічбовымі данымі, дыяграмамі); агітацыя за па-

лепшаньне сьвінагадоўлі; выяўленьне сялян, якія ўжо выказалі жаданьне і імкненьне да палепшаньня сьвінагадоўлі.

Організацыя і правядзеньне працы: набыцьцё завадзкіх сьвіней (завадзкіх кныроў некалькімі гаспадаркамі), належнае ўтрыманьне хлявоў, рацыянальнае кармленьне; апрацоўка, захаваньне і організаваны збыт продуктаў (контракцыя).

Ва ўмовах індывідуальнай сялянскай гаспадаркі сябры краязнаўчага гуртка ў вёсцы прымаюць актыўны ўдзел у правядзеньні ўсіх вышэйадзначаных мерапрыемстваў у сваіх гаспадарках, а па магчымасьці таксама і ў іншых гаспадарках (указаньні, консультацыя, праўкі і інш.). У часе працы абгаворваюцца ўсе недахопы і дасягненьні: памылкі агульнымі сіламі павінны выпраўляцца, а дасягненьні популярызавацца.

Дасьледчая праца павінна праводзіцца праз увесь час як у паасобных гаспадарках, так і ў агульным маштабе вёскі. Кожны год пажадана рабіць агляд процэсу разьвіцьця сьвінагадоўлі ў вёсцы, карыстаючыся лічбовым і наогул фактычным матар'ялам.

*В. Самцэвіч.*

---

**М. І. Касьпяровіч.**

# На Асінбуд.

Зразумела, што краязнаўства для насельнікаў данага краю зьяўляецца адным з галоўных фактараў перабудовы жыцьця на новых соцыялістычных падставах і, разам з тым, адным з галоўных сродкаў самаадукацыі і самавыхаваньня на асновах новага, марксыцкага сьветапогляду. Яно ў роўнай меры дапамагае краябудаўніцтву і ў гаспадарчай і ў культурнай галіне, спрыяючы хутчэйшым зьменам псыхолёгіі насельніцтва на карысьць узмацненьня мэтаімкнёнасьці да творчага будаваньня новага жыцьця. Амаль выключна яно грунтуецца на прымацаванасьці кожнага данага насельніка да кожнага данага краю яго. Мясцовы чалавек лягчэй адмовіцца ад застарэлага „забабону", што блізкае і сваё — нуднае, малазьмястоўнае, наскрозь вядомае, — як зусім правільна сьцьвярджае выдатны расійскі культуразнаўца І. Грэўс, констатуючы далей, што краязнаўства дапамагае „прывязацца да працы над чым-колечы скромным, а, галоўнае, навучыцца адшукваць у яго межах шмат значнага і пасьля знаходзіць у краі шляхі да пазнаньня староны і сусьвету" [1]).

Але ні ў якім разе нельга адмаўляць і таго, што сваё, краёвае, мы пазнаем значна лепш, калі карыстаемся параўнаньнем з чужым, іншакраёвым. Азнаямленьне з іншай староной узмацняе наглядальнасьць і завострывае зрок і слых. А ўсё гэта зьяўляецца асноўным стрыжнем усіх якасьцяй краязнаўцы. Таму, побач з экскурсіямі, блізкімі па сваім краі, абавязкова трэба практыкаваць і экскурсіі далёкія. Зразумела, што колькасьць такіх далёкіх экскурсій усё-ж ня выйдзе з межаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Першая спроба дапамагчы экскурсантам у справе выбару кіраўнікаў такіх экскурсій па

---

[1]) И. М. Гревс. Путешествия в жизни учителя-краеведа. „На путях краеведения", Москва, 1926.

нашай старане і асноўных об'ектаў па азнаямленьні з імі была ўжо зроблена [1]). Але ў ёй пададзена вельмі шмат гэтых об'ектаў, што часткова драбніць уражаньне экскурсантаў і, з другога боку, абцяжае карыстаньне маршрутамі, бо патрабуе шмат часу на іх. Звычайна-ж час, які могуць экскурсанты вылучыць на сваю падарож, вельмі абмежаваны, так як і сродкі на яе.

Таму пэўную перавагу ў бліжэйшым часе, як відаць, атрымаюць экскурсіі для азнаямленьня з якім-колечы адным выдатным об'ектам. Лепш менш об'ектаў узяць для азнаямленьня, але лепш з імі азнаёміцца. Зразумела, гэта ня выключае агляду экскурсантамі ўсяго вартага ўвагі па дарозе да асноўнага аб'екту. Але на гэты агляд можа быць вылучана значна менш часу, сіл і сродкаў.

Мэтодыка і тэхніка такой экскурсіі ня можа чым-колечы значна адрозьнівацца ад іншых экскурсій. Асаблівую ўвагу толькі трэба будзе зьвярнуць на падрыхтоўку яе [2]). Сродкі могуць быць здабыты пераважна ў выніку самадзейнасьці ўдзельнікаў экскурсіі на ўсім працягу свае, патрэбна даволі доўгае, падрыхтоўкі да яе. Прынамсі гэта сьцьверджвае практыка шмат-якіх школ [3]). Найгалоўным об'ектам для такіх экскурсій, якія павінны пабачыць магчыма больш шырокія масы, зьяўляецца Будаўніцтва Дзяржаўнай Асінаўскай Раённай Электрастанцыі (Асінбуд).

На апошняй сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі старшыня яго Алесь Чарвякоў высунуў глыбока правільнае патрабаваньне таго „каб кожны рабочы, кожны селянін і ўсе працоўныя Савецкай Беларусі наогул ведалі аб тэй вялікай пабудове, якая ідзе ў Асінаўцы, каб кожны працоўны ўяўляў і разумеў значэньне гэтае пабудовы ў соцыялістычным будаўніцтве Савецкай Беларусі“ [4]).

Вось туды і павінны ў першую чаргу накіроўваць свае далёкія экскурсіі школы, політасьветныя ўстановы і краязнаўчыя організацыі.

Старшыня Савету Народных Камісараў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі т. Галадзед выказаў пажаданьне „каб увесь беларускі народ поэтызаваў будаўніцтва Асінаўскай станцыі, каб кожны рабочы, кожны селянін у сваіх думках апяваў Асінбуд“ [5]).

І запраўды — колькі поэзіі ў гэтай пабудове! Праз недалёкі час „на поўнач да Віцебску, на поўдзень да Шклова, ва ўсе бакі, праразаючы палі і балоты, пераскокваючы праз прасёлачныя дарогі і шляхі — пабягуць слупы, і праз белыя пальцы ізолятараў заструменіцца высокавольтная кроў Асінбуду... Толькі падумаць! Праз два гады першая раённая электростанцыя нашай рэспублікі дасьць 35 мільёнаў кілёуат гадзін, яшчэ праз год—52 мільёны і яшчэ праз год—66 мільёнаў... Гэта гіганцкая сіла, якая ўзьніме віхуру трансмісій на фабрыках і заводах,

---

[1]) М. Касьпяровіч. Краязнаўства. Менск, 1929, ст. 141—154. Дадатковая характарыстыка Менску і Віцебску як экскурсійных асяродкаў і маршрутаў па гэтых гарадох пададзена ў М. Касьпяровіча. Куды і як вадзіць экскурсіі. „Наш Край“, Менск, 1929, № 4, ст. 5—16. Апрача таго, ёсьць праца Д. Васілеўскага. Экскурсійныя об'екты Аршаншчыны. Тамсама, ст. 16—21.

[2]) Пар. Б. Е. Райков. Методика и техника ведения экскурсий. ПТБ, 1922. Г. Г. Шенберг. Географические экскурсии. М. Л. 1926. Под ред. И. Гревса. Экскурсии в культуру. Сборник, М., 1925 і інш.

[3]) Пар. хоць-бы М. Валасэвіч. Па родных абшарах (экскурсія краязнаўчага гуртка IV Менскай 7-мігодкі па р. Бярэзіне). „Наш Край“, Менск, 1929, № 4, ст. 49—59.

[4]) Будова Асінаўскай электрастанцыі. „Наш Край“, Менск, 1928, № 10, ст. 6.

[5]) Таксама.

павядзе па рэйках трамваі і акіянамі сьвятла зальле рабочыя пасёлкі і вёскі“ [1]).

Посьпехі пабудовы Асінаўскай электрастанцыі так апісваюцца часопісам „Наш Край“ паводле дакладаў т. т. Карпа і Алейнікава на III сэсіі ЦВК БССР VIII склїканьня, 19 верасьня 1928 г.: „За гэты пэрыод пабудаваны часовыя памяшканьні для рабочых у в. Выдрыцы, якая знаходзіцца ў $2^1/_2$-3 кілёмэтрах. У Арахох заканчваецца пабудова трохпавярховых дамоў для рабочых і служачых па 24 кватэры кожны дом. Гэтыя дамы будуе Белдзяржбуд паводле апошняга слова тэхнікі (з цэнтральным апалам, электрычным асьвятленьнем і г. д.). У ніжнім паверсе гэтыя дамы ўжо часткова заселены рабочымі. Таксама былі пабудаваны добрыя часовыя баракі ў Арахох і больш буйныя ў Выдрыцы — іх можна будзе скарыстаць і ў далейшым. У Выдрыцы пабудованы невялічкі клюб-кіно, скарыстана і радыё. Таксама пабудаваны лазьні, амбуляторыя і ўсе патрэбныя службы. У Арахох пабудаваны значна буйнейшы клюб на 500 чал. Ён адначасова зьяўляецца і сталоўкай, дзякуючы ўдаламу прыстасаваньню, вынайдзенаму рабочымі-сталярамі, паводле якога ў некалькі хвілін з лавак складаюцца сталы і наадварот. І ў Выдрыцы і ў Арахох ёсьць крамы цэнтральнай рабочай (Аршанскай) коопэрацыі, якая забясьпечвае рабочых усімі патрэбнымі продуктамі і рэчамі. Пабудавана чыгуначная ветка ад ст. Хлюсьціна МББ, скончана адна вузкакалейка, якая вядзе да тарпяных балот, зроблена шоса ў 9 кілёматраў, якая ідзе ад Аршанска-Віцебскага шляху, пачынаючыся каля в. Грышаны, пабудаваны два масты, часовая, але досыць буйная электрастанцыя ў 700 конскіх сіл: два лёкамабілі па 300 і адзін лёкамабіль у 120, якія даюць 6.000 вольт для тарпяных балот, дзе тарпяныя машыны працуюць на гэтай энэргіі. Акрамя таго, зараз падрыхтаваны ўсе неабходныя матар'ялы для пабудовы галоўнага будынку [2]). На працягу зімы 1928-29 г. і вясны 1929 г. гэтыя дасягненьні ў пабудове Асінбуду непараўнальна павялічыліся і тым сталі яшчэ цікавейшымі.

У 1930 г. мае быць пушчаны ток з новай электрастанцыі. У даны момант найцікавейшымі для экскурсантаў часткамі Асінбуду зьяўляецца пабудова будучага галоўнага корпусу станцыі, часовая электрастанцыя і торпараспрацоўкі.

Наведваць Асінбуд (адрас — Асінбуд, БССР, Аршанскай акругі) і Асінтроп (адрас — ст. Асінаўка, МББ чыг., с. Шабаны, Будаўскага с. с., Дубровенскага раёну, Аршанскай акр.) можна толькі па асобым ўзгадненьні з кіраўніцтвам Асінбуду ў кожным выпадку. Таму кожная экскурсія павінна загадзя сьпісацца з Асінбудам аб сваім жаданьні аглядзець яго.

Маршрутам для экскурсіі на Асінбуд будзе зьяўляцца шлях ад пункту выезду да Асінбуду і назад дадому з аглядам цікавых пунктаў па дарозе.

---

[1]) Міхась Гольдбэрг. Пабягуць слупы. Нарысы і нататкі. Менск, 1929, ст. 66.

[2]) Будова Асінаўскай электростанцыі. „Наш Край“, Менск, 1928, № 10, ст. 9. Апрача таго варта пазнаёміцца з працай С. К. Жураўскага. Асінторп і Асінбуд. „Наш Край“, Менск, 1928, № 10, ст. 10—14.

В. Скардзіс.

# Літоўцы на Беларусі.

*(Нарыс аб літоўскіх коленіях).*

## I. Уступ.

Да апошняга часу недастаткова высьветлена жыцьцё літоўскага насельніцтва на Беларусі. А між тым цяпер ужо ёсьць некаторая магчымасьць распачаць справу па вывучэньні быту літоўскага народу, які сваім гістарычным мінулым так цесна зьвязаны з народам беларускім. Аб гэтым правільна было падкрэсьлена ў дэкляpaцыі 1-га Ўсебеларускага зьезду сялян-літоўцаў, прысьвечанай другой сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня, у студні месяцы 1928 г. Там гаворыцца: „літоўцы і беларусы маюць многа агульнага ў мінулым: ад царызму літоўцы цярпелі таксама, як і беларусы. Поруч з вялікай эксплёатацыяй, літоўцы як і беларусы, цярпелі нацыянальны ўціск. Большасьць літоўцаў-колёністых прышлі на Беларусь з прычыны нястачы зямлі ў Літве. Тут яны разам з беларусамі выкарчоўвалі лясы і апрацоўвалі зямлю“ [1]).

У нашай краязнаўчай літаратуры нярэдка зьяўляюцца весткі аб жыцьці нацменшасьцяй, толькі аб літоўцах да гэтага часу яшчэ нічога не зьмяшчалася.

Гэты артыкул і ставіць прад сабой мэту даць кароткі нарыс аб узьнікненьні на Беларусі літоўскіх паселішч, іх разьвіцьці, экономічным і культурным стане ў сучасны момант і ў мінулым, азнаёміць з спэцыфічнымі рысамі іх быту.

На гэты нарыс трэба глядзець, як на спробу, на падставе невялічкіх больш-менш сыстэматызаваных матар‘ялаў, азнаёміць савецкую грамадзкасьць з жыцьцём літоўскае народнасьці на тэрыторыі Беларусі. Гэтая народнасьць, падпаўшая моцнаму ўплыву процэсу асыміляцыі, яшчэ ня страціла, аднак, свае нацыянальныя ўласьцівасьці і заслугоўвае ўвагі з боку краязнаўства [2]).

## II. Насельніцтва.

Літоўскае насельніцтва раскідана па розных кутках Беларусі. Літоўцы жывуць па гарадох і мястэчках, але пераважная большасьць

---

[1]) Pirmas vîvos sov Baltarusijos suvažiavimas (protokolai). Стар. 31.

[2]) Пры складаньні нарысу мы карысталіся наступнымі матар‘яламі:

1) Матар‘ялы з Літсэкцыі пры ЦК КПБ і інспэктара літкультуры пры Наркамасьветы;

2) Матар‘ялы ЦСУ БССР і СССР.

3) Тыднёвая літоўская газэта у Менску „Raudonasis Artojas“ („Чырвоны Араты“).

4) Часопіс „Kolektyvas“ №№ 29-30, 1927-1928 г. г. (выданьне літсэктару Кам. Ін-ту Зах. Нац. ў Маскве);

5) „Практическое разрешение национальнаго вопроса в БССР.“ Ч. II-ая, выданьне Нацкамісіі ЦВК БССР.;

6) „Pirmas visos sov. Baltarusijos swvažiavimas“ (protokolai), выданьне Нацкамісіі ЦВК БССР на літоўскай мове, Менск 1928 г. (протоколы Першага Ўсебеларускага Зьезду сялян-літоўцаў).

Пералічаныя матар‘ялы былі-б зусім недастатковымі ні для таго, каб мець патрэбныя фактычныя даныя, ні для тых агульных вывадаў, якія зьмешчаны ў нарысе. Нашы ўласныя нататкі, якія сабраны ў выніку самастойнага азнаямленьня з жыцьцём літоўцаў вёскі і гораду, зьяўляліся неабходнымі дадатковымі матар‘ яламі ў працы.

іх зьяўляецца вясковым насельніцтвам. Больш значную ступень нацыянальнае самабытнасьці захавала літоўская вёска, ды і то толькі ў тых мясцовасьцях, дзе пападаюцца больш кампактныя масы гэтае народнасьці. Апрача такіх вёсак, якія заселены выключна літоўцамі-сялянамі, сустракаюцца вёскі са зьмешаным насельніцтвам (літоўцы і латышы, літоўцы і беларусы, літоўцы і палякі), і, нарэшце, паасобныя літоўскія двары можна знайсьці даволі ня рэдка паўсюды.

З прычыны вялікае раскіданасьці насельніцтва, вельмі цяжка ўлічыць яго сапраўдную колькасьць.

Паводле даных дэмографічнага перапісу 1926 г. агульная колькасьць літоўцаў на Беларусі вызначаецца наступнымі лічбамі: [1]).

| мужч. | жанч. | усяго |
|---|---|---|
| 3502 | 3361 | 6863. |

Падзяліўшы гэтую лічбу на вясковае і гарадзкое насельніцтва і разьмеркаваўшы яе па акругах, мы атрымаем наступную табліцу.

| Акругі | Гарадзкое насельніцтва | | Вясковае насельніцтва | | Усяго | | Агульная колькасьць абодвых станаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | |
| Бабруйская | 112 | 112 | 100 | 82 | 212 | 194 | 406 |
| Віцебская | 237 | 153 | 522 | 476 | 759 | 629 | 1388 |
| Гомельская | 194 | 199 | 75 | 79 | 569 | 278 | 547 |
| Менская | 297 | 346 | 276 | 230 | 573 | 276 | 1149 |
| Мазырская | 18 | 7 | 47 | 34 | 65 | 41 | 106 |
| Магілеўская | 82 | 91 | 245 | 248 | 327 | 339 | 666 |
| Аршанская | 49 | 27 | 877 | 875 | 926 | 902 | 1828 |
| Полацкая | 55 | 48 | 316 | 354 | 371 | 402 | 773 |
| Усяго | 1044 | 983 | 2458 | 2378 | 3502 | 3361 | 6863 |

Як бачым, першае месца па колькасьці літоўскага насельніцтва займае Аршанская і Віцебская акругі, слабей заселены ім Бабруйская і Мазырская акругі.

Процантныя суадносіны літоўцаў на вёсцы і ў годрадзе такія:

вясковага літоўскага насельніцтва . . . 69,2%
гарадзкога „ „ . . . 30,8%

Колькасныя суадносіны літоўцаў і іншых нацыянальнасьцяй, якія насяляюць абшары БССР., вызначаюцца ніжэйпаданымі лічбамі. [2]):

---

[1]) Бюлетэнь Цэнтр. Статыст. Управы Белар. ССР. Вып. I., стар. 7.

Заўвага аўтара: У часе дэмографічнага перапісу 1926 г. траапляліся выпадкі, калі жыхарства некаторых паасобных літоўскіх двароў, якія сустракаліся сярод іншых народнасьцяй, рэгістраваліся, як належачыя да гэтых народнасьцяй.

[2]) „Практическое разрешение нац. вопроса в БССР, ч. II-я, стар. 20.

| Нацыянальнасьці | Колькасьць жыхарства | % | Нацыянальнасьці | Колькасьць жыхарства | % |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусы . . . . | 4017301 | 80,62 | Немцы . . . . | 7075 | 0,15 |
| Яўрэі . . . . . | 407059 | 8,19 | *Літоўцы* . . . | 6863 | 0,14 |
| Расійцы . . . . | 383806 | 7,7 | Татары . . . . | 3777 | 0,07 |
| Палякі . . . . | 97498 | 1,96 | Цыганы . . . . | 2366 | 0,05 |
| Украінцы . . . | 34681 | 0,69 | Эстонцы . . . . | 967 | 0,02 |
| Латышы . . . . | 14061 | 0,28 | іншыя . . . . | 7786 | 0,13 |

Такім чынам, літоўцы, складаючы 0,14% усяго насельніцтва рэспублікі, займаюць па сваёй колькасьці 8-е месца сярод іншых нацыянальнасьцяй.

У агульным ліку вясковага насельніцтва БССР літоўцы складаюць 0,11%, а гарадзкога—0,25%.

Аб ступені заселенасьці літоўцаў у гарадзкіх і вясковых паселішчах можна сказаць наступнае. Па гарадох і мястэчках літоўцаў налічваецца звыш дзьвюх тысяч (мужч.—1044, жанч.—983). Па буйных гарадзкіх цэнтрах яны разьмяркоўваюцца так:

| Г А Р А Д Ы | М. | Ж. | Усяго |
|---|---|---|---|
| Бабруйск . . . . . . . . . | 34 | 27 | 61 |
| Віцебск . . . . . . . . . . | 219 | 149 | 368 |
| Ворша . . . . . . . . . . | 24 | 19 | 43 |
| Гомель . . . . . . . . . | 182 | 188 | 370 |
| Барысаў . . . . . . . . . | 38 | 25 | 63 |
| Жлобін . . . . . . . . . | 52 | 50 | 102 |
| Менск . . . . . . . . . . | 237 | 310 | 547 |
| Магілеў . . . . . . . . . | 59 | 72 | 131 |
| Полацак . . . . . . . . . | 46 | 44 | 90 |
| Усяго . . | 891 | 884 | 1775 |

Рэшта гарадзкога літоўскага насельніцтва прыпадае на больш дробныя гарады і мястэчкі.

Што-ж датычыцца да расьсяленьня літоўцаў-сялян, дык паданая ніжэй табліца пералічае толькі тыя раёны, дзе ёсьць звыш 50 асоб абодвых станаў.

| Раёны | Акругі | Ад 50—100 асоб | | Звыш 100 асоб | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | м. | ж. | м. | ж. | |
| Багушэўскі | Аршанская | 36 | 30 | — | — | 66 |
| Чарэйскі | " | 40 | 40 | — | — | 80 |
| Крупскі | " | — | — | 142 | 154 | 296 |
| Расьнянскі | " | — | — | 261 | 275 | 536 |
| Дрыбінскі | " | — | — | 83 | 86 | 169 |
| Дубровенскі | " | — | — | 226 | 233 | 459 |
| Барысаўскі | Менская | — | — | 85 | 80 | 165 |
| Кузьняцоўскі | Віцебская | 44 | 22 | — | — | 66 |
| Віцебскі | " | 33 | 19 | — | — | 52 |
| Высачанскі | " | — | — | 83 | 83 | 166 |
| Ліознянскі | " | — | — | 192 | 196 | 388 |
| Сененскі | " | — | — | 104 | 94 | 198 |
| Лупалаўскі | Магілеўская | — | — | 161 | 158 | 319 |
| Ветрынскі | Полацкая | — | — | 52 | 52 | 104 |
| Полацкі | " | — | — | 56 | 59 | 115 |
| Расонскі | " | 33 | 18 | — | — | 51 |
| Ульскі | " | — | — | 82 | 106 | 188 |
| | Усяго | 186 | 129 | 1527 | 1576 | 3418 |

У зазначаных вышэй раёнах Аршанскай, Менскай, Віцебскай і Магілеўскай акруг разьмяркованы найбольш компактныя масы літоўскага сялянства—3418 чал., што складае 70% усяго вясковага літоўскага насельніцтва. Тут яны жывуць вёскамі, сярод якіх трапляюцца даволі вялікія (Сафійск, Малькаўка) па колькасьці насельніцтва і заселеныя ў большай частцы выключна літоўцамі. Першае месца па компактнасьці займаюць Расьнянскі і Дубровенскі раён Арш. акругі, Лезьнянскі раён Віцебскай акругі і Лупалаўскі раён Магілеўскае акругі.

У бягучым годзе на тэрыторыі Расьнянскага раёну Аршанскай акругі, згодна пастановы прызыдыуму ЦВК БССР арганізаваны нацыянальны літоўскі сельсавет — Малькаўка.

Дзякуючы компактнасьці насельніцтва ў названых раёнах, там, галоўным чынам, і концэнтруецца ўся тая праца па культурным абслугованьні літоўскай насельнасьці на роднай мове, якое праводзіцца адпаведнымі ўстановамі (Літбюро пры ЦК КПБ і інспэктар літкультуры пры Наркамасьветы БССР). Рэшта літоўскага сялянства (каля 30 %) раскідана па іншых раёнах; жывуць яны невялічкімі паселішчамі і паасобнымі дварамі.

Такі, прыблізна, лічбовы малюнак літоўскае народнасьці па БССР падае дэмографічны перапіс 1926 году. Для ўстанаўленьня дынамікі росту насельніцтва ў нас ёсьць занадта мала дакладных вестак. Нам вядома, што большасьць літоўскіх вёсак — колёній заснавалася на тэрыторыі Беларусі ў 80 гадох XIX стагодзьдзя, прычым колёністыя перасяліліся сюды з Літвы. У беларускіх гарадох асядала параўнана невяліч-

кая частка перасяленцаў. Перапіс 1897 году наяўнасьць літоўскага жыхарства у б. Віцебскай, Менскай і Магілеўскай губэрнях вызначае наступнымі лічбамі:

| Губэрні | У гарадох | | | | | | На вёсцы | | | | | | Агульная колькасьць літоўскае народнасьці | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Літоўцы | | Жмудзіны | | Усяго | | Літоўцы | | Жмудзіны | | Усяго | | | |
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Віцебская . . | 195 | 132 | 4 | 2 | 199 | 134 | 1014 | 894 | 33 | 28 | 1047 | 922 | 1246 | 1056 |
| Менская . . | 103 | 33 | 12 | 21 | 115 | 54 | 261 | 216 | 28 | 27 | 289 | 243 | 404 | 297 |
| Магілеўская . | 87 | 33 | 7 | 3 | 94 | 36 | 1749 | 1731 | 4 | 5 | 1573 | 1736 | 1847 | 1772 |
| Усяго . . | 385 | 198 | 23 | 26 | 408 | 224 | 3024 | 2841 | 65 | 60 | 3089 | 2901 | 3497 | 3125 |

Як відаць з гэтае табліцы ў 1897 г. у межах памянёных вышэй губэрняў літоўцаў налічвалася—6622 асобы абодвых станаў. Гэтая лічба амаль што супадае з лічбаю перапісу 1926 году. Наглядаецца, такім чынам, зусім нязначны прырост насельніцтва на працягу 30 год. З гэтага параўнаньня, бязумоўна, нельга рабіць вывад, што зусім адсутнічаў рост насельніцтва. Тыя агульныя ўмовы жыцьця, у якіх апынуліся колёнізаваўшыя на тэрыторыю Беларусі літоўцы-сяляне, характарызаваліся аднолькавымі рысамі, як і ўмовы жыцьця іншых нацыянальнасьцяй, і прырост насельніцтва кіраваўся агульнымі законамі. Абсолютныя лічбы абодвых перапісаў не зьяўляюцца яшчэ паказальнікамі тэмпу павялічэньня колькасьці літоўскага насельніцтва. Параўнаньне перапісаў паказвае, што ў

| | вяск. нас. | гарадзкое нас. | усяго |
|---|---|---|---|
| 1897 г. было | 5990 | 632 | 6622 |
| 1926 „ „ | 4836 | 2027 | 6863 |

Тут назіраецца значнае зьмяншэньне вясковай часткі насельніцтва і непамерна высокі ўзрост гарадзкой яго часткі. Такое, на першы погляд, непаразуменьне тлумачыцца вельмі проста.

Пачнем з вясковага насельніцтва. Папершае, перапісам 1897 г. былі ахоплены памянёныя вышэй тры губэрні, плошча тэрыторыі якіх не супадае поўнасьцю з тэрыторыяй сучаснае дзяржаўнае Беларусі. Частка б. Менскай губ. адышла да Польшчы, частка б. Віцебскай губ.— да Латвіі, а некаторыя ўсходнія воласьці б. Магілеўскай і Віцебскай губ. у сучасны момант знаходзяцца ў межах РСФСР. А між тым у гэтых адышоўшых мясцовасьцях былі літоўскія паселішчы, жыхарства якіх у 1897 г. была зарэгістравана, а ў перапіс 1926 году па БССР ужо не папала. Падругое, некаторая частка перасяленцаў, дзякуючы цяжкім экономічным умовам жыцьця і іншага роду меркаваньням, аб чым мы будзем гаварыць ніжэй, была прымушана пакідаць купленыя землі і выяжджаць з абшараў Беларусі пасьля 1897 году. Зварочваньне назад у Літву, або перасяленьне ў іншыя месцы Расійскай імпэрыі, адыход у гарады—усе гэтыя факты паказваюць на тую міграцыю, якая назіралася нясупынна сярод літоўскага насяленьня пасьля першага перапісу. Патрэцяе, калі падыходзіць да даных пера-

пісу 1926 году, дык трэба мецьна ўвазе вынік працэсу асыміляцыі, які меў месца сярод літоўцаў. На падставе пералічаных вышэй меркаваньняў зусім зразумела, што лічбы перапісаў ня могуць сьведчыць аб запраўдным тэмпе росту літоўскае вёскі, які наглядаўся і наглядаецца ў рэчаістасьці. Зусім іншае гавораць нам даныя, сабраныя анкетным парадкам па паасобных вёсках, заселеных літоўцамі. Вось напрыклад, даныя па вёсцы Сафійск (Лупалаўскі р., Магілеўскае акругі).

| Гады | Колькасьць гаспадарак | Колькасьць жыхарства | %% жыхарства |
|---|---|---|---|
| 1887 | 29 | 146 | 100% |
| 1923 | 55 | 327 | 224% |
| 1927 | 58 | 345 | 236% |

Па вёсцы Б. Асінаўка (Крупскі раён, Аршанскае акругі) у нас ёсьць наступныя лічбы:

| Гады | Колькасьць гаспадарак | Колькасьць жыхарства | %% |
|---|---|---|---|
| 1888 | 11 | 67 | 100% |
| 1929 | 29 | 127 | 190% |

Прыведзеныя лічбы па гэтых вёсках паказваюць, што на працягу 40 год насельніцтва тут павялічылася ў сярэднім на 200%; гэта зьяўляецца нормальным ростам. Аналёгічны рост насельніцтва меў месца і па іншых літоўскіх вясковых паселішчах.

Што-ж датычыцца да гарадзкой часткі літоўцаў, дык параўнаўчыя лічбы абодвых перапісаў паказваюць на непамерна высокі яе рост (320%), бо ў нормальных умовах такі значны прырост насельніцтва за параўнальна невялікі тэрмін часу немагчымы. Гэтая зьява, аднак, тлумачыцца таксама вельмі проста. Імпэрыялістычная вайна 1914 г. сваім вынікам мела тое, што ў беларускіх гарадох асела вялікая колькасьць бежанцаў з б. заходніх губэрняў Рас. Імпэрыі, у тым ліку і з Літвы. Даволі значная колькасьць іх, па цэлым шэрагу прычын, не вярнулася на радзіму ў часе рээвакуацыі і засталася на Беларусі, дзе яны жывуць і цяпер. Лічба прыбылых на Беларусь бежанцаў-літоўцаў нам не вядома. На падставе нашых асабістых назіраньняў за жыцьцём літоўцаў можна сказаць, што, хаця бежанцы асядалі часова і па вёсках, аднак засталіся на Беларусі, галоўным чынам, тыя з іх, якія пасяліліся ў гарадох. Даных аб узросных групах літоўскага жыхарства мы таксама прывесьці ня можам.

На вялікі жаль мы ня можам таксама даць вестак і аб тым, якая колькасьць сялян-літоўцаў перасялілася на Беларусь, хаця-бы у тыя часы, калі засноўвалася большасьць літоўскіх вёсак. Некаторыя лічбы па гэтым пытаньні будуць прыведзены ў наступным разьдзеле.

### III. Узьнікненьне літоўскіх колёній.

Літоўцы, якія жывуць на тэрыторыі сучаснай БССР, зьяўляюцца не карэнным насельніцтвам, а прышлым. Яны сюды колёнізавалі з Літвы ў апошнюю чвэрць XIX стагодзьдзя, а невялічкая частка і трохі раней.

У гэты, прынамсі, пэрыод узьнікла большасьць літоўскіх вясковых паселішчаў, і толькі нямногія з іх утварыліся некалькі пазьней.

Дакладных вестак аб узьнікненьні літоўскіх колёній у нас ёсьць вельмі мала. Тыя-ж весткі, якія нам удалося сабраць, надта абмежаваны і носяць даволі агульны характар. Таксама мы абмежаваны і ў даных, якія маглі-б характарызаваць запраўдныя прычыны і мотывы, выклікаўшыя колёнізацыю літоўцаў на Беларусь. Колёнізацыя адбывалася па цэлым шэрагу самых рознастайных прычын. Дзеля таго, каб зрабіць спробу высьветліць гэтыя прычыны і падыйсьці да больш-менш правільных агульных вывадаў, трэба спачатку азнаёміцца з гісторыяй узьнікненьня паасобных вёсак, хаця-б найбольш тыповых. Гэта дасьць нам магчымасьць зрабіць потым і агульныя вывады.

Да апісаньня ўзьнікненьня некаторых вёсак мы цяпер і прыступілі, прычым агаворваемся, што тут мы надзвычайна абмежаваны матар'яламі і даць поўнага малюнку ня зможам. Толькі па вёсцы Сафійск у нас ёсьць больш падрабязныя весткі, бо гэтая колёнія трохі лепш дасьледвана. Недахоп матар'ялаў выклікае неабходнасьць, робячы вывады, прытрымлівацца прынцыпу аналёгіі, зразумела ў такіх памерах, каб аналёгія не магла сказіць фактаў рэчаістасьці.

### а) Хутары „Красное“ (Менская акруга, Барысаўскі раён).

Цяжкім, цярністым, патрабуючым вялікае напружанасьці сіл і энэргіі, поўным непамернай працы і клопатаў быў шлях колёнізацыі літоўскага сялянства, асабліва бяднейшай яго часткі, на абшары беларускіх зямель. Гэта тлумачыцца толькі шчырым імкненьнем літоўскае беднаты вырвацца як-небудзь з нядолі безьзямельля і жабрацтва на бацькаўшчыне і, пакінуўшы яе родныя загоны, шукаць шчасьця на чужыне, раздабыць кавалак зямлі і гаспадарыць. Вельмі навучальным у гэтым напрамку зьяўляецца ўзьнікненьне літоўскае колёніі „Красное“. Гэтая колёнія заснавалася на землях абшарніка Сьвіды ў 1884 годзе. Паміж панам і перасяленцамі з першых-жа дзён стварыліся такія ўмовы, якія напаміналі самыя сумныя дні прыгону. Справа зьяўляецца вось у чым. Выходзячы з пэўных гаспадарчых варункаў, абшарнік Сьвіда праз агентаў завербаваў да сябе з Літвы больш за дзесятак паасобных сем'яў, пераважна батрацкіх, якія адчувалі безьзямельле на бацькаўшчыне. Ён пасяліў іх у лесе і запрапанаваў на ільготных умовах раскарчаваць пэўную лясную плошчу пад пахаць. Ільготныя ўмовы працягнуліся толькі 6 год. Як толькі гаспадаркі колёністых трохі ўзмацніліся і дасягнулі тае ці іншае ступені дабрабыту, абшарнік паказаў свой запраўдны твар і замеры. „Дабрачынец“ (як гавораць старажылы гэтае колёніі) раптам абярнуўся ў самага лютага ворага. Вырвацца-ж з рук яго, аднак, ужо было немагчыма дзеля чыста гаспадарчых прычын. Шкада было шасьцігадовай працы, а з другога боку некуды было і дзявацца. Зямля, на якой аселі колёністыя, зьяўлялася ўласнасьцю пана. Гэтую ўласнасць ён пакінуў за сабою і па працягу 6 ільготных год. Цяпер ён прымусіў іх заключыць з ім кабальную ўмову. Паводле гэтае ўмовы была ўстаноўлена ня толькі арэндная плата за выкарчаваныя і апрацаваныя колёністымі вучасткі зямлі на месцы былой ляснай пусткі, але і паложана натуральная паншчына: кожны колёністы ў залежнасьці ад велічыні вучастку зямлі павінен быў працаваць пэўную колькасьць рабочых дзён у годзе беспасрэдна ў пан-

скім маёнтку. Умова гэтая, ня гледзячы на відавочнасьць кабальнага яго зьместу, усё-ж такі была зацьверджана належнымі дзяржаўнымі ўстановамі і атрымала, такім чынам, поўную юрыдычную сілу з усімі выцякаючымі з яе вынікамі і абавязкамі.

Такога тыпу арэндатарамі, зьвязанымі наяўнасьцю запраўдных прыгонных адносін з панам, дажылі колёністыя да самае пары Кастрычнікаўскае рэволюцыі. У 1905-6 г. г., калі па беларускай вёсцы пракатваліся хвалі аграрных рухаў, жыхарства „Красное“ зра-



Хата літоўца-селяніна, Віцебск. акр.

біла спробу сілаю вызваліцца з-пад панскага прыгнечаньня, зьнішчыць кабальную ўмову. Нам не вядомы падрабязнасьці, у якія формы вылілася барацьба сялян-літоўцаў з панам, у экономічнай залежнасьці ад якога яны поўнасьцю знаходзіліся, як гэтая барацьба праводзілася і падрыхтоўвалася, кім яна кіравалася. Але ў нас ёсьць весткі аб тым, што ў выніку выступленьня супроць пана некалькі сялян было заарыштавана і затым паплаціласа судом і турмою. Мы таксама ня ведаем, ці палепшыўся колькі-небудзь матар'яльны стан колёністых пасьля гэтых падзей.

Толькі рэволюцыя 1917 г. вызваліла сялян-колёністых і ад кабальнага контракту і ад пана, і адчыніла новую паласу ў іх жыцьці, паласу свабоднага будаўніцтва гаспадаркі, вольнага карыстаньня зям-

лёю, за якую ім прышлося на працягу больш як трох дзесяткаў год цярпець гэтулькі зьдзеку. У сучасны момант сярод насельніцтва „Красное" налічваецца да 180 чал. літоўцаў, якія вядуць хутарскую сыстэму гаспадаркі і ў значнай ступені асымілюваліся.

б) Ліцьвінка і Жаўняк (Аршанская акруга, Крупскі раён).

Колёнія Ліцьвінка заснавалася ў 1884 г. Організаваўшыся ў пакупное зямельнае таварыства, 15 сямействаў Няджугскай, Бутрыманскай, Аляксандраўскай і інш. вал., Трокскага павету, б. Віленскай губ., купілі ў абшарніцы Менжынскай да 500 дзесяцін зямлі, а некалькі пазьней прыкупілі яшчэ 120 дзесяцін, блізка ад м. Бобр.[1]). Пераважная большасьць зямельнае плошчы была пад лесам. Лясы, галоўным чынам, і прывабілі сюды колёністых. Справа ў тым, што на радзіме амаль што ўсе яны мелі ўласныя гаспадаркі сярэдняга дастатку, хаця пескаватая якасьць глебы і ня вельмі аплачвала вядзеньне гаспадаркі. Галоўнаю перашкодаю для нормальнага земляробства сяляне лічылі адсутнасьць лесу, недахоп і дарагоўлю апалу. Даведаўшыся аб тым, што на Беларусі многія абшарнікі распрадаюць свае землі і што Пазямельны банк дае крэдыты на пакупку зямель, — колёністыя набываюць зямлю ў б. Менскай губ. Але ня толькі лясныя багацьці вабілі сюды перасяленцаў. Частка калёністых кіравалася таксама жаданьнем набыць найбольш зямлі. На бацькаўшчыне адчуваласая зямельная цесната. Перасяленьне адчыняла больш шырокія пэрспэктывы і магчымасьці. Збыўшы з рук сваю рухомую і нярухомую маемасьць на бацькаўшчыне, некаторыя з іх марылі аб пашырэньні і ўзмацненьні сваіх гаспадарак. І запраўды, ім удалося набыць досыць значныя кавалкі зямлі розных угодзьдзяў у тым ліку і з лясною плошчаю.

Пераезд на чужыну, частковая аплата вартасьці купленай зямлі, абсталяваньне на новых мясцох з тым, каб стварыць як-небудзь умовы для гаспадараньня, — усё гэта патрабавала ад колёністых затраты апошніх сродкаў. А між тым трэба было распрацоўваць лясныя зарасьлі, павялічваць плошчу пахаці, набываць сельска-гаспадарчыя прылады, жывёлу, будаваць жальлёвыя і гаспадарчыя будынкі і г. д. На ўсё гэта патрэбны былі грошы. Пры першых кроках гаспадарчага абсталяваньня таксама нярэдка трэба было зьвяртацца і да наймовае рабочае сілы, асабліва тым сем'ям, дзе бракавала ўласных рабочых рук. Апрача таго патрэбны былі сродкі і на выплату штогодніх узносаў і процантаў пазямельнаму банку, а таксама іншых дзяржаўных падаткаў і збораў. Урад колёністым не даваў ніякіх ільгот. Зразумела, што пры гэткіх умовах наладжваць сваю гаспадарку было вельмі цяжка. Мары аб багацьці і вольным жыцьці на чужыне, аб спакойным і выгодным гаспадарчым будаўніцтве згасьлі, калі паўстала перад перасяленцамі суровая рэчаістасьць. Жыцьцё вымагала самай напружанай працы. Лясныя багацьці, якія зьяўляліся асноўнаю крыніцаю сродкаў для пачатку гаспадараньня, эксплёатаваліся зусім не рацыянальна і далёка не маглі пакрываць усе гаспадарчыя выдаткі.

Хаця глеба ў першыя гады з-пад ляд давала сярэднія ўраджаі, але якасьць глебы з цягам часу не палепшылася, а наадварот пагоршылася. Глеба аказалася пяшчанаю, неўраджайнаю. Вялікія кавалкі

---

[1]) Цана зямлі — 150 руб. валока (20 дзесяцін).

зямлі, якімі ўладалі колёністыя, не маглі быць належным чынам угноены і апрацаваны. Жывёлагадоўля і да гэтага часу ў колёніі стаіць на нізкім узроўні, а набываць у дастатковай колькасьці штучнае ўгнаеньне зьявілася справаю немагчымаю дзеля адсутнасьці сродкаў. Наогул з інтэнсыфікацыяй земляробства справа ў колёніі стаіць надзвычайна дрэнна. Ураджай вельмі зьнізіўся. Імпэрыялістычная, а затым і грамадзянская вайна адмоўна адбілася на гаспадарчым стане колёніі.

У сучасны момант колёнія налічвае 24 гаспадаркі і да 130 асоб насельніцтва. У выніку досыць частых сямейных падзелаў гаспадаркі раздрабіліся. Па сваім надворным выглядзе колёнія не адрозьніваецца ад любой беларускай вёскі.

Сяляне з пасёлку Жаўняк, які знаходзіцца ў адлегласьці $1^1/_2$ кілёмэтра ад Ліцьвінкі, паходзяць з Панявескага павету б. Ковенскай губ. (Літва). Раней некаторыя з іх зьяўляліся дробнымі арандатарамі ў фольварках на Беларусі, а затым, прыблізна ў тыя-ж гады, як і насельнікі Ліцьвінкі, адкупілі ў тае-ж самае абшарніцы Менжынскай да 200 дзесяцін зямлі і заснавалі пасёлак, які цяпер налічвае 7 гаспадарак.

в) Новыя Халмы, Даўнары, Новыя Балтуны, Каралінава, Пеліксава. (Аршанская акруга, Дубровенскі раён).

Памянёныя літоўскія вёскі знаходзяцца ў блізкай адлегласьці адна ад аднэй. Паасобныя перасяленцы з Літвы сюды сталі зьяжджацца яшчэ з 1877 г.[1]). У мясцовага абшарніка яны куплялі зямлю. Чуткі аб магчымасьці набываць зямлю на Беларусі перадаваліся ў Літву і паступова сьцягвалі сюды групы перасяленцаў. Большасьць іх прыбыла ў пэрыод 1882—1892 г. г.. Яны паходзілі з Вількамірскага і Нова-Аляксандраўскага паветаў б. Ковенскай губ. (Анікштанскай, Трашкунскай і іншых валасьцей). Аселі колёністыя сярод лясоў і лясных зарасьцяй. Зямля куплялася імі з дапамогаю зямельнага банку, які прадаставіў доўгатэрміновы крэдыт (на 25 год) па $8^1/_2\%$ гадавых.

Крэдыт павінен быў выплачвацца штогоднымі ўзносамі адначасна з уплатаю процантаў. Кожная дзесяціна зямлі была ацэнена ў 40 руб. Такая цана, калі параўнаць яе з цаною зямлі ў Літве, казалася зусім нізкаю. Аднак, і самы павярхоўны падлік паказвае, што запраўдная вартасьць зямлі колёністым абышалася значна больш, чым 40 руб. Прадастаўлены зямельным банкам доўгатэрміновы крэдыт вымагаў ня толькі паступовага выплачваньня, але і ўплаты вызначаных процантаў. І калі падлічыць агульную суму выплачаных на працягу 25 год процантных грошай, ды яшчэ прыдаць да гэтае сумы пені за несваечасовыя выплаты крэдыту, што ня вельмі рэдка здаралася ў практыцы колёністых, дык номінальная цана зямлі падвоіцца, а можа, нават, і патроіцца. Тут мы сустракаемся з надзвычайна характэрным і яскрава відавочным прыкладам таго, як царскі ўрад, патураючы зямляўласьніцкай псыхолёгіі селяніна, бязьлітасна яго эксплёатаваў сваёю крэдытнаю сыстэмаю ў форме зямельных банкаў (Віленскі, Маскоўскі сялянскі зембанк).

І тут зямля сярод колёністых разьмяркоўвалася няроўнамерна. Заможныя набылі ня толькі большыя кавалкі зямлі, але і лепшую па якасьці. Прыбыўшая бедната павінна была здавольвацца тым, што за-

[1]) „Kolektyvas" Часопіс № 29-30, 1927-28 г., Масква, стар. 21.

ставалася. Такое разьмеркаваньне зямлі ў часе перасяленьня адбілася і на далейшым социяльным распластаваньні сярод колёністых. Гэта відаць па заможнасьці гаспадарак і, нават, па ўзроўні сельска-гаспадарчай культуры. Напрыклад, у вёсках „Новыя Халмы" і „Даўнары" яшчэ і цяпер ёсьць кулацкія гаспадаркі, ды і серадняцкія гаспадаркі ўладаюць тут параўнальна лепшым дастаткам, а беднаты амаль што няма. Зусім ня тое мы бачым у „Новых Балтунох" і „Пеліксаве". Тутака пераважна асела колёнізаваўшая бедната, ды і зямля некалькі ніжэй па сваёй якасьці. У сувязі з гэтым агульны дабрабыт сялянства ўступае першым дзьвюм колёніям. Тут поруч з серадняками нямала ёсьць і беднаты.

Усяго ў названых вышэй вёсках цяпер налічваецца да 70 літоўскіх гаспадарак, самага стракатага маемаснага стану. Насельніцтва каля 400 ч. Пры заснаваньні яны расьсяліліся невялічкімі вёскамі, але ў сучасны момант тут выключна хутарское зямлякарыстаньне. Адны правялі ў сябе землеўпарадкаваньне ў часе „сталыпінскай" рэформы, а другія ўжо пры Савецкай уладзе.

г) Сафійск (Магілеўская акруга, Лупалаўскі раён).

Колёнія Сафійск заснавалася ў 1886 г. на месцы фольварку тае-ж назвы, які належаў тульскаму фабрыканту Баташову. Колёністыя зьяўляюцца выхадцамі з б. Ковенскай губ. (Вількамірскі і Нова-Аляксандраўскі паветы). І тут галоўнаю прычынаю, з-за якой вынікла перасяленьне, трэба лічыць недахоп зямлі на радзіме.

Тыя, што пражывалі раней на Беларусі паасобныя сем'і літоўцаў і ўладаўшыя тут зямлёю на правох уласнасьці, або часьцей трымаўшыя яе ў арэндзе, падавалі на былую радзіму сваім крэўным і знаёмым весткі аб тым ці іншым маёнтку, які прадаваўся. Аб продажы іх таксама абвяшчалася часам у газэтах.

Так здарылася і з колёністымі-літоўцамі, якія заснаваліся ў Сафійску. У 1885 г. чатыры ўпаўнаважаныя розных прыходаў (Віжуны, Лялюны) накіраваліся ў б. Чэрыкаўскі павет аглядаць маёнтак Малькаўку, які ад Магілева знаходзіўся на адлегласьці 70 вёрст. Мясцовасьць, як відаць, ім спадабалася. Зьвярнуўшыся ў Літву, яны сталі організоўваць таварыства дзеля куплі гэтага маёнтку. Было сабрана да 10 тысяч рублёў у задатковыя сродкі і ўпаўнаважаныя, атрымаўшы на рукі грошы і патрэбныя документы, зноў накіраваліся к месцу куплі. Але пакупка Малькаўкі не адбылася. Пан Тэрман ня выканаў узятых на сябе ўмоў, хаця запродажны запіс быў зроблены і да дзесяці тысяч рублёў было дадзена задатку. Пачаўся суд з панам, які працягнуўся каля двух гадоў. Выпадкова ў Магілеве, дзе яны вялі суд з панам, вясною 1886 г. ад яўрэя-маклера яны пачулі аб тым, што ў 25 вёрстах ад Магілева, на Мсьціслаўскім тракце, прадаецца маёнтак Сафійск. Пацярпеўшы няўдачу з адным панам, яны рашылі паспрабаваць шчасьця з другім. У Сафійску быў толькі кіраўнічы. Гэты апошні катэгорычна адмовіўся даць упаўнаважаным якія-небудзь канчатковыя весткі. Ён проста і сказаў ім, што, хаця маёнтак і назначаны ў продаж, але толькі за хабар у тысячу рублёў ён згодзен паказаць ім дзе жыве пан. Кідаць тысячаю рублёў упаўнаважаныя, зразумела, не маглі. Ім удалося выведаць, што прозьвішча пана—Баташоў і што ён паходзіць з Тулы. Адзін з упаўнаважаных сьпяшаецца ў Тулу да Баташова, але ў Туле яго не знаходзіць: пан у гэты час лячыўся ў Крыме, у Ялце. Справа ўскладнялася.

Упаўнаважаны вярнуўся зноў у Магілеў. Разам з маклерам адзін з упаўнаважаных едзе ў Крым. Прыбылі яны ў Ялту ў красавіку. Расказваюць цяпер у колёніі, што пан быў вельмі зьдзіўлены, калі ўбачыў перад сабою ў якасьці пакупніка свайго маёнтку простага селяніна. Баташоў, пасьля нядоўгіх перамаўленьняў, згадзіўся прадаць маёнтак, ніводнага разу ня быўшы ў ім. Бяз ведама кіраўнічага маёнтку быў зроблены запродажны запіс, дадзены задатак і пакупнікамі атрыманы быў афіцыйны дазвол на права ўладаньня маёнткам да заключэньня купчае



Хата літоўца-селяніна ў в. Малькаўка, Арш. акр.

ўмовы. Зьвярнуўшыся ў Магілеў з Ялты, упаўнаважаны з двума іншымі таварышамі, маючы на руках патрэбныя паперы, зьявіліся да кіраўнічага маёнткам. Уся рухомая і нярухомая маемасьць маёнтку была па сьпісу прынята пакупнікамі. Зьбіты з панталыку кіраўнічы павінен быў безадкладна выехаць з маёнтку; ён не пасьпеў нічога нават прадаць з маемасьці. Ужо ад сябе пакупнікі дазволілі яму ўзяць толькі каня са збруяй. Двое з 'упаўнаважаных засталіся ў новаздабытым месцы, а адзін вярнуўся ў Літву з данясеньнем аб зробленай куплі.

Вясною 1886 г. сем'і, якія ўвайшлі ў склад таварыства па куплі зямлі, сталі ліквідаваць свае гаспадаркі ў Літве і групамі выяжджаць на Беларусь.

Грошы, атрыманыя пры ліквідацыі рухомае маемасьці фольварку, пайшлі на выдаткі па куплі. Будынак, мэбля, жывёла (8 раб. коняй і да 50 галоў рагатае жывёлы), хатняе птаства, зерняты для сяўбы— усё было разьмеркавана паміж прыбыўшымі колёністамі ў выглядзе распродажы з таргоў. Колёнія асела двума выселкамі: 1) асяродкавы

выселак—Сафійск і 2) выселак Супонічы, які адлягаў ад першага на 2 кілёмэтры. (Выселак Супонічы хутка расформаваўся).

Да 1895 году колёнія ўсталявалася канчаткова, як адна вёска.

д) Малькаўка (Аршанская акруга, Расьнянскі р.).

Тут ёсьць цяпер да 525 чал. насельніцтва і 90 гаспадарак. Малькаўка ўзьнікла на месцы фольварку, які належаў абшарніку Тэрману, у б. Чэрыкаўскім пав. Магілеўскай губ. Абшарнік спачатку запрадаў гэты маёнтак тым перасяленцам, якія аселі ў Сафійску. Але гэтая купля не аформілася з прычыны невыкананьня абшарнікам узятых на сябе ўмоў. Каб атрымаць страхавыя грошы, абшарнік спаліў бровар, які паводле заключанай запрадажнай умовы павінен быў перайсьці ва ўласнасьць перасяленцаў. Не вядома чым закончылася-б судовая цяганіна пакупшчыкаў з панам, але тут зьявілася новая партыя пераселенцаў з Літвы (Ковенскай и Віленскай губ.), якая і адкупіла маёнтак з дапамогаю Маскоўскага сялянскага пазямельнага банку, дзе маёнтак быў закладзены. Гэтая пакупка абышлася колёністым даволі дорага.

Напярэданьні рэволюцыі перад колёністымі стаяла пагроза продажы часткі зямлі з таргоў, так непамерна высокія былі плацяжы за зямлю і так многа накапілася за некалькі дзесяткаў год недаімак.

У Малькаўцы аселі розныя па соцыяльным складзе групы перасяленцаў. Спачатку яны ўсталяваліся ў выглядзе вялікае вёскі, а затым у „сталыпіншчыну“ перашлі на хутары і пасёлкі.

### Некалькі агульных вывадаў.

Апісваць процэс заснаваньня іншых літоўскіх вёсак мы ня станем. Гэты процэс меў тыя-ж самыя характэрныя рысы, якія зазначаны вышэй. Цяпер застаецца падагуліць усё тое, што зьвязана з акалічнасьцямі ўзьнікненьня літоўскіх паселішчаў на Беларусі, і зрабіць некаторыя вывады:

1) Літоўскае насельніцтва на Беларусі не зьяўляецца карэнным.

2) Амаль што ўсе літоўскія колёніі тут узьніклі ў пэрыод 1881—1890 г. г., у сувязі з эміграцыяй літоўскага сялянства за межы, а таксама і перасяленьня ў розныя мясцовасьці б. Расійскай імпэрыі. Частка перасяленцаў асядала і на беларускіх землях.

3) Па сваім паходжаньні літоўцы зьяўляюцца выхадцамі, галоўным чынам, з усходніх паветаў б. Ковенскай губ. і часткова з Сьвянцянскага і Трокскага паветаў б. Віленскай губ.

4) Прычыны эміграцыі—экономічны стан сялянства Літвы. Галоўнаю прычынаю зьяўляецца стварыўшаяся ў 80-х гадох XIX ст. частковае перанасяленьне літоўскае вёскі, што выклікала малазямельле і безьзямельле сялянства. Гэтая акалічнасьць асабліва востра ставіла пытаньне аб перасяленьні перад масаю літоўскае беднаты. Недахоп лясных матар'ялаў на радзіме, а ў некаторых мясцох Літвы, нават, поўная адсутнасьць апалу ставіла насельніцтва ў вялікую экономічную залежнасьць ад мясцовага панства і кулацтва, рабіла ўмовы жыцьця вельмі неспагаднымі. Многія прымушаны былі шукаць новых зямель, што можна было ажыцьцявіць толькі шляхам яе пакупкі. Аднак парадак пакупкі зямель сялянамі, якая справа стала магчымаю толькі з часу заснаваньня сялянскага пазямельнага банку, ня мог даць беднаце

выйсьця з цяжкага матар'яльнага становішча, бо бедната ня мела дастатковых сродкаў, ды і, па думцы тагочаснага законадаўства, яна ня лічылася акуратным плацельшчыкам. Пакупка зямлі была больш даступнаю для заможных і серадняцкіх пластоў сялянства, якія мелі тую ці іншую маёмасьць. З ліквідаваньнем на радзіме маемасьці яны атрымоўвалі неабходныя задатачныя сродкі, а затым, пры дапамозе банкаўскага крэдыту, маглі сабе набываць зямлю. Трэба яшчэ падкрэсьліць і тое, што цана зямлі ў Літве была ў два-тры разы даражэй, чым на Беларусі, і продаж яе даваў у рукі перасяленцаў некаторы капітал, які рэалізаваўся ў куплі новых зямель. Пераважная большасьць перасяленцаў паходзіць, па нашай думцы, з серадняцкіх пластоў сялянства і з такіх менавіта, якія адчувалі зямельную цеснату, бо агрыкультурная справа ў тагочаснай Літве стаяла на даволі нізкім узроўні. Калі на частку сямей ужо давіла зямельная цесната, а другім сем'ям пагражала яна ў блізкай будучыні і прымушала іх прызадумвацца і клапаціцца над проблемай адшуканьня большых зямельных прастораў, дык тыя-ж, праўда, нешматлікія сем'і перасяленцаў, якія мелі ў Літве гаспадаркі звыш сярэдняга дастатку і, нават, заможныя, пакідалі радзіму па некалькі іншых меркаваньнях: ліквідуючы сваю маемасьць, яны імкнуліся заснаваць на чужыне больш моцныя гаспадаркі. Апрача пераважна серадняцкіх пластоў перасяленцаў прыехала нямала і беднаты. Удзел яе ў перасяленьні быў магчымым таму, што купля зямель праводзілася часьцей за ўсё таварыствамі, на правох кругавой парукі. Некаторыя з бядняцкіх сямей ня значыліся афіцыйна ў купчых актах, але прадаставіўшы таварыству свае мізэрныя сродкі, пры разьмяркоўваньні зямлі атрымоўвалі сваю частку, адпаведна суме ўнесенага капіталу. Першыя цяжкія гады жыцьця колёністых на новых землях, бязумоўна, спрыялі таму, што серадняцкая частка іх вельмі хутка пачала размывацца, і лічба беднаты павінна была павялічыцца.

5) Заснаваньне на Беларусі літоўскіх паселішчаў было-б немагчымым, каб ня спрыялі гэтаму мясцовыя ўмовы. Колёністыя куплялі зямлю ад мясцовых абшарнікаў то цэлымі маёнткамі, то пэўнымі вучасткамі.

Панская гаспадарка на Беларусі ў 80-х г. г. мінулага стагодзьдзя перажывала экономічны крызіс, які быў выкліканы тут агульным крызісам буйнога зямляўладаньня ў б. Расійскай імпэрыі. Гэты крызіс тлумачыцца ня толькі неспагаднаю для расійскага земляробства кон'юнктураю хлебнага рынку, што для беларускіх буйных зямляўласьнікаў ня мела такога важнага значэньня, як для зямляўласьнікаў чарназемнай паласы б. Расіі. Аснова крызісу залягала ў экономічных выніках аграрнае рэформы 1861 г. адносна панскае гаспадаркі. Ліквідацыя фэўдальна-прыгонных адносін паміж панам і селянінам, што было выклікана процэсам капіталізацыі буйнога зямляўладаньня, вымагала ад буйных прыватнаўласьніцкіх гаспадарак прыстасаваньня да новых умоў капіталістычнае сыстэмы. Пераход да яе, пры адсутнасьці патрэбных капіталаў на абсталяваньне, належнага гаспадарчага інвэнтара і на наём рабочае сілы,—аказаўся для часткі гаспадарак не пад сілу, і эксплёатацыя маёнткаў не магла быць рэнтабельнаю. Паны пачынаюць распрадаваць свае маёнткі. Панская зямля, такім чынам, ішла на продаж і ў сваёй некаторай частцы пераходзіла ў рукі іншых пластоў грамадзтва. Хаця аграрная рэформа 1861 году прадаставіла беларускаму панству значную частку зямельнага капіталу і тым самым

абезьзямеліла сялянства, аднак шмат дваран-зямляўласьнікаў ня здолелі дастасавацца да новых умоў жыцьця. Ня ўмеючы разьмеркаваць тыя грашовыя сродкі, якія былі даны ўмовамі сялянскага звальненьня, дваране-зямляўласьнікі прымушаны былі або закладаць сваю зямлю, або выкідваць яе на продаж. Заклад зямлі ў адпаведных крэдытных установах часова затрымліваў пераход дваранскай зямельнай уласнасьці пад уладу іншых грамадзянскіх клясаў. Але так ці інакш, мо' дзеля запазычанасьці дваранскага зямляўладаньня, а мо' з прычыны здольнасьці часткі дваран прыстасаваць сваю гаспадарку да новых патрэб жыцьця, плошча дваранскага зямляўладаньня пойшла па шляху няўхільнага і сыстэматычнага скарачэньня. У адносінах да ўсёй пасобнаўладчай плошчы, згодна абсьледваньня 1887 г., плошча дваранскага зямляўладаньня складала для Віленшчыны—89,5⁰/₀, Віцебшчыны—82,4, Смаленшчыны—61,3⁰/₀, Горадзеншчыны—84,2⁰/₀, Магілеўшчыны—82,3⁰/₀ і Меншчыны—93,4⁰/₀. Праз 10 гадоў, да 1897 г. плошча дваранскага землеўладаньня скарацілася па ўсім раёне на 15⁰/₀ [1]). Экономічны крызіс панскае гаспадаркі і стварыў тыя ўмовы, якія спрыялі колёнізацыі літоўцаў на Беларусь. Амаль што ўсе літоўскія вёскі заснаваліся на мясцох былых панскіх фальваркаў.

Паступовы процэс пераходу прыватнаўласьніцкае зямлі да сялян і мяшчан паказваюць наступныя лічбы [2]):

| Гады | Віцебшчына | | | Меншчына | | | Магілеўшчына | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ⁰/₀ двар. зямлі | ⁰/₀ сялян зямлі | ⁰/₀ мяшч. зямлі | ⁰/₀ двар. зямлі | ⁰/₀ сялян. зямлі | ⁰/₀ мяшч. зямлі | ⁰/₀ двар. зямлі | ⁰/₀ сялян. зямлі | ⁰/₀ мяшч. зямлі |
| 1877 | 83,5 | 2,6 | 4,5 | 93,1 | 1,2 | 1,3 | 89,4 | 3,3 | 3,2 |
| 1887 | 82,4 | 4,4 | 5,0 | 93,4 | 1,4 | 2,1 | 82,3 | 8,1 | 4,8 |
| 1905 | 60,7 | 12,1 | 6,6 | 76,6 | 4,6 | 1,1 | 60,0 | 28,0 | 6,9 |

6) Пакупка зямлі ў абшарнікаў літоўцамі - колёністамі адбывалася з дапамогай пазямельнага банку. Банк прадастаўляў пакупным таварыствам, пад заклад гэтае зямлі, доўгатэрміновы крэдыт ці ў форме выплаты пэўных сум прадаўцом, ці ў форме пераводу на імя таварыстваў таго доўгу, які лічыўся за былым зямляўласьнікам у выніку закладу маёнтку ў банк. Тая і іншая формы крэдыту надзвычайна закабалялі перасяленцаў. У выніку ўплаты гэтага крэдыту (пагашэньне крэдытнае сумы, выплата процантных грошай, розных збораў і нярэдка пеняў і штрафаў за несваечасовыя ўзносы растэрмінаваных сум) фактычная вартасьць набытае зямлі абышлася ў два-тры разы даражэй, чым яе номінальная ацэнка (25—40 руб.). Пазямельныя банкі, прадастаўляўшыя крэдыт літоўцам-перасяленцам, зьяўляліся па сутнасьці клясавымі органамі паноў па зборы зямельнае рэнты, у форме зварочваемае пазыкі і процантаў за прададзеную сялянству праз банк зямлю. Пан, атрымоўваючы праз банк ад сялян грошы, заставаўся ў баку ня маючы беспасрэдніх клопатаў з сялянствам. Замест пана

[1]) „Беларусь", арт. проф. Пічэты. „Клясавыя супярэчнасьці ў Беларусі напярэдадні рэволюцыі", стар. 82.
[2]) Проф. Довнар-Запольский. „Нар. Хоз. Белор. 1861—1914 г. г", стар. 33.

выступаў банк, які зьбіраў з сялянства грошы пры ўдзеле ісправуніка і прыстава.

7) Бывалі выпадкі, калі паны імкнуліся часткова колёнізаваць свае землі прышлым насельніцтвам, маючы на ўвазе тое, што перасяленцам можна будзе здаць зямельныя вучасткі ў арэнду на больш выгадных для сябе ўмовах, чым гэта можна было зрабіць з мясцовым карэнным насельніцтвам (заснаваньнем паселішча „Красное").

8) З тае прычыны, што ўрадам ня было прадастаўлена для перасяленцаў ніякіх ільгот—першыя гады жыцьця колёністых былі надзвычайна цяжкімі. Закабаленыя з боку пазямельнага банку, колёністыя разам з тым павінны былі не адставаць ад карэннага насельніцтва і ў галіне ўплаты рознастайных дзяржаўных падаткаў і збораў, якія спаганяліся валаснымі праўленіямі, земскімі ўправамі і іншымі ўстановамі. Кулацкая-ж верхавіна з ліку колёністых, карыстаючыся такімі экономічнымі абставінамі жыцьця, імкнулася стаць пасрэднікам паміж беднатою з аднаго боку, панам і банкам—з другога—пры ўплаце зямельнае рэнты і за гэтыя свае „паслугі" закабаляла беднякоў і серадня́коў з свойго боку.

Такая патройная эксплёатацыя пана і банку, царскага чыноўніка і свайго ўласнага кулака—ставіла пад вялікае сумненьне пэрспэктывы нормальнага гаспадарчага разьвіцьця колёністых, аб чым яны марылі, жывучы на радзіме.

*(Працяг будзе).*

---

M. Азбукін.

# Да пытаньня аб вывучэньні сялянскіх будынкаў.

Памяшканьне, у якім жыве чалавек, з географічнага погляду зьяўляецца адным з найбольш яскравых прыкладаў ролі чалавека ў краявідзе, уплыву чалавека на краявід і залежнасьці чалавека ад вакольных прыродна-географічных умоў.

Паколькі разуменьне аб краявідзе вызначаецца пераважна зрокавымі ўражаньнямі, пагэтулькі жыльлё—будынкі і групы будынкаў зьяўляюцца неаддзельнай часткай краявіду ўсіх залюдненых краёў і разам з гэтым служаць найбольш выразнай адзнакай таго, што ў гэтых краёх стала жыве чалавек.

Прасторы, занятыя будынкамі, самі могуць разглядацца, як асобны тып краявідных утварэньняў, як вучасткі земнай паверхні з сваёй асаблівай фізыономіяй. Прыродныя элемэнты краявіду, асабліва прыроднае расьліннае акрыцьцё і натуральныя групы жывёл тут зьнікаюць найбольш поўна, многа паўней, чымся ў палёх, паплавох, садох і гародах, дзе ўсё-ж такі заўсёды можна знайсьці рэшткі натуральнай флёры ды фаўны. Пры гэтым на забудаваных прасторах чалавек ня мае мэтай замяніць натуральныя расьліны і пачатковую жывёльнасьць новымі. З гэтай прычыны Брэн [1]) заве месца жыльля прыкладам „ня вытворчага займаньня" чалавекам часткі земнай паверхні.

---

[1]) Brunhes. La gèographie humaine.

Побач з жыльлём, мяшканьнем у цесным сэнсе слова, трэба паставіць і няжылыя памяшканьні, якія часта граюць ня менш прыметную ролю ў краявідзе і таксама адлюстроўваюць уплывы мясцовых прыродных умоў. Сюды належаць памяшканьні для хаваньня маемасьці або для працы чалавека ці для здавальненьня яго духоўных патрэб, а менавіта: 1) розныя гаспадарчыя сельскія будынкі, якія разам з хатай складаюць двор або сядзібу, 2) асобна разьмешчаныя кузьні, ветракі, млыны, крамы, школы, цэркви, фабрычныя корпусы, будынкі розных установ, склады і г. д.

Вывучэньне гэтых об'ектаў зьвязвае географію будынкаў з цэлым шэрагам пытаньняў географіі гаспадаркі і культуры.

У параўнаньні з іншымі антропогеографічнымі фактамі жыльлё і іншыя будынкі зьяўляюцца асабліва цікавай для географіі зьявай, як зьява найболей лёкалізаваная. Сярод розных тыпаў будынкаў і памяшканьняў рашучая большасьць ставіцца раз назаўсёды ў пэўным месцы і не падлягае перавозцы або пераносцы.

Праўда, з гэтага правіла былі і ёсьць выключэньні, напр. стандартызаваныя драўляныя хаты, якія яшчэ ў мінулым сталецьці выраблялiся на продаж у буйных гарадох Расіі, адкуль пакупцы перавозілі іх у свае вёскі, але ў агульных рысах нярухомасьць зьяўляецца нагэтулькі характэрнай асаблівасьцю тыповага чалавечага мяшканьня, што Брэн[1]) заве рухомыя памяшканьні—напрыклад кібіткі, ды юрты вандроўнікаў—у географічным сэнсе слова асобным гатункам адзеньня, а ня жыльля.

Прымацаваныя да пэўнага месца памяшканьні чалавека разам з тым могуць вырабляцца і ў большасьці выпадкаў вырабляюцца з матар'ялаў важкіх, якія ня могуць вытрымаць перавозкі на вялікую адлегласьць, а з гэтай прычыны звычайна здабываюцца ў непасрэднай блізкасьці ад таго месца, дзе намечана пабудова памяшканьня. У сувязі з гэтым тып і характар мяшканьня звычайна залежыць ад наяўнасьці ў данай краіне тых або іншых будавальных матар'ялаў, а значыць залежыць наагул ад мясцовых прыродных умоў.

У цяперашні час у лясных краінах пераважваюць драўляныя будынкі, у стэпавых—глінабітыя, у скалістых—каменныя.

Але ад прыродных умоў залежыць ня толькі матар'ял, але ў значнай меры і форма будынкаў.

Н. Харузін[2]) адзначае, што пашырэньне і перавага паўсфэрычнай або стажковай (конічнай) формы першапачатковай буды вызначаецца характарам мясцовай флёры. У раёнах распаўсюджаньня пальм, дзе першапачатковыя будкі будаваліся з ваепадобных лістоў, дагэтуль пануе паўсфэрычная форма будкавіднага жыльля; там-жа, дзе спачатку практыкавалася будаваньне буд з мацнейшых даўгіх і простых дручкоў, пашырылася конічная форма буды, якая з цягам часу эволюцыянавала ў хату з сьценамі і страхой.

Зусім відавочна залежнасьць характару мяшканьня ад клімату, ды іначай не магло-б і быць, бо галоўнае прызначэньне жыльля—гэта абарона чалавека ад непагоды і холаду. Ня кажучы ўжо аб будынках бяз сьцен, тыповых для раўніковых (экваторыяльных) краёў, аб будынках на палях у раёнах, пэрыодычна або заўсёды надмерна багатых вадой, аб ацяпленьні, якое рэзка адразьняе мяшканьне халод-

[1]) Ibidem.

[2]) Харузин, Н. Этнография. Лекции, читанные в Московском Университете. Вып. I. Спб 1901 г.

ных і мерна-халодных краін ад жыльля ў краінах цёплых і гарачых, нават і менш прыметныя розьніцы ў клімаце адбіваюцца на будынках. У мясцовасьцях, багатых дажджамі, хаты крыюцца стромай і высокай страхой, у той час як шлапаватая страха з нізкімі і пакатымі бакамі тлумачыцца імкненьнем чалавека скарыстаць ня вельмі тоўсты сьнегавы насьціл для аховы хат ад ахаладжваньня. У мясцовасьцях, вельмі бедных на ападкі, пануюць зусім плоскія стрэхі, а часам існуюць нават асаблівыя дапасаваньні для зьбіраньня дажджавой вады з дахаў у цыстэрны для патрэб штучнага абвадненьня.

З другога боку сухасьць клімату павялічвае пажарную небясьпеку і прымушае чалавека ў большай меры ўнікаць гаручых матар'ялаў для будынкаў.

Аднак трэба помніць, што будынкі залежаць ня толькі ад прыродна-геаграфічнага атачэньня, але таксама і ад фактараў гістарычных ды культурна-грамадзкіх. Выбар месца для жыльля, установка жыльля на палях, сьцены навокал падворку, форма жыльля—часам вызначаюцца імкненьнем чалавека абараніць сябе і сваю маемасьць ад ворагаў. Таксама эстэтычнае пачуцьцё насельнікаў прымушае іх дадаваць свайму мяшканьню той ці іншы выгляд, тыя або іншыя прыкрасы, якія ня маюць від очнай сувязі з мясцовымі природнымі ўмовамі.

Часта некаторыя асаблівасьці будынкаў могуць быць растлумачаны прыроднымі ўмовамі ня тэй краіны, у якой гэтыя будынкі пашыраны, а якой-небудзь іншай, часам досыць адлеглай старонкі. У такіх выпадках можна дапусьціць перайманьне гэтых асаблівасьцяй будоўлі адным народам ад другога або перасяленьнямі данага народа, які па традыцыі трымаецца тых тыпаў жыльля, што былі выпрацаваны ім у іншых, больш адпаведных прыродных умовах і захаваліся ў новых умовах, дзе ўжо страцілі сваю мэтазгоднасьць. У такіх выпадках тыпы будынкаў зьяўляюцца этнічнай адзнакай, характэрнай для данай этнічнай групы. Але тыпы будынкаў ня могуць заставацца бязьзьменнымі пасьля перасяленьня народа, які гэтыя тыпы выпрацаваў. Пад уплывам новых прыродных і социяльных умоў і з другога боку ў сувязі з культурнымі зносінамі з новымі суседзямі кожны народ паступова адмаўляецца ад прывычкі да пэўнага тыпу будынкаў, дадае гэтаму тыпу шмат новых рысак або нават поўнасьцю запазычае ці выпрацоўвае зусім новы тып.

Сучаснае геаграфічнае пашырэньне тыпаў будынкаў адлюстроўвае ўсю купнасьць прыродных, этнічных, гістарычных і соцыяльных умоў, пад уплывам якіх гэтыя тыпы ствараліся і разьвіваліся.

Некаторыя тыпы будынкаў адзначаюцца вельмі шырокім арэалам пашырэньня. Гэта можна сказаць ня толькі аб будынках гарадзкіх, напрыклад, аб цагляных многапавярхавых дамох, але таксама і прытым яшчэ ў большай меры, аб прымітыўных будынках, напрыклад, аб часовых хатках, якія будуюцца на сенажацях у час касавіцы, на плытох і г. д. Прымітыўныя памяшканьні яшчэ ў большай меры аднастайны, чымся больш-менш складаныя будынкі, характэрныя для сучаснага чалавецтва. Асноўныя тры тыпы першастковага жыльля—пячора, зямлянка і будка, хаця і мяняліся ў залежнасьці ад мясцовых асаблівасьцяй, але заставаліся больш-менш аднастайнымі па агульным выгляду ў розных народаў, у самых рознастайных геаграфічных краінах. Пры далейшай эволюцыі залежнасьць будынкаў ад мясцовых умоў зрабілася глыбейшай і танчэйшай, мяшканьні ў розных краёх набыл

масу асаблівасьцяй, сума якіх дадае характэрнае адценьне краявіду гэтых краёў.

Калі можна гаварыць аб „антропогеографічных краявідах", дык яны вызначаюцца перш-на-перш географічным разьмяшчэньнем тыпаў будынкаў. У значнай меры ўласна будынкі надаюць такую падобнасьць краявідам розных, паводле сваёй прыроды, краін, што дазваляюць гутарыць, як аб чымсьці адзіным, аб „украінскім краявідзе", які ахапляе сабой раёны стэпаў, лесастэпу і лесу, або „беларускім краявідзе" на раўнінах Палесься і на ўзгор'ях Віцебшчыны, аб краявідзе польскім, паўночна-вялікарускім і г. д.

Асабліва рэзка выступае роля будынкаў у краявідзе раўнінных, больш-менш густа залюдненых старонак. Ува Ўсходняй Эўропе такія прыродныя краявідныя зоны, як лесастэп і стэп, часта трацяць знадворныя адзнакі сваіх прыродных асаблівасьцяй з прычыны агульнага разворваньня і зьнішчэньня натуральных расьлінных згуртаваньняў — лесу і цаліннага стэпу. Дзякуючы такім-жа прычынам расплываецца мяжа паміж лесастэпам і лесам. Пераяжджаючы з аднэй такой прыроднай зоны ў другую, можна зусім ня прымеціць зьмены прыродных умоў. Але нельга не зьвярнуць увагі на замену аднаго пануючага тыпу будынкаў другім, калі гэтыя тыпы не пераходзяць паступова адзін у другі, напр. на замену беларускіх шэрых драўляных хат з двохбаковай страхой украінскімі беленымі ляпянкамі з чатырохбаковай страхой або паўночна-вялікарускіх высокіх ізб, нізкімі хатамі паўднёвых вялікарусаў.

Вывучаючы тую ці іншую географічную краіну з аселай люднасьцю, нельга ўхіляцца вывучэньня тыпаў будынкаў у гэтай краіне. Ува многіх выпадках разьмяшчэньне такіх тыпаў дазваляе вызначыць межы гэтай краіны, як пэўнага комплексу зьяў, адмежаванага ад суседніх аналёгічных комплексаў.

Гаворачы аб Беларусі, як аб адным з такіх комплексаў, вельмі важна адзначыць характэрныя асаблівасьці яе будынкаў ды вывучыць географічнае разьмяшчэньне галоўных тыпаў гэтых будынкаў. Вывучэньне меж гэтых тыпаў павінна значна дапамагчы ўдакладненьню нашых уяўленьняў аб межах Беларусі, як пэўнай географічнай краіны, і падзелу Беларусі на антропогеографічныя раёны.

Перавага сельскай людансьці на Беларусі прымушае цікавіцца тут у першую чаргу сельскімі будынкамі, як найбольш пашыранымі і тыповымі для беларускага краявіду.

Характэрная асаблівасьць беларускай хаты гэта тое, што выхадныя дзьверы блізка-што заўсёды знаходзяцца на даўгім баку. А. Харузін[1]) лічыць, што даўней, калі хата ня мела сенцаў, выхадныя дзьверы знаходзіліся на вузкім баку. Калі-ж да хаты пачалі прыбудоўваць сенцы, гэтыя дзьверы апынуліся ў сярэдзіне жылога будынку, а надворныя, г. зн. новыя выхадныя дзьверы зьявіліся на даўгім баку будынка. Толькі ў Кобрынскім і Пружанскім паветах часта дзьверы бываюць на фронтонным баку хаты, але вядуць тады не беспасрэдна ў жылое памяшканьне, а ў камору. У большасьці выпадкаў хаты прылягаюць да вуліцы фронтонам, і такім чынам дзьверы выходзяць не на вуліцу, а на падворак. На хутарох, дзе вуліцы няма, хаты выходзяць фронтонам на дарогу побач з брамай падворка або незалежна ад дарогі фронтонам на поўдзень ці паўднёвы захад. З фронтону і з доўгага боку, на якім зна-

[1]) А. Харузин. Славянское жилище в Северо-Западном крае. Вильна 1907.

ходзяцца дзьверы, прарэзаны і вокны (звычайна з паўднёва-заходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў у ліку 2-4). Матар'ялам беларускай сялянскай будоўлі ў вялізнай большасьці выпадкаў зьяўляецца дрэва, як амаль што і ўва ўсіх іншых краёх паласы лясоў. Цікава, што нават у тых выпадках, калі блізка не засталося лясоў, і дрэва каштуе дарога, беларусы амаль што ніколі ня будуюць глінабітных хах. Гэта ў поўнай меры адпавядае прыродным асаблівасьцям краю, бо багацьце ападкамі і павышаная адносная вільгатнасьць паветра шкодна адбіваюцца на будынках з гліны і робяць іх вельмі нятрывалымі.

Звычайным матар'ялам для сялянскіх будынкаў зьяўляецца хвоя, радзей — елка. У Сакольскім павеце з хвоі вырабляецца ніжняя палова жылых будынкаў, з елкі — верхняя. У Гомельшчыне ў зьвязку з недахватам каштоўных будавальных матар'ялаў часта трапляюцца будынкі з асіны, радзей з вольхі. У будынках больш заможных сялян ніжнія бярвёны часам робяцца з дубу. Вельмі часта жылыя будынкі робяцца з хвоі, а халодныя — з елкі. У горшых выпадках — жылыя будынкі — з елкі, іншыя з асіны, вольхі, бярозы [1]).

Драўляныя будынкі рашуча пераважваюць і ў гарадзкіх паселішчах Беларусі. Паводле даных ЦСУ за 1923 г. у паселішчах гарадзкога тыпу БССР было толькі 4,6% жылых і 4,0% няжылых будынкаў каменных (галоўным чынам цагляных) [2]). Матар'ялам рэшты гарадзкіх будынкаў было дрэва. Але ў вялікіх гарадох процант камяніц ужо даволі значны. Так, у Менску ў 1923 г. з жылых будынкаў камяніц налічана 12,4%, а ў Віцебску 10,6%.

Апрача таго, у гарадох звычайным зьяўляецца каменны або цагляны падмурак пад драўлянымі будынкамі. У сялянскіх-жа будынках каменны падмурак зьяўляецца рэдкасьцю. Найчасьцей такі падмурак можна спаткаць у канцова-морэнных зонах, дзе каменьне рознай велічыні і формы раскідана скрозь па палёх. Неабчэсаныя накідні (валуны) цэмантуюцца пры гэтым глінай або вапнай, або часьцей пад падруб (ніжнія бярвёны) падкладаюцца нічым не змацаваныя каменьні. Цагляны падмурак сустракаецца, як выключэньне, у тых вёсках, якія спэцыялізаваліся на вырабе цэглы, напр., у в. Гаране, Дубровенскага раёну або ў в. Казлоўка, Сянскога раёну. Часьцей падруб кладзецца на аршыновыя калоды, на $^3/_4$ даўжыні зарытыя ў зямлю, так званыя шкандары або штандары. У тых выпадках, калі няма падмурка, пры хаце часта робіцца прызба, заложаная жэрдкамі, бервяном, колікамі, пераплеценымі лазой або дошкамі.

Страха ў большасьці выпадкаў робіцца ў сялянскіх будынках з саломы, значна радзей хаты крыюцца дорам, гонтам і зусім рэдка дахоўкай (чарапіцай). Найчасьцей дахоўка сустракаецца на захадзе—у Горадзеншчыне, куды яна хутчэй за ўсё магла пранікнуць з Нямеччыны. Драўляныя стрэхі, асабліва стрэхі з дору найболей пашыраны ў Палесьсі, дзе салома месцам зьяўляецца, мабыць, ня менш каштоўным матар'ялам, чымся дошкі, і дзе з гэтай прычыны драўляныя стрэхі пераважваюць, прынамсі, на жылых будынках.

У гарадох БССР агнятрывалыя, пераважна бляшаныя, стрэхі сустракаюцца на 12,6% жылых і 7,3% няжылых будынкаў. У Віцебску жылыя будынкі на 34,1% крыты агнятрывалымі дахамі, у Менску—

---

[1]) А. Харузин. — Loc. cit.

[2]) Статыстычны штогоднік 1923-24. Выданьне ЦСУ БССР Менск 1925.

на 25,5% [1]). У Горадзеншыне ў гарадох вельмі пашыраны будынкі, крытыя дахоўкай [2]). Беларуская саламяная страха падобна да украінскай па спосабе ўмацаваньня саломы за дапамогай жэрдак, простастаўных да вільчыка (грэбня), і адразьняецца ад вялікарускіх, якія прыціснуты звычайна паземнымі жэрдкамі.

Этнографы пры апісаньні будынкаў надаюць звычайна вялікае значэньне ліку бакоў (скатаў) страхі. Чатырохбаковасьць страхі лічыцца характэрнай адзнакай украінскіх хат [3]), тады як на Беларусі больш тыповай прызнаецца двохбаковая страха. У Вялікарусі, Польшчы і ўва многіх іншых краінах чатырохбаковыя і двохбаковыя стрэхі сустракаюцца часта побач і зьмяняюць адны адных бяз відочнай правільнасьці. Нярэдкі чатырохбаковыя стрэхі і ў Беларусі. А. Харузін [4]) лічыць чатырохбаковую страху ў Беларусі больш даўнай формай, падкрэсьліваючы, што на будынках старасьвецкага тыпу, напр. на курных хатах і часта на халодных будынках, якія звычайна даўжэй захоўваюць першапачатковыя формы, дагэтуль пераважваюць чатырохбаковыя стрэхі. Пераход ад круглых і многаграных будак першастковага чалавека да чатырохбаковай страхі быў прасьцейшым, чымся да страхі двохбаковай. Выгоды наладжаньня гары (чердака) пры двохбаковай страсе прымусілі нібы-та беларуса адмовіцца ад даўнейшай чатырохбаковай страхі, ад вузкіх бакоў якой вельмі часта захоўваюцца рудымэнты ў відзе залобка (вальма) або падстрэшка (акопа). Месцам чатырохбаковая страха зьяўляецца на месцы двохбаковай, прычым сяляне адзначаюць, што „чатырохбаковую страху вецер не закідвае“. А. Харузін, аднак, не гаворыць, што чатырохбаковая страха *ўсюды* зьяўляецца больш даўным тыпам, чымся двохбаковая, і імкнецца давесьці гэтае палажэньне толькі для Беларусі. Адносна Украіны токога-ж погляду трымаецца Воўкаў [5]), які адзначае, што там новыя будынкі часта крыюцца двохбаковай страхой, асабліва ў тых выпадках, калі матар'ялам для страхі зьяўляецца жалеза, дахоўка ці гонт, бо двохбаковая страха зьяўляецца больш экономнай.

Раўнаючы Беларусь з суседнімі краінамі, упэўнімся, што ў ёй чатырохбаковых стрэх значна менш, і яна з гэтага боку стаіць бліжэй да заходня-эўропейскіх краёў, дзе таксама пераважваюць двохбаковыя стрэхі, але часам наглядаюцца чатырохбаковыя стрэхі або рудымэнтарныя бакі ў відзе залобкаў і падстрэшкаў.

Характэрная для Беларусі страха менш стромкая, чымся ў Заходняй Эўропе і не такая нізкая, як у Расіі, чаго і трэба было чакаць, прымаючы пад увагу вялікую колькасьць ападкаў на захадзе і патрэбу выкарыстаньня сьнегавога насьцілу для цяпла ў халодную зіму на ўсходзе.

Вельмі важна сувязь хаты з гаспадарчымі („халоднымі“) будынкамі, напрыклад, наяўнасьць адзінай страхі для хаты і суседняга халоднага будынка, а асабліва наяўнасьць унутранага ходу паміж імі. Беларуская хата звычайна мае характар асобнага будынка, часам стаіць вельмі блізка да варыўні, хлява або клеці (сьвірана), але ніколі

---

[1]) А. Харазин. Loc. cit

[2]) Семенов-Тянь-Шанский, В. П. Город и деревня Европейской России, Спб. 1910.

[3]) Волков, Ф. К. Этнографические особенности украинского народа („Украинский народ в его прошлом и настоящем“, под ред. проф. Волкова, проф. Грушевского, проф. Ковалевского и др. Т. II. Пгр. 1916).

[4]) А. Харузин. Loc. cit.

[5]) Волков, Ф. К. Loc. cit.

ня зьліваецца з імі ў адну суцэльнасьць. Гэтым яна адразьняецца ад вялікарускай „ізбы".

Асабліва рэзка адразьняецца ад беларускай хаты высокая „ізба" паўночных вялікарусаў з „падызбіцай" (падпольлем) або двохпаверхавая. Было-б вельмі цікава выявіць пераходныя тыпы хат, з дапамогай якіх можна было-б зьвязаць беларускі тып хаты з паўночна-расійскім. З гэтай мэтай вельмі важна вывучаць вышыню падлогі над зямлёй у паўночна-беларускіх раёнах. Некаторыя з такіх пераходных тыпаў апісаны Н. Грынковай у Малада-Тудаўскай воласьці Ржэўскага павету [1]).

Ад украінскай хаты беларуская адразьняецца яшчэ больш, як ад расійскай, дзякуючы агульнаўкраінскаму звычаю тынкаваць і бяліць свае хаты. Такім чынам, хаты нават у суседніх з Беларусьсю лясістых раёнах Украіны, дзе яны робяцца з дрэва, маюць зусім іншы выгляд, чымся хаты самых паўднёвых куткоў Беларусі.

У Палесьсі часам сустракаюцца хаты пераходнага тыпу—драўляныя, пабеленыя каля вакон. Воўкаў [2]) лічыць гэты тып хаты ўкраінскім, які аднак зьмяніўся пад уплывам асаблівых прыродных умоў і зьяўляецца напамінкам аб пахаджэньні драўлянай хаты паўночнага ўкраінца ад гліняных будынкаў стэпавых насельнікаў.

Звычайна беларускі жылы сялянскі будынак складаецца з трох памяшканьняў—хаты, сенцаў і каморы, альбо з дзьвёх „хат" і сенцаў паміж імі. Унутры беларускай хаты характэрна палажэньне печы чалесьнікамі ў бок уваходных дзьвярэй. Цікава, што ў апошнія часы такі тып печы пачынае пранікаць у Вялікарусь, напр. у Краснахолмскі раён, Цьвярскога краю. Тлумачачы гэтую зьяву, М. Артамонаў [3]) адзначае, што пры гэтым гаспадыні нявыгодна ваджацца з гаршкамі каля дзьвярэй, праз якія заусёды ходзяць, але затое сьмецьце ад дроў, гразь з выбруджаных у гной ботаў не пранікаюць да пярэдняга кута, усё застаецца тут-жа, каля дзьвярэй, бо каб дасягнуть чалесьнікаў, ня трэба праходзіць праз увесь пакой [1]). Пакуль што, аднак, печ беларускага тыпу на Вялікарусі зьяўляецца вельмі рэдкай.

Халодныя будынкі разам з хатай складаюць падворак самых розных тыпаў. У старых вёсках, дзе лік гаспадароў вялікі і кожны гаспадар імкнецца па магчымасьці будаваць хату пры вуліцы, сядзібы выцягваюцца ў адну даўгую лінію, а часам пры далейшых падзелах на ват на аднэй лініі простастасна да вуліцы ставіцца па некалькі хат, так што падворкі набываюць выгляд бакавых завулкаў. Наадварот, на хутарох сядзібы звычайна займаюць абшырныя прасторы і складаюцца з раскіданых, бясьпечна ў адносінах да пажараў, рэдка збудаваных будынкаў. У некаторых мясцовасьцях, як на вёсках, гэтак і на хутарох, пануе тып чатырохкутняга падворка, цесна абстаўленага будынкамі. Такога тыпу падворкі напамінаюць сабой даўны падворак-крэпасьць, агарожаны сьценамі. Географія тыпаў падворкаў яшчэ вельмі кепска вывучана, і ўсякія новыя матар'ялы аб разьмяшчэньні гэтых тыпаў па тэрыторыі Беларусі будуць мець вялікае значэньне.

---

[1]) Гринкова Н. П. Постройки юго-зап. части Ржевского уезда („Верхне-Волжская Этнологическая экспедиция. Крестьянские постройки Ярославско-Тверского Края". Лгр. 1926 г.).

[2]) Волков, Ф. К. Loc. cit.

[3]) Артамонов, М. И. Постройкі Краснохолмского района. Ст. 43. (Верхневолжская этнологическая экспедиция. Крестьянские постройки Ярославско-Тверского Края. Лгр. 1926 г).

Звычайна на падворку, апрача хаты, знаходзіцца варыўня або істопка, клець або сьвіран на падмурку, хлявы, пуня, паветка для дроў. Назвы і выгляд гэтых будынкаў у розных мясцовасьцях розныя.

Гумно заўсёды будуецца асобна, у пэўнай адлегласьці ад хаты і хлявоў на так званым прыгуменьні. Форма гумна, таксама як і форма іншых халодных будынкаў, бывае розная, але досыць характэрная для кожнай мясцовасьці. У адных раёнах гумно крыецца чатырохбаковай страхой, у другіх—двохбаковай з залобкамі (адным або двума), у трэціх—двохбаковай без залобкаў. У некаторых мясцовасьцях вароты, што вядуць у гумно, робяцца на даўгім баку гэтага будынка, у іншых—на кароткім баку. Вельмі характэрна наяўнасьць ёўняй і асецяй [1]). Паўднёвая мяжа ёўняй прыблізна супадае з беларуска-украінскай этнографічнай мяжой, але месцам і ў сярэдняй Беларусі ёўняй ня робяць, а сушаць збожжа ў полі. У Бярэзінскім і Прыпяцкім Палесьсі тыповым элемэнтам краявіду трэба прызнаць высокія азяроды для сушкі збожжа. У Бабруйскай акрузе ўсходняя мяжа азяродаў прыблізна супадае з граніцай паміж былымі Менскай і Магілеўскай губэрнямі; на поўнач адтуль азяроды сустракаюцца і ў б. Магілеўшчыне, напр. у б. Сянскім павеце, дзе яны заходзяць на ўсход прыблізна да Пасадзкіх хутароў Багушэўскага раёну, Аршанскае акругі.

Пашырэньне азяродаў зьвязана з вільгатнасьцю клімату і наяўнасьцю лясных матар'ялаў. Вадазбор Прыпяці ды Бярозы адзначаюцца якраз найвялікшай колькасьцю ападкаў на ўсёй тэрыторыі Ўсходня-Эўропейскай раўніны і пры гэтым багаты на лес. У мясцовасьцях, дзе лясы павысяканы, азяроды ў апошнія часы зьнікаюць.

Вывучэньне межаў пашырэньня розных асаблівасьцяй сялянскай будоўлі можа мець вялікае значэньне для навукі. Параўнаньне гэтых межаў з граніцамі розных моўных зьяў і з прыроднымі асаблівасьцямі краін, што ляжаць каля гэтых меж, можа адчыніць новыя пэрспэктывы ў гісторыі Беларусі, паказаць шляхі расьсяленьня асобных этнічных груп, з якіх склаўся беларускі народ, выявіць новыя даныя аб ўзаемадачыненьнях паміж прыроднымі фактарамі і чалавекам, асьвятліць цэлы шэраг цёмных пытаньняў географіі і этнографіі Беларусі.

Краязнаўчыя організацыі маглі-б поўнасьцю ўзяць на сябе справу вывучэньня беларускіх сялянскіх будынкаў. Тыя з краязнаўцаў, якія спэцыяльна зацікавіліся-б гэтым пытаньнем, маглі-б знайсьці для сябе найлепшы падручнік у працы А. Харузіна, на якую вышэй я спасылаўся. Той-жа аўтар дае і кароткую, даступную для кожнага інструкцыю да зьбіраньня вестак аб сялянскіх будынках [2]). Складаньне пляпаў асобных сялянскіх сядзіб і хат з дакладным адзначэньнем часу зарысаваньня пляну і месца, у якім знаходзіцца нанесены на плян об'ект, дасьць найбагацейшы матар'ял для ўлажэньня карт пашырэньня тыпаў сялянскай будоўлі. У парадку абавязковай працы кожная краязнаўчая організацыя павінна апісаць хаця-б адно-два паселішчы паводле далучанай програмы.

---

[1]) У некаторых мясцовасьцях (напр. в. Марчонкі, Дубров. р.) „асець" ня мае столі а „ёўня" мае; у іншых месцах „асецьцю" завуць больш складаную сушню, а „ёўняй" прымітыўную.

[2]) А. Харузин. Руководство для собирания сведений о крестьянских постройках Спб. 1902.

## Програма апісаньня сялянскіх будынкаў [1]).

1. Акруга, раён, сельсавет.
2. Назва вёскі (гнязда хутароў, хутара).
3. Як мясцовыя насельнікі тлумачаць назву вёскі?
4. Што вядома аб пахаджэньні і гісторыі вёскі (каротка)?
5. Лік гаспадарак.
6. Які характар мае паверхня ваколіц (каротка: раўнінны ці ўзгорысты або пасечаны равамі)?
7. Ці многа каменьня на палёх, ці ёсьць вялікія камяні?
8. Глеба (каротка: пераважваюць пяскі, камяністыя суглінкі, суглінкі без каменьня ці што).
9. Як блізка ад вёскі ёсьць лясы? Якія гэта лясы (бары, ельнікі, дубовыя ці мяшаныя лясы)?
10. Адкуль мясцовыя насельнікі бяруць дрэва для будынкаў, дор ці гонт для стрэх, каменьне для падмуркаў, вапну, гліну, пясок для будынкаў, мох для хат і г. д.?
11. Адкуль бяруць ваду для піцьця, мыцьця, для жывёлы (з крыніц, з рэчкі, з возера, з калодзежаў)? Глыбіня вады ў калодзежах увесну і ўлетку; спосабы здабываньня вады з калодзежаў (журавы, вяроўкі, помпы і г. д.).
12. Галоўныя заняткі насельнікаў, апрача земляробства і гадоўлі жывёлы: саматужныя промыслы (якія?), возьніцтва, адыход на заработкі (якія? куды?).
13. Палажэньне вёскі: на беразе (правым ці левым, высокім ці нізкім) ракі (якой), возера, пры якіх дарогах, у якой адлегласьці ад бліжэйшага гандлёвага пункту (якога), у лагчыне ці на ўзгорку.
14. Як разьмешчаны палі і сенажаці, ці ёсьць патрэба ў барацьбе з далёказямельлем і цераспалосіцай? Кароткае апісаньне спосабаў земляробства.
15. Кароткае апісаньне агульнага парадку разьмяшчэньня сядзіб на вёсцы („форма вёскі“): хаты выцягнуты ў адну лінію ўдоўж аднэй простай вуліцы па адным яе баку (аднабаковая вуліцоўка) або ў дзьве лініі абапал аднэй простай вуліцы (двохбаковая вуліцоўка); вуліцы вёскі ўтвараюць няправільны клубок (кучавая вёска); вуліцы дзьве роўналежныя, злучаныя завулкамі, або ўзаемна-простастаўныя (крыжавая вёска); сядзібы няправільна раскіданы далёка адна ад аднэй кожная сярод свайго поля (гняздо хутароў) і г. д. Пажадана далучыць схэматычны плян вёскі.
16. Якая форма сядзіб пераважвае ў вёсцы (квадратовы замкнуты падворак, даўгія і вузкія падворкі з будынкамі, выцягнутымі ў адну лінію простастаўна да вуліцы, ці што). Пажадана далучыць схэматычны плян тыповай сядзібы.
17. Якія яшчэ тыпы сядзіб сустракаюцца ў вёсцы? Якія тыпы характэрны для заможных, серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарак?
18. Тыповае палажэньне хаты (хаты стаяць у глыбіні падворка ці ўпіраюцца ў вуліцу вузкім бокам (фронтонам) або выходзяць на вуліцу шырокім бокам). Пажадана адзначыць у процантах або ў абсолютных лічбах, колькі ў данай вёсцы хат кожнага тыпу.

---

[1]) Апісаньні паводле гэтай програмы трэба накіроўваць у ЦБК.

19. Ці стыкаецца жылое памяшканьне з гаспадарчым будынкам (або лазьняй), напр. з пуняй, гумном, стадолай, стайняй і г. д. і пад якім кутом, у адну лінію — па даўжыні ці шырыні [1]).

20. Ці злучана жылое памяшканьне ўнутраным ходам з гаспадарчым будынкам (або лазьняю) і з якім менавіта; ці ёсьць склеп? [1]).

21. Палажэньне выхадных дзьвярэй з фронтону або з даўгога боку жылога памяшканьня. Куды выходзяць гэтыя дзьверы: на вуліцу, на падворак ці куды яшчэ?

22. Ці ёсьць ганак, які ён (з сьценкамі, з паветкай, з двохбаковым дашкам на слупкох)? Ці ёсьць балькон, тэраса?

23. Ці ёсьць падмурак, з якога матар'ялу? Ці ёсьць прызба, як яна зроблена?

24. Колькі вакон з фронтону і з даўгіх бакоў жылога будынка, справа і зьлева ад выхадных дзьвярэй; ці ёсьць акяніцы, ці завешваюцца вокны матамі саломы? Разьмеры вакон.

25. З якога матар'ялу зроблены сьцены жылога будынка?

26. Колькі бакоў мае страха? З якога матар'ялу яна зроблена? Калі страха двохбаковая, дык ці ёсьць залобкі, падстрэшкі, чым забіты шчыт (дошкамі коса, дошкамі вэртыкальна, паземна, саломай, ці шчыта няма, а сьцяна з бярвён даходзіць да самай страхі)?

27. Калі страха саламяная, дык якім спосабам прытрымліваецца салома (за дапамогай паземных жэрдак або жэрдак простастаўных да вільчыка)?

28. Як выкарыстоўваецца гара („чердак")? Як на яе ўзьбіраюцца? Ці мае яна вокны, балькончык?

29. Ці атынкавана хата знадворку, ці пабелена, ці, можа, пабелены толькі часткі сьцен навокала вакон?

30. З якіх частак складаецца жылы будынак (напр. з хаты, сенцаў і каморы або з хаты і сенцаў ці з дзьвёх хат, злучаных сенцамі)? Памеры гэтых частак. Пажадана далучыць схэматычны плян тыповай хаты.

31. Ці ёсьць падлога? Вышыня яе над зямлёй.

32. Палажэньне печы. З якога боку знаходзіцца чало печы (каля дзьвярэй ці з другога боку)?

33. На чым сьпяць у хаце (пол, ложкі, лавы)?

34. Кароткае апісаньне мэблі ў тыповай хаце.

35. Якія тыпы хат, апрача апісанага (пераважнага), сустракаюцца ў вёсцы? Якія асаблівасьці маюць хаты беднякоў, серадьнякоў, заможнікаў (адкажэце асобна, па магчымасьці, на ўсе пытаньні пунктаў 18—34 для кожнага тыпу)?

36. Кароткае апісаньне халодных будынкаў; матар'ялу, з якога яны зроблены, іх разьмераў, палажэньня ў падворку, прызначэньня ў заможных, серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарках.

37. Форма і палажэньне гумна, адлегласьць яго ад жылога будынка. Ці ёсьць ёўні, асеці, сушні? Кароткае апісаньне іх. Ці ёсьць азяроды, ці разьбіраюцца яны ўзімку? Калі іх няма, дык ці былі раней, паводле слоў старых сялян, як даўно зьніклі, чаму? Якія дапасаваньні існуюць для сушкі канюшыны, гароху і інш. (астроўкі, кобры)? Кароткае апісаньне іх.

38. Ці ёсьць лазьні на вёсцы? Колькі іх?

---

1) Узята з адзначанай працы А. Харузіна: „Руководство для собирания сведений о крестьянских постройках".

39. Апішэце тыпы загарод., пашыраных на вёсцы (зумёт, плот, паркан (або баркан), частакол, штакет (шчыкет), тын і г. д.). Тыпы варот (брамы, весьніцы, вароты). Пажадана далучыць схэматычныя малюнкі.
40. Час запісаў.
41. Прозьвішча і адрэс запішчыка.

---

**М. Крываротчанка.**

# Украінскае краязнаўства.

## Сучаснае разуменьне краязнаўства і яго задачы на Ўкраіне.

У аснове сучаснае разуменьне краязнаўства і яго задачы было вызначана яшчэ І-ю Краязнаўчаю Нарадаю, якая адбылася з 28 па 31 траўня 1925 г.; далей гады ўнесьлі зусім нязначныя папраўкі. Вось чаму сьцісла можна сказаць, што:

1. Краязнаўства перш за ўсё ёсьць шырокаграмадзкі рух, а ня мэтод, не асобная дысцыпліна.

2. Краязнаўства ёсьць не тымчасовая кампанія, а плянавая, сыстэматычная, неабмежаваная часам праца па дасьледваньні дробных раёнаў, як часткі адзінага цэлага—УССР, а далей і СССР.

3. Краязнаўства ёсьць ня службовая, дапаможная для шырокіх навуковых патрэб праца, а перш за ўсё мае цалкам самастойныя задачы вывучэньня краю і задавальняе агульна-навуковыя патрэбы ў тэй-жа меры, як і кожная лякальная праца ў навуковай галіне.

4. Краязнаўства ёсьць не дасьледваньне адцяглых пытаньняў дзеля „чыстай навукі“ або „пазнаньня краю дзеля яго пазнаньня“, а вывучэньне ўсіх мясцовых асаблівасьцяй і ўсіх мажлівасьцяй для цалкам практычнай патрэбы—прыкласьці іх неадкладна або ў найбліжэйшы час дзеля разгортваньня продукцыйных сіл краіны і падвышэньня дабрабыту мясцовага насельніцтва.

Каротка: не пазнаваць край дзеля яго пазнаваньня, а вывучаць дзеля плянавага і паступовага ператварэньня ў агульным ходзе соцыялістычнага будаўніцтва.

Задачы краязнаўства ёсьць:

1. Плянава і сыстэматычна дасьледваць лякалізаваны мікрараён ва ўсіх разрэзах, вось чаму—краязнаўчая праца ў суме ёсьць праца комплексная.

2. Прыцягнуць да гэтага дасьледваньня найшырэйшыя масы савецкага грамадзянства і ня толькі інтэлігенцыю, але і рабочых, сялян; як дарослых, гэтак і моладзь.

3. Аб'яднаць навакол вывучэньня краю ўвесь савецкі актыў раёну, організаваўшы ў першую чаргу краязнаўчыя сілы, якія ўжо існуюць.

4. Паставіць вывучэньне краю (дробнага раёну) у цэнтры ўвагі мясцовага грамадзянства, вось чаму як найшырэй пропагандаваць усе дасягненьні ў дасьледваньні раёну, і найбольш тыя, што рэальна і ў бліжэйшы час могуць прынясьці карысьць у падвышэньні дабрабыту насельніцтва.

5. Накіраваць масавую дасьледчую працу ў бок вывучэньня гаспадарча-актуальных пытаньняў, як мясцовага, гэтак і дзяржаўнага значаньня, і гэтыя досьледы паставіць у цэнтр сваёй працы, не закідаючы вывучэньня гісторыі, этнографіі, фольклёру, мовы і г. д., як пытаньняў, што ў значнай частцы маюць яшчэ практычна-актуальнае значаньне (мова, быт).

## Дарэволюцыйнае краязнаўства на Ўкраіне.

Краязнаўства ў разуменьні вывучэньня асаблівасьцяй паасобных невялікіх раёнаў да Кастрычнікаўскай рэволюцыі на Ўкраіне не магло набыць форм *украінскага* краязнаўства па тэй простай прычыне, што ня толькі існаваньне ўкраінскіх таварystваў, але і расійскіх, што ў працы набывалі ўхіл вывучэньня Ўкраіны, як Украіны, царскі ўрад не дазваляў. Яскравым прыкладам гэтага служыць „Юга-западный Отдел Русского Географического Общества“, які організаваўся было ў Кіеве ў 1873 годзе і быў „тымчасова“ зачынены ў 1876 годзе, тады, як толькі ён выявіў сваё запраўднае аблічча, і ня быў адчынены потым ніколі.

Вывучэньне краю праводзілі паасобныя дасьледчыкі, перш за ўсё этнографы, далей гісторыкі і архэолёгі і толькі гадоў за 50—60 да Кастрычніка—прыродаведы.

Першымі таварыствамі, якія багата паклалі працы на вывучэньне краю, былі царкоўна-археолёгічныя; яны, звычайна, мелі надта моцную клерыкальную афарбоўку і зьбіралі галоўным чынам матар'ялы як архіўныя, гэтак і рэчавыя да гісторыі царквы на Ўкраіне (напрыклад, вялікае „Волынское древлехранилище“, „Харьковский историко-археологический Музей“ і шмат іншых).

Далей па часу ідуць мясцовыя архіўныя камісіі, якія організаваліся па адзнаках адміністрацыйнага падзелу тэрыторыі (Губэрскія) і старанна зьбіралі, ахоўвалі, вывучалі і публікавалі матар'ялы да гісторыі гарадоў, устаноў, асоб, засяленьня тэрыторыі і, калі-ні-калі, з гісторыі гаспадаркі губэрні.

У далейшым зьяўляюцца археолёгічныя (ужо не „царкоўныя“) гурткі і таварыствы пры унівэрсытэтах або архіўных камісіях.

З гэтых об'ектыўных прычын асяродкамі краязнаўства на Ўкраіне ня рэдка рабіліся часопісы або іншыя пэрыодычныя выданьні. Так, напрыклад, ужо з 1861 году першы часопіс „Основа“, які друкаваўся на ўкраінскай мове, у сваю програму ўключыў цэлы шэраг па сутнасьці краязнаўчых пытаньняў пад назвамі: „народазнаўства“, „землязнаўства“, „прыродазнаўства ў дапасаваньні да паўднёва-рускага краю“, „аддзел сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і гандлю“,—і на працягу свайго нядоўгага існаваньня гэты часопіс зьмясьціў многа дужа цікавага краязнаўчага матар'ялу.

Другім значным „літаратурным“ асяродкам старога краязнаўства можна назваць шырока вядомую „Киевскую старину“ (1882—1906), што выходзіла ўжо на расійскай мове, хаця была па сутнасьці ўкраінскім часопісам, і надрукавала вельмі многа каштоўнага краязнаўчага матар'ялу. Шмат зьмяшчалася краязнаўчага матар'ялу і ў такіх выпадковых выданьнях, як „Літературно-Научные приложения“ да „Харьковского Календаря“.

Першаю чыста ўкраінскаю організацыяй, што праводзіла шырокую краязнаўчую працу, зьяўляецца „Навуковае Т-ва ім. Шаўчэнка“,

заснаванае ў Львове ў 1870 годзе, а з пачатку 1890 году рэарганізаванае згодна вымаганьняў з Украіны фактычна ва ўсеўкраінскае, бо галоўныя матар'ялы і галоўныя працаўнікі яго былі з Украіны. У „запісках“ і „матар'ялах“ гэтага Т-ва сабрана найбольш матар'ялаў з дарэволюцыйнага краязнаўства.

Вялікую краязнаўчую працу ў старыя часы праводзілі такія ўрада-грамадзкія ўстановы, як земствы, якія старанна дасьледвалі, ня толькі сучасную ім экономіку губэрань і паветаў, але і гісторыю гаспадаркі, гісторыю аграрных узаемаадносін, гісторыю засяленьня краю, часткова антраполёгію, больш шырока—этнографію і геолёгію. На першае месца па сыстэматычнасьці, паўнаце, рознастайнасьці праведзенай працы і сабраных матар'ялаў, а таксама і па сьвядомым высоўваньні задач вывучэньня краю, як часткі Украіны, і па спрыяньні краязнаўчай працы з боку паасобных дасьледчыкаў, варта паставіць Палтаўскае Губэрскае Земства [1]).

Паказчыкам этапаў разьвіцьця старога краязнаўства на Украіне можа быць разьвіцьцё Музэяў. Так першымі зьяўляюцца царкоўна-археолёгічныя пры манастырох і эпархіяльных кіраўніцтвах. Далей зьяўляюцца археолёгічныя і гісторыка-археолёгічныя (Адэскі, Кацярынаслаўскі, Кіеўскі, Харкаўскі і г. д.), затым гістарычныя (напрыклад, Чарнігаўскі Тарноўскага) і толькі ў апошнюю чаргу прыродазнаўчыя (напр., „Музей Общества исследователей Волыни“ у Жытоміры, Музэй Палтаўскага Губ. Земства і інш.).

Праз сваю організацыйную раскінутасьць, праз немажлівасьць вольнай колектыўнай творчасьці Краязнаўства на Украіне ў старыя часы ня толькі не набыла організацыйных форм і сыстэматычнасьці, але не змагло стварыць нават галоўных тэорэтычных палажэньняў, а менавіта: разуменьня самога тэрміну (які зьявіўся на Украіне толькі ў 1912-13 гадох), зьместу краязнаўчай працы, напрамку яе і г. д. і краязнаўства разумелася надта шырока, як пазнаньне Украіны ў цэлым (радзімазнаўства) і, адначасова, надта вузка, укладаючы ў гэты тэрмін пераважна вывучэньне мовы, старога быту, старой гісторыі, старой матар'яльнай культуры (археолёгія, старасьвецкія прылады ў сучаснасьці), бо таго вымагала буржуазнае разуменьне зьместу нацыянальнай барацьбы і шуканьня гістарычнага пацьвярджэньня права быць асобнаю, перш за ўсё этнічнаю адзінкаю, бо адсюль разумелася права і на самастойную культуру і на незалежную дзяржаву.

Варожыя адносіны царскага ўраду да ўсякіх нацыянальна-культурных захадаў на Украіне [2]) і адпаведнае „патрыотычнае“ выхаваньне расійскай інтэлігенцыі, а таксама сыстэматычная русіфікацыя ўкраінскай (школаю і службаю) інтэлігенцыі адбівалася і на адносінах да ўкраінскага краязнаўства з боку расійскай інтэлігенцыі ў цэлым і, асабліва, дасьледчыцкай яе часткі (Уваровское археологическое Общество, Академия Наук і г. д.), што выяўлялася ў трактоўцы чыста ўкраінскіх археолёгічных, гістарычных, этнографічных, лінгвіністычных

[1]) Цікава адзначыць тое, што Палтаўскае Губ. Земства адначасна сярод іншых земстваў было першым і ў буржуазным украінскім нацыянальным руху, заўжды першым падаючы свой голас у нацыянальнай справе аж да 1917 году.

[2]) Усе выданьні на ўкраінскай мове і ўжываньне яе ў школе былі забаронены вядомым загадам Мін. Нар. Асьв. у 1876 г. Нацыянальны рух, які буйна разьвінуўся пасьля 1905 г. быў прыдушаны ў 1910 г., калі былі зачынены рэшткі культурных устаноў, і, назаўсёды забаронены, пад пагрозаю цяжкай кары, у час імпэрыялістычнай вайны 1914 г., калі былі зачынены астатнія часопісі і газэты і забаронена зусім ужываць мову ня толькі пісьмова, але й вусна.

матар'ялаў, як часткі агульна-расійскіх, і асабліва гэта яскрава выяўлялася ў стараньнях па мажлівасьці ўсе матар'яльныя рэчавыя доказы вывезьці з Украіны ў Пяцярбург, Маскву, наогул у цэнтральныя дзяржаўныя Музэі. І гэта рабілі ня толькі царскія вураднікі, але таксама і дасьледчыкі, што працавалі на прасторах Украіны.

Толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя прыпыніла вываз краязнаўчых матар'ялаў за межы УССР, бо нават паставіла пытаньне аб звароце на Украіну архіўных і музэйных багацьцяў, забраных за часы існаваньня царскае ўлады на тэрыторыі Украіны[1]). У выніку гэтага колькасьць музэяў, як концэнтратараў краязнаўчага матар'ялу, павялічылася з 22 (1916 г.) да 84[2]), прычым штогод узьнікаюць новыя і новыя музэйныя адзінкі, ужо як сталыя краязнаўчыя музэі.

**Сучасны стан краязнаўства ў УССР і яго організацыйная структура.**

Сыстэматычная праца ў галіне краязнаўства ў УССР пачалася толькі пасьля Першай Усеўкраінскай Краязнаўчай Нарады, якая адбылася 28—31 траўня 1925 году ў Харкаве і якая вызначыла прынцыпы і напрамак працы, дала галоўныя дырэктывы як у мэтодычнай, гэтак і ў організацыйнай частках і абрала першы Украінскі Камітэт Краязнаўства.

Падлік краязнаўчых організацый, праведзены ў час Нарады, выявіў толькі 5 таварыстваў і 11 гурткоў у 5 акругах, да таго-ж у большасьці юрыдычна неаформленых, бяз сталага пляну, з ухілам да старых тэм краязнаўчай працы.

Дзеля шырокай пропаганды задач краязнаўства і паскораньня організацыі краязнаўчых сіл на мясцох Камітэт пабудаваў сваю працу на грунце інстытуту *ўпаўнаважаных*, якія абіраліся з ліку вядомых мясцовых дзеячоў, шчыльна зьвязаных у сваёй працы з краязнаўствам, але ўпаўнаважаныя па розных прычынах ня толькі не змаглі організаваць краязнаўчы рух, але не змаглі ахапіць і тыя буйныя праявы яго, што выявіліся на мясцох у акругах пасьля Нарады. З гэтай прычыны Камітэт правёў у жыцьцё другую форму працы — *корэспондэнцкую*, з нізавых працаўнікоў сяла, раёну, што цікавіліся краязнаўствам і згадзіліся на сыстэматычную працу. Гэта рэформа дала станоўчыя вынікі — на 1 студзеня 1928 г. было ўжо 37 таварстваў і 30 гурткоў у 22-х акругах, прычым большасьць гурткоў і шэраг таварыстваў былі організаваны захадамі корэспондэнтаў. На 1 студзеня 1929 г. маем ужо 51 т-ва, 68 гурткоў (з іх 46 фактычна раённыя таварыствы) у 32 акругах.

Корэспондэнтаў у сучасны момант ёсьць 65, але гэтая лічба дужа манлівая, бо корэспондэнт, пасьля організацыі на месцы яго працы гуртка або Таварыства, складае свае абавязкі.

Організацыйная структура краязнаўства ў УССР, ухвалена яшчэ Нарадаю гэткая:

---

[1]) Вялікая частка гістарычных архіваў ужо перададзена Укрцэнтрархіву, а пытаньне з музэйнымі багацьцямі, відаць, у вялікай частцы будзе разьвязана ў бліжэйшы час.

[2]) У 1917—18 г. г. колькасьць іх была нават 112, але дробныя, у зьвязку з матар'яльнымі ўмовамі, а часткова з устанаўленьнем новага адміністрацыйнага падзелу тэрыторыі, зьліліся з вялікімі мясцовымі.

Украінскі Камітэт Краязнаўства, Акруговыя Бюро, Акруговыя і раённыя таварыствы, якія арганізацыйна аб'яднае Акрбюро, гурткі, якія аб'яднаюцца мэтодычна акруговымі і раённымі таварыствамі.

Графічна:




Самастойнымі краязнаўчымі організацыямі зьяўляюцца Акруговыя і Раённыя Таварыствы, што працуюць з спэцыяльнымі тыповымі статутамі (гл. „Краязнаўства" за 1927 г.). Гурткі організоўваюцца пры установах (Музэі, ВУЗ'ы, школы, Дамы Селяніна, Хаты-чытальні, Клюбы) і працуюць з статутам адпаведнай установы, маючы з боку Таварystваў заўсёднае мэтодычнае кіраваньне і бяручы ўдзел у плянавай працы гэтых таварystваў.

Гэтая схэма пасьлядоўна праведзена толькі ў Камянец-Падольскай акрузе, дзе ў сетцы краязнаўчых організацый акругі ёсьць усе элемэнты гэтай схэмы і дзе акруга ахоплена шырокаю сеткаю таварystваў і гурткоў. У іншых акругах організацыйная структура адыходзіць ад схэмы, бо ёсьць або толькі акруговае таварыства без раённай перыфэрыі, або раённыя таварystвы без акруговага цэнтру, але, дзе з часам сетка разьвіваецца, там усё бліжэй падыходзяць да вызначанай вышэй „тэорытычнай схэмы".

Выключэньнем зьяўляецца форма організацыі найглыбейшай перыфэрыі пры адсутнасьці іншых форм, гэта Раённыя Бюро школьных гурткоў (на Нежыншчыне і Карыварожжы, дзе няма ні раённых ні

акруговых таварystваў), такія бюро, як і асобныя таварыствы неорганізаваныя ў маштабе акругі, непасрэдна зносяцца з Камітэтам.

З пачатку краязнаўчай працы галоўныя ўвага была зьвернута на організацыю акруговых Таварystваў, але з бягучага году Камітэт ухваліў зьвярнуць больш увагі на самастойныя раённыя таварыствы, улічваючы, што краязнаўчаю дасьледчаю адзінкаю (і як суб'ект і як об'ект) павінен быць раён, бо апроч таго па акруговых цэнтрах ужо ёсьць досыць моцная сетка Таварystваў, якія могуць быць бліжэйшымі мэтодычнымі асяродкамі.

Па-за сеткаю сьцісла краязнаўчых організацый, якія аб'яднаюцца УКК, вялікую краязнаўчую працу праводзяць навукова-дасьледчыя організацыі (Навуковыя Таварыствы, УАН, Музэі, і г. д.), якія організацыйна з Камітэтам ня зьвязаны, але ў краязнаўчай працы трымаюць заўсёдную сувязь. Апроч таго, вялікае значэньне, асабліва за апошні час, набываюць пэдагогічныя і аграномічная вузы, большасьць з якіх ужо дуе свой пэдагогічны процэс на краязнаўчай аснове, але з гэтай прычыны яны не становяцца краязнаўчымі організацыямі па форме, застасьць моцнымі краязнаўчымі ўстановамі па сутнасьці, вывучаючы свой ючыся до край сыстэматычна. Між іншым, праца некаторых з гэтых вузаў пакінула ў спадчыну зародкі краязнаўчых акруговых і раённых Музэяў і стымулявала організацыю таварystваў.

Апошні падлік краязнаўчых організацый выявіў яшчэ досыць вялікую разнаітасьць, а менавіта: звычайнаю формаю зьяўляецца Краязнаўчае Таварыства ў акруговым або раённым горадзе або Краязнаўчы Гурток па сёлах і мястэчках. Краязнаўчыя Таварыствы існуюць самастойна; гурткі — пры розных установах і організацыях. Такім чынам падрахаваўшы цяпер тыпы організацый, маем мажлівасьць назваць „краязнаўчае таварыства, навуковае таварыства пры УАН, камісія краязнаўства, габінэт па вывучэньні краю (пры Вініцкай філіі Усенароднай бібліотэкі УАН, Хэрсонскім УАН, Чэркаскім Музэі), краязнаўчы сэмінары, краязнаўчыя гурткі (пры школах, дамох селяніна, раённых камітэтах саюзу працаўнікоў асьветы), раённыя бюро краязнаўства і, нарэшцэ, акруговы камітэт краязнаўства (які ёсьць пакуль што толькі ў Камянцы).

У склад пералічаных організацый уваходзяць у вялікай колькасьці працаўнікі асьветы, студэнты, наогул моладзь, часткова рабочыя і сяляне, аграномы, лекары, партыйныя і профэсыйныя працоўнікі і кваліфікаваныя навуковыя працаўнікі.

Зьмест і напрамак краязнаўчай працы рэзка зьмяняецца ўжо з пачатку 1928 г. Калі да гэтага часу пытаньні з галіны гаспадаркі і прыродных продукцыйных сіл у плянах працы і ў самай працы Таварystваў траплялiся выпадкова, як прыдаткавыя, дык ужо ў 1928 годзе гадавы і пяцігадовы пляны на 40% пабудаваны па прынцыпу вывучэньня ў першую чаргу пытаньняў актуальнага гаспадарчага значэньня, а ўрэшце гэтыя пытаньні займаюць значнае, калі не галоўнае месца. Тое-ж самае выяўляе і праца таварystваў за летнюю пару 1928 г.

Шэраг пытаньняў, якія ў мясцовым маштабе апрацоўваюць краязнаўчыя організацыі, настолькі доўгі, што немажліва тут іх пералічваць. Трэба толькі адзначыць галоўны ўхіл: у галіне прыроды — у бок вывучэньня практычна каштоўных расьлін: лекавых, валокнавых, працаёмкіх, шкоднікаў поля (быльнікі), новых кармоў; вывучэньне карысных выкапняў (напр. праведзенае Корасьценскім Т-вам геолёгічнае дасьледваньне тэрыторыі ў 700 кв. кілёмэтраў, якое дала многа вельмі ціка-

вых даных); у экономіцы — пераход да монографічных дасьледаў экономічных адзінак: камун, сёлаў; таксама і адносна вывучэньня інтэнсыўных форм сельскай гаспадаркі. Апошні час заўважваецца вялікая зацікаўленасьць да монографічнага вывучэньня мястэчак і гарадоў, як асобных соцыяльна-экономічных адзінак.

Праца краязнаўчых організацый нарэшце здабыла выйсьце ў шырокі сьвет. Так, ужо 10 організацый маюць свае выданьні, рэшта шырока выкарыстоўвае як навуковыя працы розных установ, так і друк і популярныя выданьні. Нарэшце Таварыства і асобныя краязнаўцы маюць мажлівасьць шырока выкарыстоўваць пакуль што адзіны краязнаўчы часопіс „Краязнаўства", які выдае Украінскі Камітэт Краязнаўства.

Канчаючы, застаецца яшчэ адзначыць рост масы краязнаўцаў і павялічэньне сярэдняй колькасьці сяброў на адну організацыю. Так у 1925 годзе ўсяго было 147 сяброў таварystваў (у сярэднім 30 на таварыства) і 120 сяброў гурткоў (у сярэдн. 11 на гурток), а на 1 студзеня 1929 г. — 2350 сяброў тав. (у сярэдн. 46) і 16.460 сяброў гурткоў (у сярэдн. 25), а разам 18.810 сяброў. Калі-ж узяць пад увагу ўжо зазначаныя 45 старых гурткоў, якія фактычна зьяўляюцца самастойнымі раённымі таварыствамі, маем 3700 сяброў таварystваў.

---

Проф. П. Салаўёў.

# Аб тэрмінах сяўбы жыта ў сувязі з падвышэньнем ураджайнасьці.

У працы краязнаўчых організацый значнае месца займаюць фэнолёгічныя нагляданьні. Аб значэньні і сэнсе фэнолёгічных нагляданьняў я ўжо пісаў („Наш Край" 1927 г. № 6—7). Між іншым я там цытаваў гэткае месца з кнігі Байсутава (1926), якое тычыцца значэньня фэнолёгічных нагляданьняў дзеля сельскай гаспадаркі:

„У вопытных нашых сельска-гаспадарчых установах пры пастаноўцы пытаньня аб правільнасьці тэрмінаў сяўбы таго ці іншага віду збожжа і іншых сельска-гаспадарчых расьлін зараз, заместа зьвязваньня гэткіх тэрмінаў з каляндарнымі датамі, вызначаюць гэтыя тэрміны, дапасоўваючы іх да зьяў вакольнае прыроды. Так, напрыклад, на вопытным полі Ціміразеўскае сельска-гаспадарчае акадэміі тэрміны сяўбы аўсу вывучаліся, прымаючы пад увагу тэрміны красаваньня дзікіх расьлін, прычым найлепшы тэрмін аказаўся адначасовым з тэрмінам красаваньня дмухаўца (одуванчика)".

Такім чынам, ня ўлічваючы ўсіх дэталяй, якія садзейнічаюць здароваму жыцьцю расьлін і найбольшай яго ўраджайнасьці, мы маем магчымасьць проста эмпірычным шляхам зрабіць падыход да вызначэньня найлепшага тэрміну сяўбы данай расьліны. Гэткі эмпірычны шлях зьяўляецца зусім даступным звычайнаму краязнаўцу, які зможа правесьці шэраг нагляданьняў над культурнымі збожжавымі расьлінамі, калі будзе ён запісваць розныя тэрміны іхняй сяўбы (ранейшыя і пазьнейшыя) у тэй вёсцы, дзе ён жыве, а таксама зможа зрабіць параўнаньне іх з запісамі вынікаў, гэта значыць, з колькасным зборам ураджаю.

Абгаварваючы пытаньне аб тэрмінах сяўбы, мы павінны далей зьвярнуць увагу на адзін факт, які быў высьветлены таксама шляхам краязнаўчых фэнолёгічных нагляданьняў.

У 1926 годзе М. Сьмірноў, падагульніўшы свае нагляданьні над жытам, пісаў наступнае: „Вельмі цікавым у практычным сэнсе зьяўляецца пытаньне аб тэрміне, які цягнецца паміж пачаткам красаваньня і пачаткам жніва жыта, таму што разьвязваньне гэтага пытаньня дае магчымасьць задоўга наперад ведаць час, калі насельніцтва таго ці іншага раёну будзе мець хлеб новага ўраджаю". Падагульненьне нагляданьняў паказала, што ў губэрнях Ленінградзкай і Пскоўскай, а таксама ў большай частцы ЎССР і ў губэрнях Арлоўскай, Варонескай, частцы Пензенскай і Тамбоўскай і ў некаторых іншых мясцох тэрмін паміж красаваньнем і першым жнівом быў меншы за 40 дзён; на рэшце прасторы эўропейскай часткі СССР гэты тэрмін быў большы за 40 дзён, прычым ён падаўжаецца ў кірунку паўночнага ўсходу, даходзячы месцамі да 60 і больш дзён. Параўнаньне атрыманых даных з данымі папярэдняга году паказвае, што гэты тэрмін цяпер наогул быў бадай усюды больш працяглы, як тады. Разам з тым выяўляецца, што на паўднёвым усходзе час высьпяваньня жыта наогул карацейшы, як у цэнтры на поўначы, прычым розьніца можа даходзіць да 30 і больш дзён.

Вось з гэтага прыкладу мы бачым, якім чынам значная частка вэгетацыйнага пэрыоду, які тычыцца жыта, можа быць улічана шляхам простага краязнаўчага нагляданьня. Мы бачым выразна, якое практычнае значэньне гэта мае.

Але мы пойдзем далей і выкажам пажаданьне, каб пры падлічэньні тэрміну жніва таксама меўся на ўвазе тэрмін сяўбы, бо гэта будзе карысна дзеля высьвятленьня агульных рысаў усяго вэгетацыйнага пэрыоду, з аднаго боку, да зімовага перапынку і з другога боку пасьля вясновага абуджэньня.

Нам, не аграномам, наогул вядома тая думка, што дзеля ўзмацненьня пасеянага ў восені жыта патрэбна да пачатку зімы 5-6 цёплых тыдняў, каб ў наступную весну быў забясьпечаны далейшы рух жыцьця расьліны.

Аднак-жа, гэтая думка патрабуе больш падрабязнага краязнаўчага расшыфраваньня. Апошняе можа быць зроблена ў тым выпадку, калі на мясцох будуць выкананы тыя краязнаўчыя нагляданьні, аб якіх мы гаварылі вышэй, гэта значыць, нагляданьні і ацэнка ранейшых і пазьнейшых пасеваў. Пры гэтым разам з каляндарнымі датамі неабходна тлумачыць тэрмін сяўбы кароткім апісаньнем адначасовых вакольных зьяў прыроды, як гэта мела месца ў Ціміразеўскай Акадэміі пры супастаўленьні тэрміну сяўбы аўсу з расквітаньнем дмухаўца.

Адносна мэтодыкі нагляданьняў мы рашуча раім узамен прыёмаў мэтэоролёгічных назіраньняў шаблённага тыпу, дзе ўводзяцца абагульненьні на падставе *штучнага* разрываньня натуральных працэсаў на ўмоўныя дэкады, карыстацца паказаньнямі самае прыроды, гэта значыць, карыстацца натуральнай злучнасьцю біолёгічных малюнкаў (біоклімат), якія не заўсёды дазваляюць вызначаць межы ў форме каляндарных дэкадных разрэзаў. Біолёгічныя зьявы надта складаныя,—і грубы падыход да іх з арытмэтычнай меркай часамі дае фальшывыя вынікі.

Мая прапанова зводзіцца да таго, каб, адзначаючы тэрміны сяўбы, не абмяжоўвацца выключна каляндарнай датай, бо яна, прад-

стаўляе сабой пэўную „велічыню“ толькі для данага году, але неабходна характарызаваць гэтую дату праз *комплекс* біолёгічных зьяў, якія назіраюцца ў прыродзе, гэта значыць, праз фэнолёгічныя даныя.

Увязваючы пытаньне аб розных тэрмінах сяўбы з вучотам розных ураджаяў у будучым, я павінен далей таксама зьвярнуць увагу на тое, што рэгуляваньне тэрмінаў сяўбы мае значэньне ў якасьці мерапрыемства барацьбы з шкоднікамі сельскае гаспадаркі. Шмат якіх шкоднікаў будзе паралізавана або зусім зьнішчана, калі мы зьменім тэрмін сяўбы. Але дзеля высьвятленьня меж, манэўраваньня ў тэрмінах сяўбы мы павінны мець вынікі краязнаўчых досьледаў наконт таго, якія пасевы ў даным раёне магуць быць найранейшымі, якія пасевы будуць бясшкодны найпазьнейшымі і таксама які ўраджай, пры існаваньні ўсіх іншых роўных умоў, дадуць як гэтыя пасевы, таксама і прамеж імі лежачыя. Зразумела, што было-б яшчэ ляпей, каб побач з нагляданьнямі былі пастаўлены належныя вопыты, напрыклад, пры школах.

Усе толькі што выказаныя думкі далей я магу ілюстраваць прыкладамі.

У 1917 годзе проф. Лебедзеў даў прыблізны падлік стратам, якія ў мінулым наша краіна мела штогод у залежнасьці ад розных шкоднікаў. Гэтыя шкоды каштавалі краіне два з паловай міл‘ярда рублёў. („Траты ад шкодных шасьціножак ў Зьядн. Шт. Паўночн. Амэр. і ў Расіі“ 1917). Зварачваючы ўвагу на тых шкоднікоў, для якіх тэрмін сяўбы мае значэньне, прывяду наступны прыклад. У 1923 годзе на палёх УССР значна шкодзілі гэсэнская і швэцкая мухі. Выявілася, што ад гэсэнскай мухі Украіна страціла 98 міліёнаў пудоў зерня ды ад швэцкай—52 міліёна пудоў, а разам ад абодвых шкоднікаў—150 міліёнаў пудоў ці 27% усяго збору зерня. Гэтага прыкладу даволі, каб завастрыць нашу ўвагу на практычнае значэньне пытаньня. Пятроў у сваёй працы аб значэньні тэрмінаў сяўбы ў барацьбе з гэсэнскай мухай у Курскай губэрні па нагляданьнях у 1924-1925 годзе („Ахова Расьлін“ 1927 г. № 4-5), сыстэматызуючы матар‘ялы, піша наступнае: „Такім чынам, гэтыя даныя яшчэ раз падгрунтоўваюць, што ў барацьбе з гэсэнскай мухай неабходна ўстрымлівацца ад ранейшай сяўбы азімых“.—Авчынікава ў сваіх „Выніках назіраньняў і вопытаў па зеленавочцы за 1924—1926 годы ў Ніжагародзкай губэрні“ (там-жа) гаворыць наступнае: „Злучанасьць вучотаў дазваляе разглядваць заражанасьць розных пасеваў у сувязі з *фэнолёгіяй апошніх,* а таксама з *фэнолёгіяй зеленавочкі.* За два гады асноўнай крыніцай запасу зеленавочкі былі азімыя пасевы ранейшых тэрмінаў сяўбы“. Пісьнячэўскі ў сваёй працы „Пашкоджанасьць азімых хлябоў у залежнасьці ад тэрміну пасеваў у Ніжагародзкай губ. ў 1923—1926 г. г.“ (там-жа) піша наступнае: „Непашкоджаныя адзінкі азімага жыта на ранейшых пасевах зьяўляюцца звычайна больш ураджайнымі, чым на пазьнейшых пасевах“. Значыцца, калі гэтыя назіраньні правільныя, тым больш неабходна паглыбіць закранутае мной пытаньне, бо ў барацьбе з шкоднікамі прыходзіцца часьцей раіць пазьнейшую, а не ранейшую сяўбу. Пытаньне аб тэрмінах сяўбы ў сувязі з пашкаджэньнямі тычыцца да розных культурных расьлін. Напрыклад, у справаздачы Зыбінай аб хваробах ільну („Ахова Расьлін“ 1926 г. № 7) адзначаецца больш значнае разьвіцьцё ржаўшчыны ў расьлін пазьнейшых тэрмінаў сяўбы.

У кожным разе, не ўваходзячы ў далейшыя падрабязнасьці і абмяжоўваючыся данымі прыкладамі, мы думаем, што ня толькі аграномы і энтомолёгі, але і краязнаўцы наогул могуць і павінны прыняць удзел у качантковым вырашэньні пытаньня аб ранейшых і пазьнейшых тэрмінах сяўбы ў сувязі з мэтавай устаноўкай на падвышэньне ўраджайнасьці.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Е. В. Кушалевіч.

## Кабылянскае балота.

### Глебава-батанічны досьлед праведзены ўлетку 1926 г.

На 15 кілёмэтраў ад г. Гомеля па Чыгунцы Радашковічы—Бахмач каля ст. Касьцюкоўка раскінулася абшырнае балота. Проста ад станцыі з узгаркаватых узвышшаў адчыняецца прыгожы малюнак на балота, часткова пакрытае дробным хмызьняком з Salix cinerea L. cem. Jalicaceae—попельная вярба, Betula humilis—бяроза ніцая і Alnus glutinosa — чорная вольха, часткова зусім вольнае ад хмызьняковай расьліннасьці. Усё балота парасло аднастайнай балотнай расьліннасьцю.

Кабылянскае балота ляжыць у ўсходняй частцы былога Гомельскага павету, яно зьяўляецца суцэльным балотным масывам, які цягнецца ад вёскі Іванаўкі-Цярэнічы на ўсход да вёскі Кабыліна, а адсюль паварочвае на паўночны ўсход да в. Пыхані (геобатанічнаму досьледу падпадала тая частка балота, якая ляжыць між в. Іванаўка-Цярэнічы і Пыханьскай дарогай). Даўжыня балота паміж Іванаўкай-Цярэнічы і Пыханьню па ламанай лініі доўгай восі балота раўняецца 31 клм. да 15 клм. 700 м.; сярэдняя шырыня мяняецца ад 1 клм. Агульная плошча балотнага масыву раўняецца 6769 гэкт. Кабылянскае балота ў прадоўжным напрамку падзяляецца р. Бялічанкай—прытокай Узы, на дзьве часткі, няроўныя па плошчы. У пасёлку „Боук" рэчка Бялічанка злучаецца з канавай, якая была пракопана некалькі год таму назад з мэтай асушэньня Кабылянскага балота. У даны момант канава заплыла і зарасла вадзяной расьліннасьцю.

Рэльеф дасьледванага раёну зьяўляецца слаба-хвалістай раўнінай, на якой няроўнасьці рэльефу не перавышаюць 1—1,5 м. Няроўнасьці гэтыя пераважна эрозійнага пахаджэньня. Узвышаныя часткі рэльефу, што прылягаюць да балота, у даны момант досыць густа заселены і амаль скрозь развораны. Данае балота служыць сенажацьцю для цэлага шэрагу разьмясьціўшыхся тутака вёсак і пасёлкаў. Згодна апавяданьняў мясцовых жыхароў, Кабылянскае балота гадоў 20—25 таму назад амаль на ўвесь свой працяг было вельмі дрыгвяным і мала даступным: пры хадзьбе па балоце паверхня яго хваліста зыбалася. У даны момант, дзякуючы шэрагу канаў, балота значна абсохла і толькі ў рэдкіх выпадках праяўляе апісаны малюнак дрыгвы.

Паверхня Кабылянскага балота досыць шчыльная, асабліва ў летні час, у большасьці выпадкаў вельмі купчастая, пакрытая густым дыванам мхоў з сям'і Нурпасеае і багатай травяністай расьліннасьцю. Амаль на ўсёй плошчы балота наглядаецца таксама большая або меншая дамешка да травы дробнай хмызняковай расьліннасьці, напрыклад: Betula humilis — бяроза ніцая 50%, Salix cinerea — попельная вярба 18%, Alnus glutinosa, Betula pubescens — бяроза пухнатая 8% і інш.

У кліматычных адносінах Гомельская акруга зьяўляецца пераходнай да клімату паўднёва-заходняй Расіі. Тут пераважваюць паўночна-заходнія і ўсходнія вятры. Процантныя суадносіны за год заходніх




і ўсходніх вятроў мала розьняцца між сабой. Лік паўднёва-ўсходніх і паўночна-заходніх вятроў у восень і ўзімку тут аднолькавы. Наогул тутака вятры мацнейшыя ўзімку і слабейшыя ўлетку.

Клімат акругі ў меру вільготны і цёплы, з выпаданьнем дастатковай колькасьці ападкаў, а менавіта: ападкаў выпадае 600 м. м. і больш у іншыя гады; сьнегу выпадае менш як 110 м. м. Сярэдняя гадавая тэмпэратура паветра, згодна шматгадовых нагляданьняў дзьвюх мэтэоролёгічных станцый, — Навазыбкаўскай і Васілевіцкай, — віхаецца каля 6⁰Ц. Сярэднія тэмпэратуры за месяц паказваюць, што самым цёплым на працягу году месяцам у Гомельскай акрузе зьяўляецца Ліпень, за ім ідуць Жнівень і Чэрвень; самым халодным месяцам зьяўляецца студзень. Розьніца паміж тэмпэратурамі самага халоднага і самага цёплага месяцаў (Студзеня і Ліпня), інакш кажучы гадавая амплітуда, віхаецца ў межах 25,6⁰ (Васілевічы) і 27,8⁰ (Навазыбкаў), што ясна падкрэсьлівае контынэнтальнасьць клімату. Дасьледваньне Кабылянскага масыву было пачата ад вусьця р. Бялічанкі; яно складалася з таго, што перш за ўсё я ўзялася за азначэньне тоўшчы тарпяных пластоў пры дапамозе сьвідара Гілера. Зондаваньне праводзілася на кожным пікеце, г. зн. праз кожныя 100 м. па магістралі і папярочных лініях. Вузоры торпу браліся праз 500 м., а па глыбіні праз кожныя 0,5 м. Даныя зондаваньня высьветлілі, што тоўшча тарпяных адкладаў месцамі перавышае 6 м. Гэткая глыбіня, аднак

сустракаецца ня часта і пераважна ва ўсходняй частцы масыву. Глыбіня торпу ў 3-4 мэтры сустракаецца амаль усюды і нават на нязначнай адлегласьці ад суседняга мінэральнага берагу, з чаго мажліва зрабіць вывад, што Кабылянскае балота ляжыць у катліне, бераг якой мае некаторую стромкасьць.

Кабылянскае балота належыць да балот, якія папаўняюцца грунтовай вадою; яны падзяляюцца на:

а) траўныя балоты

б) гіпнавыя балоты

в) лясныя балоты.

Кабылянскае балота паводле складу расьліннасьці магчыма далучыць да гіпнава-асаковых. Папаўняюцца балоты гэтага тыпу грунтовай вадою, якая мае вольны доступ да паверхні балота (грунтовая вада на Кабылянскім балоце стаіць на глыбіні 0,4 м., месцамі выходзіць на паверхню). У гэтай вадзе, звычайна, прысутнічае вапна і яна багатая ў дастатковай меры пажыўнай матэрыяй. Расьліннасьць вымагае мінэральных матэрый. Sfagnum зусім адсутнічае. Асушаюцца гэткія балоты лёгка, бо торп даволі слаба ўтрымлівае ваду; вада ў ім лёгка перасоўваецца, але пры ўмове нязначнага стоку вады, якая выцякае з балота, што бывае цяжка з прычыны малага схілу рэчак, злучаных з гэтымі балотамі. Зьяўляюцца яны ў большасьці каштоўнымі сельска-гаспадарчымі ўжыткамі, якія пасьля асушкі даюць сенакосы і пашы. Матар'ялу для падсьціланьня не даюць. Торп іх для апалу малапрыгодны, цэглы дрэннай якасьці. Пністасьць малая, валакнаватасьць таксама. Пасьля асушкі торп лёгка раскладаецца.

Кабылянскае балота мае ўвагнутую форму, прычым да мінэральнага берагу краі балота паступова падвышаюцца і злучаюцца з мінэральным берагам.

Пачынаючы геаботанічнае апісаньне Кабылянскага балота, я перш за ўсё спынюся на глебавым накрыцьці (г. зн. на субстраце), бо ў шчыльнай сувязі з глебамі знаходзіцца расьлінная шата балота і лугу, і са зьменамі глебавага накрыцьця — зьмяняецца і разьвіваецца тое ці іншае расьліннае злучэньне. Цэнтральная частка балота, за некаторым выключэньнем, складаецца з тоўстых адкладаў торпу. Па напрамку да мінэральнага берагу сустракаюцца тарпяна-балотныя глебы з тоўшчай пластоў В у 40—50 см. (торп). Сустракаюцца глебы тарпяна-балотнага характару ў верхняй частцы рэчкі Бялічанкі, а таксама за чыгункай па абодва бакі канавы (выган). Апроч таго, сустракаюцца глебы глеіста-падзольныя, прыстасаваныя да мінэральных берагоў.

Апісаньне перарэзаў:

Перарэз № 2 быў зроблены на роўным лузе, мікрорэльеф западкавы. Расьліннасьць складаецца з Stellaria graminea — зоркаўка травяністая, Rumex crispus — шчаўе кучаравае, Trifolium repens — дзяцеліна белая, Ranunculus acer — казялец востры.

Перарэз даў наступныя вынікі:

$А_0$—ад 0—5 см. Дзёрнавы пласт, моцнае спляценьне карэнчыкаў травяной расьліннасьці.

$А_1$—ад 5—19 см. Тарпяны пласт цынамонавага колеру, які чым далей уніз—паступова шарэе і пераходзіць у пласт.

$Б_2$—ад 19—27 см. Шэрага колеру, з блакітным адценьнем, і з вялікай колькасьцю жалезістых праслаеньняў акісласьці жалеза, сустракаюцца карэнчыкі расьлін, але ў малай колькасьці.

$B_1$—ад 27—85 см. Пласт шэра-жоўтага колеру, шчыльна складзены. вільготны сустракаюцца сінія плямы вавіяніту ($Fe_3(PO_4)_2$ $8 H_2 O$)[1].

Глеба лугава-падзолістая. Мэханічны склад—слаба-падзолісты суглінак.

Ровень грунтовай вады трымаецца на глыбіні 90 см.

Перарэз тарпяна-балотнай глебы:

$A_0$—ад 0—3 см. Дзёрнавы пласт.

$B_1$—ад 3—90 см. Тарпяны пласт цёмна-цынамонавага колеру, добра расклаўся, сярэдняй вільготнасьці, глыбей уніз прымае шэра-чорную афарбоўку (глеісты), масьляністы на вобмацак і паступова пераходзіць у пласт С (грунт).

С—ад 90 см. і ніжэй. Глеевы пласт зеленаватага колеру, значна вільготны, на глыбіні 90 см. зьяўляецца вада.

Перарэз торпішча каля шашы:

№ 1.

0,5 м. Дзёран. Хвошчава-асаковы торп.
1 м. Асаковы торп.
2 м. Падвея-хвошчавы торп.
3 м. Гіпнавы торп.
4 м. Асаковы з дамешкай Alnus glutinosa.
4,5 м. Сапропелевы пласт.
Ніжэй. Буйна-зярністы пясок шэрага колеру.

1. *Хвошчава-асаковы* торп — цёмна-цынамонавага, амаль чорнага колеру, добра расклаўся, пры сьціскaньні ў руцэ перарабляецца ў нявыразную масу, напоўвільготны. Сьцебялі Equisetum palustris (хвошч балотны) прыметны добра і бяз прылад.

2. *Асаковы* торп — складаецца з асакі, якая, расклалася, рудога колеру, вільготны; апроч асок, сустракаецца насеньне Calla palustris (белакапытнік балотны), маленькае, выцягнутае формы, чырвонага або цынамонавага колеру. Гэтае насеньне таксама мажліва ўбачыць бяз усякіх прылад.

3. *Падвея-хвошчавы* — цынамонавага колеру, добра расклаўся, вельмі вільготны.

4. *Гіпнавы* торп—складаецца з мхоў сям'і Hypnacea; зусім у чыстым выглядзе я сустракала гэты торп рэдка, часьцей трапляўся ён з дамешкай травянай расьліннасьці, але з прычыны дамешкі апошняй усё-ж у нязначнай колькасьці, я гэты торп характарызую, як гіпнавы. Вельмі мяккі, не зьмяшчае ў сабе буйных сьцебялёў, нявыразнай структуры, у паветры акісьляецца.

5. *Асаковы* торп—з дамешкай Alnus glutinosa—чорная вольха, сьветла-цынамонавага колеру, у паветры чарнее, мае ў сабе значную дамешку дрэўных астаткаў Alnus glutinosa, з якой прычыны структура гэтага торпу падобная да гарэхаў.

6. *Сапропелевы* пласт — брудна-шэрага колеру, амаль чорны, з значнай дамешкай чарапашачак белага колеру добрай захаванасьці. Ляжыць сапропелевы пласт на падглебе,—буйна-зярністым пяску, які зьяўляецца былым дном вадазбору.

---

[1]) У зусім неакісьленым стане мінэрал гэты ня мае колеру, але пры першых-жа сьлядох акісьленьня—атрымлівае нябескавае адценьне, затым зеленаваты.

7. Нарэшце, *падглеба*—шэрага колеру, напоўвільготны шчыльны пясок, з дадаткам $Fe_2O_3$ (акісласьць жалеза).

Схэматычны перарэз тарпішча недалёкі ад вёскі Зялёныя Лукі.

№ 2.

Ад 0—8 см. Дзёран гіпнума.
Тоўшча 2 м. Асаковы торп з невялікай дамешкай Hypnum'a.
„ 1,1 м. Асаковы торп, з дадаткам Alnus glutinosa.
„ 0,5 м. Альшанікавы торп.
„ 0,5 м. Асаковы торп, з дамешкай Phragmites communis.
„ 0,25 м. Сапропелевы пласт. Падглеба, абглеены пясок.

Перарэз торпішча каля 95 пікету па магістралі.

№ 3.

Дзёран гіпнума.
Тоўшча, 1,5 м. Асаковы торп.
„ 1 м. Асаковы, з дамешкай Alnus glutinosa.
„ 1 м. Альшанікавы торп.
„ 0,5 м. Асаковы торп, з вялікай колькасьцю дрэўных астаткаў.
„ 15 см. Мінэральнае праслаеньне. Асаковы торп са сьцеблямі чароту.
„ 0,5 м. Асака-гіпнавы. Падглеба—глей.

Паміж шашой і чыгункай ёсьць вельмі многа ям, якія ўтварыліся ў часе пажару ў сухія 19—21 г. г. Тоўшча торпу досыць значная, перавышае 4 м., падглеба—блакітны глей. Сапропелевы пласт дасягае таўшчыні 1 м. За чыгункай па абодва бакі канавы, якая кепска захавалася, ляжыць купісты выган. Тоўшча торпу тут не перавышае 2-х м., падглеба—глей розных колераў, у адным месцы можна бачыць шэраваты з акісласьцю жалеза, у другім, трошкі далей, зялёны, і г. д. Чым дальш пасоўвацца ў напрамку да Пыхані, тым тоўшча торпу ўсё павялічваецца.

Наогул, будова торпішча вельмі аднастайная і амаль на ўсёй адлегласьці аднолькавая, толькі крыху зьмяняецца тоўшча асобных пластоў. Пры зондаваньні нярэдка сустракаліся мінэральныя праплástаваньні, якія мелі ў сабе вапну. Праплástаваньні гэтыя наноснага (воднага) характару, які зьявіўся ў выніку зьмены кліматычных умоў, затым павінен быў прайсьці нейкі час для таго, каб балотная флёра змагла ізноў пасяліцца. Звычайна на праслаеньні разьмяшчаецца асаковы торп, радзей чаротавы. Сапропеліт, які мае распаўсюджваньне на Кабылянскім балоце, зьяўляецца амаль аднастайнай масай, першапачаткова мяккага складу; у далейшым-жа на дне торпішчаў робіцца ён шчыльным і студзяністым; колер сапропеліт мае брудна-шэры. У склад яго ўваходзяць, галоўным чынам, рэшткі і продукты распаду вадзянай флёры і фаўны.

Поўны хэмічны аналіз торпу дагэтуль яшчэ ня зроблены, дзякуючы чаму гаварыць аб хэмічным складзе торпу зьяўляецца немагчымым. У лябораторыі АкрЗА быў зроблен аналіз торпу на попелістасьць; выявілася, што попелістасьць торпу раўняецца 10-11%. Сьвежаздабыты торп, нярэдка мае ў сабе вады ад 80 да 90%, прычым $^2/_3$

гэтай вады параўнаўча лёгка выдаляецца праз сушэньне торпу на вольным паветры, астатняя вада моцна ўтрымліваецца гідро-цэлюлёзай торпу і зьніжае цеплавыя ўласьцівасьці яго.

Штучнае сушэньне торпу нявыгодна, бо для гэтага трэба затрачваць значную частку яго на апал сушыльняў. Існуе спосаб перапрацоўкі торпу Ekenberg'a, заснаваны на адносінах гідроцэлюлёзы да награваньня пад ціскам. Калі гідроцэлюлёзу, якая насычана вадою, нагрэць да $180^0$ пад некаторым ціскам, то пры далейшай апрацоўцы прасаваньнем вада лёгка аддзяляецца ад гідроцэлюлёзы, і торп можна атрымаць з вадой ня больш, як каля $25^0/_0$.

Хуткасьць утварэньня торпу вельмі залежыць ад тых умоў, пры якіх яно адбываецца. Можна прыблізна лічыць, што патрэбна ад 30 да 50 гадоў на ўтварэньне тарпянога пласта таўшчынёю ў 1 мэтр.

## Батанічная частка.

Пераходзячы да апісаньня расьліннай шаты Кабылянскага балота, трэба заўважыць, што ўтварэньне балот стаіць у шчыльнай залежнасьці ад расьлін і той шлях, што праходзяць балоты ад іх зараджэньня і да часу поўнага сформаваньня, ідзе роўналежна з пасьлядоўнай зьменай расьліннасьці. Далейшае разьвіцьцё балот таксама будзе вызначацца пэўнай зьменай расьлін, прычым характар гэтай расьліннасьці будзе абумоўлівацца ўласьцівасьцямі торпу, якія ў сваю чаргу будуць залежаць ня толькі ад вонкавых умоў існаваньня, але ізноў-ткі ад тэй-жа расьліннасьці.

Кабылянскае балота папаўняецца грунтовай вадой, а таксама вадою, якая сьцякае з узвышшаў, што акаляюць яго. Усе гэтыя воды нясуць з сабою некаторую колькасьць мінэральных матэрый, якія ў няроўнай меры разьмяркоўваюцца па паверхні балота, так што берагі яго знаходзяцца ва ўмовах лепшага папаўненьня мінэральнымі матэрыямі, як у форме ўзважанага ў вадзе глею, гэтак і ў выглядзе рошчыны. Па меры росту балота, па меры награмаджэньня ў ім торпу, мінэральных матэрый трапляе ўсё менш і менш з грунтовымі водамі. Такім чынам, умовы росту расьліннасьці ў даным выпадку будуць залежаць ад злучэньня, з аднаго боку аддаленасьці, або ступені прыбліжанасьці данага месца да берагоў балота. Значыць, каля берагоў балота пасяляецца расьліннасьць, якая больш вымагае ад сваіх жыцьцёвых умоў і расьліннасьць цэнтральнай часткі балота, якая менш любіць ваду. Тыя віды расьлін, якія мы сустракаем каля берагоў балота, у цэнтральнай частцы балота мы ня сустрэнем, а калі і сустрэнем, дык толькі рэдкія паасобнікі (аб злучэньні тут і гаварыць няма чаго).

У цэнтральнай, г. з. у самай беднай пажыўнымі матэрыямі частцы балота пасяляецца расьліннасьць, якая мірыцца з недастатковай колькасьцю пажыўных матэрый і надзвычайна добра пераносіць лішкі вільгаці. Да гэтых расьлін належаць з сям'і gentianaceae—гарычкавых Menyanthes trifoliata—бабок трылісьцёвы; з сям'і Аройнікавых —Calla palustris—белакапытнік балотны; з сям'і Козяльцовых—Caltha palustris—лотаць балотны і той-жа сям'і Ranunculus Lingua—казялец вялікі. Я крыху спынюся на расьліне Caltha palustris (лотаць балотны). Пасяляецца ён пераважна ў зьніжаных частках рэльефу, там, дзе грунтовая вада мае выйсьце на паверхню балота. У вясеньні час гэтая расьліна красуе буйнымі жоўтымі кветкамі, з прычыны чаго балота ў гэтую пару году месцамі мае залаціста-жоўты фон. У ліпні месяцы

ад гэтых кветак застаецца толькі ўспамін. Лісьце лотаці балотнай мае акруглую форму, досыць буйных памераў, якія паступова пачынаюць прымаць спачатку сьветла-цынамонавую, а затым цёмна-цынамонавую афарбоўку і, пры вылучэньні расьліннасьці ў мясцовасьці ў асобныя згуртаваньні, згуртаваньне лотаці балотнай заўсёды вылучалася мною ў выглядзе асобных плям, на цёмна-цынамонавым фоне якога выразна выдзяляецца Carex. Расьце лотаць балотны на мала ўстойлівым мохавым дыване з сям'і Hypnaceae.

З іншых расьлін, якія распаўсюджваюцца шырока на Кабылянскім балоце—неабходна адзначыць наступныя сем'і: 1) Typhaceae—пухоўкавыя; 2) Cyperaceae—асаковыя; 3) Juncaceae—сітовыя; 4) Araceae—аройнікавыя; 5) Ranunculaceae—казяльцовыя і інш.

Аднастайная расьлінная шата Кабылянскага балота складаецца з расьліннасьці, сьпіс якой я прыводжу ніжэй. Затым я апішу расьлінную шату Кабылянскага балота па расьлінавых згуртаваньнях.

Расьліны, якія сустракаюцца ў вялікай колькасьці на Кабылянскім балоце—наступныя:

1. Carex dioica—асака двудомная.
2. Carex paradoxa—асака арыгінальная.
3. Carex caespitosa—асака дзёрнавая.
4. Carex aquatelis—асака вадзяная.
5. Carex gracilis—асака вострая.
6. Carex vesicaria—асака пузыркаватая.
7. Carex rostrata—асака бутэлькападобная.
8. Eriophorum latifolium—падвей шыракаліставы.
9. Eriophorum vaginatum—падвей похвісты. Сустракаецца рэдка.
10. Heleacharis palustris—балотнік балотны. Сустракаецца многа.
11. Juncus effusus—сіт разложысты.
12. Calla palustris—белакапытнік балотны.
13. Menyanthes trifoliata—бабок трылісьцёвы.
14. Caltha palustris—лотаць балотны.
15. Phragmites communis—чарот звычайны. Сустракаецца раскінута.
16. Valeriana officinalis—валяр'яна лекавая.
17. Alisma Plantago—шальнік трыпутнікавы. Сустракаецца многа.
18. Filipendula Ulmaria—вятроўнік вязалісьцевы. Сустр. рэдка.
19. Stellaria media—макрыца. Сустр. рэдка.
20. Parnassia palustris—відомец балотны. Сустр. рэдка.
21. Myosotis palustris—незабудка балотная. Сустракаецца рэдка.
22. Trollius europaeus—пярэсна эўропейская. Сустр. адзінкі.
23. Ranunculus Lingua—казялец вялікі. Сустр. многа.
24. Comarum palustre—дуброўка балотная. Сустр. многа
25. Bidens tripartitus—ваўчкі трыдзельныя. Сустр. раскінута.
26. Lythrum Salicaria—чальчак звычайны. Сустр. многа.
27. Calluna vulgaris—верас звычайны. Сустр. адзінкі.
28. Rumex aquaticus—шчаўе вадзянае. Сустр. адзінкі.
29. Sparganium—плюшчэй. Сустр. раскінута.
30. Sagittaria sagittifolia—стрэліца стрэлкалістая. Сустр. многа.
31. Hydrocharis Morsus ranae—жабнік звычайны. Сустр. у стаячай вадзе.
32. Jris Pceudacorus—касач жоўты. Сустр. раскінута.
33. Brunella vulgaris—брунэлька звычайная. Сустр. раскінута.
34. Poa trivialis—мятлюжок звычайны. Сустр. раскінута.
35. Apera Spica Venti—мятла збажжавая. Сустр. рэдка.

36. Agrostis alba—мятліца белая. Сустр. раскінута.
37. Calamagrostis epigeios—пажарніца пескавая. Сустр. многа.
38. Phleum pratense– мяжоўка цімафейка. Сустр. раскінута.
39. Equisetum lomosum—хвошч намульны. Сустр. многа.

З мхоў сустракаецца ў вялікай колькасьці Нурпит.

Апроч вышэйпералічаных расьлін, характэрных для цэнтральнай часткі балота, мы маем цэлы шэраг іншых расьлін, якія пасяляюцца каля яго берагоў (бліжэй да мінэральнага берагу). З іх можна адзначыць наступныя:

1. Leucanthemum vulgare—нівяліка. Сустракаецца многа.
2. Centaurea Jacea—валошка лугавая „ „
3. Campanula patula—званкі лугавыя. Сустр. рэдка.
4. Campanula rotundifolia—званкі круглалісьцёвыя Сустр. рэдка.
5. Linaria vulgaris—зарніца звычайная. Сустр. рэдка.
6. Plantago major—трыпутнік вялікі „ „
7. Trifolium repens—дзяцеліна белая. Сустр. многа
8. Trifolium agrarium—дзяцеліна палявая Сустр. рэдка.
9. Trifolium hybridum—дзяцеліная швэдзкая.
10. Dactylis glomerata—купкоўка звычайная „ „
11. Briza media—дрыжнік сярэдні. Сустр. многа.
12. Phleum pratense—мяжоўка цімафейка. Сустр. раскінута.
13. Anthoxanthum odoratum—томка пахучая „ „
14. Equisteum pratense—хвош лугавы „ „
15. Polygala vulgaris—крапінец звычайны „ „
16. Lotus corniculatus—рутвіца звычайная „ „
17. Potentilla Anserina—дуброўка гусіная. Сустракаецца многа.
18. Potentilla Tormentilla—дубоўка лесавая „ „
19. Rumex Acetosa—шчаўе праўдзівае „ „
20. Alectorolophus minor—званец меншы „ „
21. Viola tricolor—браткі звычайныя. Сустр. раскінута
22. Trifolium montanum—дзяцеліна горная. Сустр. раскінута.
23. Stellaria Holostea—зоркаўка вялікакветная „ „

Пасяляюцца гэтыя расьліны на лугава-падзолістай глебе, ня рэдка на падзолістым супяску.

Вадзяная паверхня рэчкі Бялічанкі пакрыта вадзяніцай белай, Nymphaea alba, а таксама залацістым туліпанам; на зялёным полі рухавых лісьцяў вырысоўваюцца збанкі жоўтыя, Nuphar luteum. Бялічанка месцамі перасыхае, так што яе магчыма лёгка пераходзіць. Каля пасёлку „Букі“, рэчка мае мясцовую назву „Букі“; тут даліна яе з глыбока ўрэзанымі берагамі. Рэчышча на ўсім працягу да вусьця, то пашыраецца, то звужваецца, месцамі берагі злучаюцца з поймай. Апроч збанкоў і вадзяніцы белай, вадзяная паверхня Бялічанкі мае шмат Stratiotes aloides—разак вадзяны, калючае лісьце якога тырчыць на вадзянай паверхні. Каля прырэчышчавай зоны вузкай істужкай цягнецца асака месцамі ў сужыцьці з Pragmites communis—чаротам. У тым месцы, дзе Бялічанка ўпадае ў Узу, поймы гэтых дзьвюх рэчак злучаюцца; грунтовая вада выходзіць на паверхню балота, расьліннасьць тут пераважна асаковая, якая ў выглядзе мысаў высоўваецца ў пойму (ад рэчышча). Паверхня балота каля вусьця Бялічанкі вельмі зыбкая, хадзіць па ёй ледзьве магчыма.

З дрэўнай расьліннасьці на Кабылянскім балоце неабходна адзначыць:

1. Alnus glutinosa—чорная вольха. Сустракаецца раскінута.
2. Salix cinerea—попелавая вярба. Сустр. многа.
3. Betula humilis—бяроза ніцая. Сустракаецца многа.
4. Betula pubescens—бяроза пухнатая. Між шашой і чыгункай.

Усе расьліны, як лугу, гэтак і балота растуць у згуртаваньні і вядуць барацьбу за існаваньне; слабейшыя паасобнікі загінуць, як нявытрымаўшыя гэтай барацьбы.

Усе расьліны на пэўным вучастку паверхні зямлі зьвязваюцца ў адно цэлае, якое мы называем згуртаваньнем; усе-ж згуртаваньні, падобныя па сваёй эколёгіі, па сваёй будове і жыцьці, аб'яднаюцца ў злучэньні.

Пераходзім да апісаньня найбольш характэрных і распаўсюджаных злучэньняў кабылянскага масыву.

### 1. *Хвошчава-асаковае злучэньне.*

Гэтае злучэньне мае на Кабылянскім балоце шырокае распаўсюджаньне. Займае яно пераважна значна вільготныя месцы. Грунтавая вада стаіць тут вельмі высока, месцамі выходзіць на паверхню балота. Гэтая вада мае ў сабе некаторую колькасьць акісласьці жалеза, з прычыны чаго калер яе жоўта-руды. Падзел на паверхі тут вельмі добра прыметны.

I-ы паверх. 1. Equisetum lomosum—25%, хвошч намульны.
2. Carex rostrata—12%, бутэлькападобная асака.
3. Carex caespitosa—10%, дзёрнавая асака.
II-і паверх. 4. Caltha palutris—5%, лотаць балотны.
5. Comarum palustre—3%, дуброўка балотная.
6. Myosotis palustris—5%, незабудка балотная.
7. Menyanthes trifoliata—3%, бабок трылісьцёвы.
III-і паверх. 8. Мох з сямейства Hypnum.

### 2. *Чаротавае злучэньне.*

Гэтае злучэньне пасяляецца па беразе рэчкі Бялічанкі, а таксама на ўсход ад в. Зялёныя Лукі ў хмызьняку. Расьце чарот пераважна чыстымі злучэньнямі, іншы раз дамешваецца Salix cinerea. У 1-м паверсе расьце Phragmites communis, чарот, 70% усяго травастою. Спадкі, II-гі паверх, складаецца з вятроўніка вязалісьцевага, Filipendula Ulmaria, 8%; чальчаку звычайнага—10%; іншы раз сустракаецца папараць—2%, і нарэшце, вельмі шчыльны мохавы дыван з Hypnum'a.

### 3. *Злучэньне падвею.*

Гэтае злучэньне жыве ў мясцох, дзе ровень грунтовых вод стаіць на глыбіны 10—15 см. ад паверхні.

| | | |
|---|---|---|
| I-ы паверх | складаецца з Eriophorum rotundifolium . . . | 20% |
| | Equisetum lomosum—хвошч намульны . . . | 7% |
| | Ranunculus Lingua—казялец вялікі. . . . | 7% |
| | Comarum palustre—дуброўка балотная . . . | 5% |
| II-і паверх. | Calla palustris—белакапытнік балотны . . . | 10% |
| | Carex gracilis—асака вострая . . . . | 3% |
| | Carex echinota—асака вожыкападобная . . . | 2% |

| | | |
|---|---|---|
| | Caltha palustris—лотаць балотны | 6% |
| | Stellaria media—макрыца | 12% |
| III-і паверх. | Hypnum. Mxi. | |

Злучэньне Eriophorum займае нязначныя абшары ў раёне в. Зялёныя Лукі.

### 4. *Травяна-асаковае злучэньне.*

Жыве ў падвышаных частках балота, дзе вільгаць не застойваецца. Вышыня травастою дасягае 45—50 см., падзел на паверхі выразны. З траў у першым паверсе можна адзначыць:

| | | |
|---|---|---|
| I-ы паверх. | Briza media—дрыжнік сярэдні | 5% |
| | Agrostis vulgaris—мятліца звычайная | 8% |
| | Agrostis alba—мятліца белая | 20% |
| | Phleum pratense—мяжоўка цімафейка | 7% |
| | Poa palustris—мятлюжок балотны | 3% |
| | Hypericum perforatum—сьвятаяньнік дзіркаваты | 2% |
| II-і паверх. | Stellaria media—макрыца | 4% |
| | Crisanthemum leucanthemum—нівянік | 8% |
| | Trifolium repens—дзяцеліна белая | 5% |
| | Plantago media—трыпутнік сярэдні | 6% |
| | Campanula patula—званкі лугавыя | 6% |
| | Brunella vulgaris—брунэлька звычайная | 5% |
| | | і інш. |

Асокі ў гэтым злучэньні не сустракаюцца; мхі—таксама.

### 5. *Злучэньне чальчаку звычайнага.*

Злучэньне гэтае разьвіваецца ў мясцох, дзе зашмат вільгаці на досыць бедным пажыўнымі матэрыямі торпе. Займае яно вялікія абшары паміж хвошчава-асаковымі злучэньнямі ў паўднёва-ўсходняй частцы масыву.

Пераважвае ў злучэньні чальчаку звычайнага:

| | | |
|---|---|---|
| I-ы паверх. | Lythrum Salicaria—чальчак звычайны | 50% |
| | Alisma Plantago—шальнік трыпутнікавы | 8% |
| | | і Carex. |
| II-і паверх. | Comarum palustris—дуброўка балотная | 7% |
| | Calla palustris—белакапытнік балотны | 5% |
| | Parnassia palustris—відомец балотны | 3% |
| | Menyanthes trifoliata—бабок трылісьцёвы | 5% |

Дзе-ня-дзе ў другім паверсе пасяляецца Valeriana officinalis—валяр'яна лекавая 2%, Brunella vulagaris—брунэлька звычайная 1%.

У III-м паверсе пануюць мхі Hypnum.

### 6. *Злучэньне асокава-сітняковае.*

Гэтае злучэньне разьвіваецца ў мясцох, дзе ёсьць лішкі вільгаці, пераважна пры поўным застоі грунтовай вады. Лішкі вільгаці ў мясцох занятых гэтым злучэньнем, настолькі значныя, што пры хадзьбе заўважваецца некаторая зыбкасьць і топкасьць дывану, прычым вада

ўсюды выходзіць на паверхню нават у параўнаўча сухое надвор'е. Пасяляецца яно ў большасьці выпадкаў па берагох рэчкі Бялічанкі, канавы, раўналежна ст. Беліца на правым боку поймы, у мэтрах 100—120 ад рэчышча; таксама гэтае злучэньне раскідаецца і ў раёне в. Зялёныя Лукі.

| | | |
|---|---|---|
| У I-м паверсе растуць | Phragmites communis—чарот . . | 8% |
| | Carex vesicaria—асака пузыркаватая . . . | 10% |
| | Carex caespitosa—асака дзёрнавая . . . | 8% |
| | Filipendula Ulmaria—вятроўнік вязалісьцевы . . | 5% |
| II-гі паверх. | Ranunculus Lingua—казялец вялікі . . . | 7% |
| | Equisetum lomasum—хвошч намульны . . . | 5% |
| | Scirpus silvaticus—сітняк лесавы | |
| | Heleocharis palustris—балотнік балотны | |
| III-ці паверх. | Mxi Hypnum. | |

### *7. Злучэньне званцова-травяное.*

Злучэньне гэтае займае ўзвышаныя часткі, якія мяжуюць з мінэральным берагам. Узвышаныя часткі ляжаць сярод поймы і зьяўляюцца ізоляванымі, дзякуючы чаму рэжым вільгаці на іх вельмі абмежаваны, глеба адрозьніваецца значнай сухасьцю пры роўні грунтовай вады ніжэй 0,5 м.

Травастой вельмі нізкі і рэдкі, складаецца з дробных траў і markdown рознатраўя, з некаторай дамешкай бабовых; значна выдзяляецца званец. Верхні паверх дасягае ўсяго 30 см. З рознатраў'я, апроч званца, у вялікай колькасьці сустракаецца валошка лугавая, крываўнік, рагавінка, трыпутнік лянцэтаваты, ястрабок, папоўнік і інш. Сярод траў ёсьць мятліца белая, дрыжнік, мяжоўка цімафейка, таксама томка пахучая.

З бабовых—адзначаны ў большай ці меншай колькасьці дзяцеліна лугавая і дзяцеліна белая. Асака зусім адсутнічае; мхі—таксама.

Купістыя выганы тут звычайна бываюць пакрытыя беднай травянай расьліннасьцю; пераважвае з расьліннасьці галоўным чынам казялец востры, паасобнымі адзінкамі сустракаецца чальчак звычайны.

### Пахаджэньне Кабылянскага балота.

Кабылянскі тарпяны масыў стварыўся, як відаць, праз забалочваньне некалькіх вадазбораў, якія злучаліся між сабою пратокамі. Берагі гэтых вадазбораў, а таксама абшары між пратокамі пакрытыя былі дрэўнай расьліннасьцю, пераважна Betula pubescens, бяроза пухнатая, і Alnus glutinosa, чорная вольха. Допушчэньне аб існаваньні тут некалі лесу не падлягае сумненьню, бо пры зондаваньні торпішча і на глебавых перарэзах на глыбіні 3-4 мэтраў сустракаліся ствалы дрэў. Асабліва часта зонд трапляў у ствалы бярозы, белая кара якой добра захавалася да нашых часоў. На глыбіні 2-3 м. сустракаецца алешнікавы торп, які добра расклаўся, сярэдняй вільгаці, арэхаватай структуры. Аб тым, што тут было некалькі вадазбораў, сьведчыць агульны стан і форма балота, а таксама даныя зондаваньня. У час зондаваньня торпішча было заўважана паступовае зьмяншэньне тоўшчы тарпяных пластоў у напрамку да мінэральнага берагу. Месцамі каля асноўных берагоў заўважвалася досыць значная тоўшча торпу.

З гэтага можна зрабіць вывад, што западзіны, з якіх з працягам часу ўтварылася Кабылянскае балота, мелі даволі высокія адхонныя берагі. Утварэньне гэтых западзін трэба аднясьці да ледавіковага пэрыоду. Даныя нівэліроўкі паказваюць, што мясцовасьць спускаецца да рэчкі Узы, значыць, вазёры, якія ляжалі тут, мелі сьцёк сваёй вады ў бок рэчкі Узы, усходняя частка поймы якой злучаецца з поймай рэчкі Бялічанкі. Слабы спад мясцовасьці і кепская выпрацаванасьць рэчышч зьявіліся прычынай таго, што самыя вазёры і пратокі, што іх злучалі, паступова пачалі зарастаць вадзяной і вядзяна-балотнай расьліннасьцю. На дне гэткіх вадазбораў (з стаячай вадою) зьбіраліся спачатку адклады, якія складаліся выключна з мінэральных матэрый і якія траплялі ў вадазбор дзякуючы вятрам у выглядзе пылу, або траплялі ў ваду і асядалі на дно ў час размываньня спадаў вадазбору.

Пратокі прыносілі вапну ў выглядзе двувуглянакваснага кальцыя, які паступова асядаў на дно. У выніку гэтага першыя пласты мінэральных адкладаў маюць у сабе вапну і ўскіпаюць ад серкавага квасу. На Кабылянскім балоце гэтыя мінэральныя адклады залягаюць на падглебе (глеі ці пяску) і маюць шэравата-белы колер. Гэткія, чыста мінэральнага характару, адклады награмаджаюцца нядоўга. Хутка ў вадазборы абуджаецца арганічнае жыцьцё. У вадазборы пачынае разьвівацца плянктон, г. ё. расьлінныя і жывотныя організмы, якія захоўваюць раўнавагу ў вадзе; прычым апошнія адыгрываюць непараўнаўча вялікшую ролю, чымся першыя. Сярод расьлін найбольш распаўсюджана ў плянктоне багавіньне, грыбы-ж і бактэрыі адыходзяць на апошні плян. Такім чынам у вадазборы за мінэральнымі адкладамі адкладаецца сапропэліт—продукт галоўным чынам плянктону, рэшткі якога трапляюць на дно і награмаджаюцца паступова.

За сапропэлітам адкладаецца сапропэлітавы торп. Ён складаецца з сапропэля, з значнай дамешкай гумусавых квасаў і намытага і адмучанага торпу, прычым апошні ўтвараецца з торпу, які залягае на беразе, а першы стварыўся з намытых частак вышэйшых расьлін. Звычайна сапропэлевы торп мае выгляд глею цёмнага колеру.

З тэй прычыны, што ў кожным вадазборы разьмеркаваньне глыбіні ідзе зональна, дык зразумела, што і ў разьмеркаваньні расьліннасьці ў вадазборы заўважваецца некаторая вядомая зональнасьць. У глыбокіх частках вадазбору, куды не даходзяць сонечныя праменьні, жыве расьліннасьць, якая не патрабуе сьвятла. Да такіх расьлін належаць прасьцейшыя зароднікавыя. У менш глыбокіх частках пасяляецца расьліннасьць з буйных відаў, але таксама выключна зароднікавая; тут больш значную ролю адыгрывае зялёнае багавіньне. Гэтыя дзьве зоны ўтвараюць адну зону—зону мікрофітаў. За ёю ідзе зона кветкавых расьлін,—зона мікрофітаў. Бліжэй да берага пасяляецца расьліннасьць, якая складаецца з шыракалістых урэчнікаў. У гэтай-жа зоне ў больш мелкіх яе частках разьвіваюцца Nymphaea, вадзяніца белая і збанкі жоўтыя Nuphar.

Наступная зона, зона сітняку заключае ў сабе расьліны высокія, надворныя часткі якіх значна ўзвышаюцца на паверхняй вады; да іх належыць Phragmites communis—чарот, Scirpus lacustris—сітняк, Equisetum lomosum, і інш. Звычайна глыбіня тут ня больш 2-3 м. Між сітняковай зонай і ўрэзам вады маем мелкаводную зону. Склад расьліннасьці вельмі living розпастайны; звычайна тут ёсьць Carex, Sagittaria sagittifolia—стрэліца стрэлкалістая. Alisma Plantago—шальнік трыпутнікавы і інш. Апроч вышэйапісаных зон расьліннасьці, у вадазборы ёсьць расьліны

не прымацаваныя да дна, яны вольна плаваюць. Да такіх расьлін належаць: Lemna minor—раска, Stratiotes aloides—разак вадзяны, які над паверхняй вады выстаўляе сваё востразубчатае лісьце. Такім чынам, кожнай зоне, або кожнаму расьліннаму злучэньню ў вадазборы адпавядае пэўны від адкладу, спачатку адкладаюцца сапропэлевыя пласты, а затым торп. З тэй прычыны, што торп вельмі добра захоўвае ў сабе як рознастайныя расьлінныя і жывотныя астаткі, гэтак і рэчы культуры чалавека, якія трапілі ў яго ў час яго ўтварэньня, мы маем мажлівасьць, дзякуючы гэтаму, вывучаць пахаваныя ў торпішчах вышэйадзначаныя астаткі і атрымліваць каштоўныя факты, якія асьвятляюць гісторыю разьвіцьця ня толькі флёры і фаўны данай мясцовасьці, але таксама і вывучаць гісторыю культуры чалавека.

Прытока рэчкі Узы р. Бялічанка некалі была вялікай рэчкай, па ёй магчыма было езьдзіць на лодцы і перавозіць цяжары, чаго цяпер зрабіць нельга. У торпішчы каля шашы было знойдзена вялікае вясло, а паміж чыгункай і шашой аказаліся пахаванымі некаторыя прылады ад вялікіх чаўноў. Усё гэта кажа за тое, што рэчка Бялічанка, якая цяпер ужо заплыла пяском і зарасла балотнай флёрай, некалі мела зусім іншы выгляд. Апроч прадоўжнай канавы, якая пачынаецца ля вытокаў рэчкі Бялічанкі, на Кабылянскім балоце мы маем цэлы шэраг канаў упоперак, якія заходзяць у мысы масыву і яго больш аддаленыя часткі. Сяляне Кабылянскае балота косяць і складаюць на ім стагі, але перавозяць да сябе сена толькі ў зімовую пару, бо як улетку, гэтак і ўвосень перавозка абцяжарана.

У некаторых мясцох сяляне, аб'яднаныя ў тарпяныя таварыствы, вядуць распрацоўку торпу прымітыўным спосабам.

Гэткіх тарпяных таварystваў у раёне Кабылянскага балота ёсьць пяць (5):

1) Рогаўскае, 2) Замосьцеўскае, 3) Касьцюкоўскае, 4) Пыханьскае і 5) Астроўскае. Намячаюцца да організацыі яшчэ два таварыствы ў в. Ст. Беліца і Зялёныя Лукі.

Трэба адзначыць, што тая частка балота, якая ляжыць паміж шашой і чыгункай, зьяўляецца пераходнай формай балота; яна трошкі падвышана і пакрыта Betula pubescens, Betula humilis, а месцамі мажліва сустрэнуць Alnus glutinosa; Salix сустракаецца вельмі часта. Вышыня гэтых дрэўных парод увогуле дасягае 1,5—2 м. На гэтым-жа вучастку быў знойдзены мох невялікімі плямамі Sphagnum acutifolium і Drosera rotundifolia.

Наагул, гэтая нязначная частка балота з працягам часу прымушана будзе перайсьці са стану грунтовага пажываньня, у стан атмосфэрнага і Hypnum замяніцца Sphagnum'ам. Ад шашы па напрамку да ст. Беліца па канаве ўправа мы сустракалі вялікі хмызьняк з Betula humilis—бяроза ніцая, і Salix cinerea. Затым на ўсход ад в. Зялёныя Лукі таксама ёсьць вялікая плошча хмызьняку з тэй-жа расьліннасьці. Каля пас. Беліцкага ляжыць алешнік па правы бок рэчкі Бялічанкі.

З набліжэньнем гэтай рэчкі да вёскі Ст. Беліца даліна яе пашыраецца. За Стара-Беліцкім мастом Бялічанка звужаецца. Зьвіліна ў нявыразнай даліне—яна робіць уражаньне раўчака, з выгляду мелкага, але недаступнага ў сваім грузкім тарпяным рэчышчы. У вусьці яно пашыраецца, паверхня вады злучаецца з паверхняй поймы і, праходзячы ў багністых берагох, злучаецца з рэчкай Узай. Апошняя маючы ў месцы ўтокі Бялічанкі нязначны нахіл—0,0001, вельмі перагружана вадою рэчак Узы і Бялічанкі, якія складаюць тут свае наносы. Такога

паходжаньня два астравы, якія ляжаць у даліне р. Узы; пакрытыя яны Carex—асакою.

Тая частка Кабылянскага балота, якая разьмясьцілася ў пойме рэчкі Бялічанкі мае надзвычайна прыгожы выгляд. Яна перш за ўсё песьціць вока сваёй прасторай, прывольлем і зялёнай роўнядзьдзю. Улетку балота бывае заліта сонцам, у ім многа сьвету і паветра. У раньнюю восень можна залюбавацца чароўнымі белымі туманамі, што распаўзаюцца па разложыстай даліне дзівоснымі воблачнымі плёнкамі. Цяжка перадаць словамі тыя ўражаньне і чары, якія захопліваюць і назаўсёды застаюцца ў памяці ад гэтага дзіўнага шырокага абшару.

Досьледы, якія вяліся ў 1926 годзе ў поймах рэчак Узы і Бялічанкі, мелі на мэце стварэньне вадазборнай магістралі ў пойме Бялічанкі для наступнай асушальнай сеткі Кабылянскага масыву.

Асушэньне Кабылянскага балота мае вялізную каштоўнасьць у прамысловых адносінах, як папярэдняя праца да выкарыстаньня вагромністых запасаў торпу ў энэргетычных і іншых мэтах. Зацікаўленасьць прадпрыемстваў у торпа-распрацоўцы Кабылянскага масыву надзвычайна вялікая. Калі ў 1923 і 1924 гг. адсутнасьць пэўных заданьняў з боку адпаведных гаспадарчых установ да выкарыстоўваньня тарпянага масыву зацямніла да некатарай ступені яго экономічную каштоўнасьць, дык у даны момант запытаньні асобных гаспадарчых органаў і прадпрыемстваў конкрэтызуюцца ў пэўныя патрабаваньні больш таннага мясцовага віду апалу.

Разьмяшчэньне-ж Кабылянскага балота ў 15-ці вярстах ад гор. Гомелю пры чыгунцы, павялічвае шансы экономічнай выгоднасьці яго эксплёатацыі. У даны момант увага шмат якіх прамыслова-гаспадарчых органаў занята пытаньнем пераходу на тарпяны апал.

Аснаўным рашаючым фактарам у гэтых пытаньнях зьяўляецца просты матэматычны разьлік экономічнай выгады. Па разьліках Акруговага Торпмэйстэра, электрастанцыя перайшоўшы на торпавы апал атрымае штодзеннай экономіі 197 р. 73 к., а штогодняй з разьліку 360 дзён—71.182 р.

Вялізарны запас торпу на Кабылянскім балоце з аб'ёмам у 190.080.000 куб. мэтраў сырой масы або 1.710.720.000 пудоў (28.044.590 тон прыблізна) паветрана-сухога торпу, забясьпечыў-бы не адну электрастанцыю, якой пры сучасным спажываньні ёю апалу гэтага торпу хапіла-б на 1500 гадоў. З гэтых лічбаў відаць, што наяўнасьць торпу можа забясьпечыць на соткі год электрычнай энэргіяй прамысловасьць усяго нашага раёну.

Экономічная каштоўнасьць Кабылянскага балота дадае асабліваe значаньне рэгулявальным працам у пойме рэчкі Узы і высоўвае іх у шэраг першачарговых прац.

**М. І Саламыкін.**

# Дарожныя нататкі.

*Веткаўскі раён, Гомельшчына.*

Маючы заданьне Гомельскага акруговага Т-ва Краязнаўства абсьледваць возера „Равучае“, як зборны пункт дзічыны плывуноў, якое знаходзіцца на ўсходзе Веткаўскага раёну, таксама лічачы патрэбным азнаямленьне з раёнам, я ў другой палове кастрычніка 1928 г. прыехаў у раённы цэнтр—горад Ветку.

Супраць прыстані на ўзбочыне сіратліва прытуліліся закураныя кузьні; управа ад іх, па беразе, мэтрах у ста ад рэчкі, роўнай лініяй раскінуліся некалькі драўляных жылых будынкаў расійскага тыпу, а ўлева цягнуўся драўляны паркан, які аддзяляў бераг ад садоў. Каля паркана фурманшчыкі.

— Едзем?... Куды паедзем?... Давай паедзем!...—чутны іх галасы. Я трапляю на шырокую, першую ад прыстані, вуліцу гарадка.

Па бакох драўляныя дамы старарасійскага тыпу: высокія цагляныя падмуркі або драўляныя „прызбы", пабудаваныя з бярвеньня або абшалёваныя, афарбаваныя ў мяккія адценьні сьцены, вялікія вокны з упрыгожанымі выразанымі вузорамі „налічнікамі" і прастымі двойчатымі вакяніцамі; пад дахам, падобным па форме да піраміды або разрэзанага стажка,і зробленым з шалёўкі, гонты або бляхі, таксама ўзорыстыя выразаныя карнізы, перад фасадам палісаднік, а побач з домам пакрытыя і аздобленыя пад „елку" або гладкія вароты з форткай на масыўных дубовых слупох — „шулах", уверсе пад стрэшкай варот мядзяны васьміканцовы крыж, а паміж форткай і домам лаўка пад паветкай і з „падножніцай" — прысадзістым услончыкам. У куце пад карнізам аднаго дома выцертая часам бляшанка („жесточка") ледзьве ўдаецца прачытаць наступнае: „Собствиный дом мещенина Петра Фомина Сальникова", а ўнізе бяз густу намалёваны — піла, сякера і фуганак.

Вуліца, як можна меркаваць, паводле васьміканцовых крыжоў на варотах, населена старавермі. Тут-жа за агарожай (напалову цаглянай, напалову драўлянай), вялікая драўляная старавесрская царква ў імя „Пакрова багародзіцы". Выходжу на пляц аблямаваны з аднага боку мізэрнымі каменнымі дамамі, якія парушаюць драўляны лад мястэчка, з другога боку раскінутымі ў непарадку крамамі і з астатніх бакоў — будовамі вуліц, якія канчаюцца ці бяруць каля пляца свой пачатак. Тут згрупаваны амаль усе грамадзкія ўстановы гарадка.

Пасярэдзіне пляца маленькая трыбуна, а каля задніх сьценак крам сялянскія фурманкі, якія зьяжджацца сюды ў рыначныя дні для розных гандлёвых спраў.

Знаходжу старшыню раённага краязнаўчага таварыства. Настаўнік мясцовай сямігадовай школы. На пытаньне — як у вас ідзе справа з краязнаўчай працай?—атрымліваю пэсымістычны адказ.

— Кепска. Як працаваць, скажэце, калі ласка, калі кожны з нас ужо заняты сваёй асноўнай працай, ды яшчэ кожны мае некалькі нагрузак...

— Ну, добра! Давайце сёньня ўвечары склічам агульны сход сяброў і пагутарым аб працы, — прапаную я.

— Добра... — згаджаецца старшыня, — значыць вы будзеце тутака начаваць, а заўтра да хаты?...

— Так, пераначую тут, а заўтра не да хаты, а ў глыб раёну.

— Куды-ж?—пытаецца старшыня.

— На возера, недалёка ад Новага Закружжа або Марозаўкі, — адказваю я.

— Значыць вам трэба фурманкай, але заўтра ў нас дзень ня рыначны, сялян ня будзе, а фурманшчык возьме ў тры разы даражэй.

— Ну, дык у такім выпадку я паеду яшчэ сёньня, а да вас заеду на адваротны шляху.

Мы разьвіталіся.

З рынку ўжо разьяжджаліся, калі я туды прышоў. Ад пляцу ва ўсе бакі цягнуліся сялянскія калёсы.

— Адкуль, дзядзька? — запытаў я яшчэ запрагаўшага свайго каня рослага беларуса.

— З Сівенкі, а што?

— Шкада, не падарозе; мне на Марозаўку трэба.

— На Марозаўку?... дык чаму-ж, калі трэба, дык і на Марозаўку можам завязьці.

Дагаварваемся аб плаце, а праз поўгадзіны пад рыпаньне кепска намазаных калёс у памяці ўсплыла гісторыя гарадка, што застаўся ззаду.

Цяпер раённы цэнтральны горад, ляжыць на левым роўным беразе Сажа на адлегласьці 20 клм. ад Гомелю. Ён узьнік у апошняй чверці XVII стагодзьдзя. Першымі насельнікамі яго былі стараверы—раскольнікі, якія ўцяклі з Расіі на чале з сваімі папамі Кузьмой і Стэфанам. Месца іх пасяленьня ў той час належала польскаму пану Халецкаму; ён быў вельмі рады чужакам, якія занялі раней парожнюю зямлю і якія плацілі за яе вялікі чынш. Хутка, у сувязі з наплывам з розных канцоў Расіі раскольнікаў недалёка ад Веткі — якая называлася тады слабадой — стварыліся яшчэ вялікія слабодкі: Косіцкая, Раманава, Лявонцьева і інш. У канцы XVIII стагодзьдзя Ветка належала абшарніку Станевічу і налічвала ў 1880 годзе 5982 насельнікі, з якіх: старавераў — 2111 чалавек, праваслаўных — 1310, яўрэяў — 2548, каталікоў — 12 і іншых — 1 чалавек.

У той час у Ветцы знаходзіліся: Камора міравога судзьдзі 8-га вучастку Гомельскай акругі; кватэры станавога 2-га стану, судовага прystава Гомельскага зьезду міравых судзьдзяў, памочніка акцызнага наглядніка; валаснoe праўленьне, народнае вучылішча, паштовае аддзяленьне і прыёмны пакой для хворых з штатным пры ім фэльчарам. Апроч таго, былі: прыватная аптэка, шэсьць канатных заводаў, шэсьць ветракоў і ў двух мясцовых кавалёў выраблялiся якары (адзіная ў той час у Магілеўскай губэрні вытворчасьць).

— А па якой справе вам трэба ў Марозаўку? — вывеў мяне з задуменнасьці сваім пытаньнем выпадковы падарожнік які, да таго маўчаў.

— На возера еду, — каротка адказаў я.

— А, на возера, на Равучае, ведаю, ведаю; а зачым вам туды?

Я каротка растлумачыў мэту свайго падарожжа.

Селянін выпусьціў з роту клубы махоркавага дыму і заўважыў:

— Так, так... значыць гэта для вас цікава, разумею. А вось нам, сялянам, дык гэта зусім ня цікава, ды яшчэ каб грошы на гэта траціць, не, ніколі, лепш па гаспадарцы што прыдбаць.

Мы разгаварыліся.

— Ну, а як, дзядзька, у вас на вёсцы жывецца? — запытаў я.

— А як каму, каму добра, а каму і кепска — зямліца благая, — пачуўся адказ.

Ужо вечарэла, калі мы ўехалі ў стараверскую слабаду Косіцкую на адлегласьці васьмі кілёмэтраў ад Веткі ў паўночна-ўсходнім напрамку.

Двары ў слабадзе нагадваюць сабою двары расійскіх сялян. Дом фасадам на вуліцу, каля дома вароты з паветкай у двор, над варотамі пад стрэшкай васьміканцовы крыж, далей па вуліцы цягнецца паркан, які мяжуе з панадворнымі будовамі (клецьцю, паветкай, склепам, хле-

вам для быдла, птушак і інш.), што збудаваны навакол двара; па-за ім, воддаль—еўня, лазьня і іншыя будовы. Будынкі пераважна драўляныя, з саламянымі, шалёвачнымі або цясовымі стрэхамі.

На мясцох нядаўна згарэўшых драўляных цяпер збудаваны цагляныя дамы з саламянымі ці бляшанымі дахамі.



Від хаты з балотнай руды (Orsand). Вёска Тарасаўка, Веткаўскага раёну.

Фот. С. Жаліхоўцава.

У слабадзе 139 двароў выключна старавераў.

Праз поўгадзіны мы ўжо былі ў вёсцы Сівенцы ў чатырох кілёмэтрах ад слабады Косіцкай.

Шырокія крывыя вуліцы. Пляны двароў тут аднолькавыя з Косіцкімі, але самыя будынкі збудаваны значна горш. Двароў у вёсцы 247. Насельніцтва тут беларускае і прытым у большасьці бядняцкае. — „Зямліца-ж нягодная“, а наш беларускі селянін яшчэ ня ў сілах змагацца з прыродай.

Мы ўехалі ў двор майго фурмана.

— Вось, бачыце, якая мая гаспадарка, — сказаў ён адпрагаючы каня, — ну, заходзьдзе ў хату, абагрэемся, пад'ядзім, а тым часам конь адпачне ды я прыпрагу другога і паедзем.

Я увайшоў у хату. З правага боку ад дзьвярэй вялікая печка. Уверсе пад самай стольлю над камянком печы вісіць жэрдка, а на ёй сушацца анучы. Налева ў куце пад нізкай стольлю — паліца з гліняным начыньнем і гаршчкамі, пад ёю цэбар з памыямі, над якім прымацаваны гліняны рукамыйнік. У пярэднім куце вялікія абразы прыбраныя вышыванымі рушнікамі свайго вырабу. На міжваконьні абклееным газэтамі — гадзіньнік-ходзікі, фотаздымкі і малюнкі. Удоўж міжваконьня пастаўлена шырокая лава і невялічкі стол, а ўправа ад яго палаці; каля палацяй самапрадка. У хаце тры жанчыны — гаспадыня і дзьве нявесткі.

Я прывітаўся і сеў на лаву каля стала.

Мы папалуднавалі капусьнікам з салам і пшонным крупнікам, пададзенымі на стол у вялікіх гліняных місах.

— Ну, як, паедзем? —

— Паедзем!.. —

Калі мы выехалі — ужо зьмерклася.

Пара коняй павольна цягнула.

Маўчалі.

Цішыню толькі што надышоўшай ночы раптам прарэзала глухое далёкае выцьцё ваўкоў. Гэта паслужыла майму падарожніку асновай для цэлага шэрагу апавяданьняў.

— А вунь і аганькі — скончыў ён апошняе і пагнаў хутчэй коняй.

Замігацелі агні Марозаўскіх хат.

Праз нейкі час мы ўжо сядзелі ў хаце старшыні сельсавету.

Унутраны выгляд хаты аднолькавы з Сівянскім за выключэньем некаторых дробязяй.

У хаце было шматлюдна. На папсутай беларускай мове вяліся гутаркі на розныя бытавыя тэмы.

Калі ўсе разышліся, павячэраўшы крупнікам і смажанай бульбай з баранінай, гаспадары і мы ляглі спаць.

Раніцай я пачаў зьбірацца, каб ісьці на возера. Фурманшчык мой таксама падняўся.

— Чаму ня спалі, дзядзька Сямён?

— Хопіць. Коняй трэба даглядзець, ды я пайду з вамі, калі можна.

— Чаму-ж не, толькі зачым вам? Спалі-б...

— Як-жа, мне цікава з вамі, гэта-ж ня цяжка, я пайду, мо' памагчы што трэба будзе.

— Ну, хадзем.

Пайшлі.

Цяжка перадаць словамі прыгожасьць малюнка, што адчыніўся перад нашымі вачыма.

Асеньняя, сьвежая, ясная раніца.

Узгорыстая нізіна, па якой дзе-ня-дзе лес і хмызьняк.

З-за далёкай сьцяны хваёвага лесу выплыла багрыстая палова сонца, якая адбілася ва ўсёй сваёй велічы ў люстранай паверхні вялізарнага кругаватага возера. Над возерам раняшняя гульня стрэлак. Цэлай чарадой лёталі яны нізка каля вады вельмі моцна ляскаючы па ёй крыламі, што стварала рытмічны шум. Вялікая частка возера была скрозь пакрыта качкамі, а ўбаку, каля берагу, які зарос хмызьняком,

павабна плылі дзьве вялізарныя белыя птушкі. Я пайшоў у абход. Качкі бязшумна ныралі каля берагоў, выплываючы на сярэдзіне возера. Прайшоўшы з поўкілёмэтры, я навёў бінокаль на птушак, якія зьдзівілі мяне сваёй прысутнасьцю. Нельга было сумнявацца, што гэтыя птушкі—пералётныя лебедзі. Возера зьяўляецца зборным пунктам пералётных плывуноў. У час вясеньніх і васеньніх пералётаў яго наведваюць усе пералётныя птушкі, застаючыся на ім па некалькі дзён, на працягу якіх яны зьбіраюцца з сіламі перад далейшым падарожжам. Сэзоннымі-ж жыхарамі возера з плывуноў зьяўляюцца некалькі відаў качак, з якіх у пераважнай колькасьці ёсьць: буйная качка „Сібірка" або „Нырэц". Ня гледзячы на блізкасьць да возера некаторых сялянскіх пасёлкаў, і, дзякуючы дбайнасьці ўпаўнаважаных раённых колектываў паляўнічых, спакой жыцьця птушак не парушаецца; лоўля-ж рыбы, якая жыве ў возеры (карась, шчупак, вокунь, уюн, „Аўдотка", „Малька" і інш.), а таксама мыцьцё бялізны і мачэньне ільну адбываецца ў тэй частцы возера, на якой птушкі амаль ня жывуць.

Возера яшчэ цікавае з гідрографічнага боку—як вялічэзны вадазбор. Яго вадзяная прастора скадае трохі больш 120 гэктараў, замкнёная ў нізкія, дзе-ня-дзе тарпяныя, дзе-ня-дзе парослыя лясной расьліннасьцю, берагі. Нагляданьні ваколічных жыхароў гавораць, што яно штогод размывае бераг каля аднаго мэтру. Возера, з брудным глейкім каля берагоў дном, мае чыстую, прэсную, мяккую ваду, якая пакрываецца ў летні гарачы час сіняй цьвільлю. Найбольшая яго глыбіня дасягае 9 мэтраў. У паўночна-ўсходняй яго частцы, у 36 мэтрах ад берагу, б'юць дзьве моцных крыніцы, ствараючы віры. У час вясеньняга і васеньняга разводзьдзяў яно канавай злучаецца з рэчкай Ачэсай, якая высыхае і якая бярэ свой пачатак у рэчцы Іпуці. Завецца возера „Равучым" з тэй прычыны, што гадоў 10—12 таму назад на ім можна было чуць гул выкліканы, як можна дапусьціць, зьявамі „сэйшэй" (рытмічнае ваганьне паверхні вады); раней возера звалася „Сараем" [1]).

З Марозаўкі мы выехалі ў сяло Бараცьба, б. Раманава, населенае напалову расійцамі-стараверамі, напалову беларусамі. У сяле ёсьць староверская царква, якая налічвае больш як дзьвесьці год існаваньня. Драўляны будынак у стылі жылога дому з прызматычнай шасьцісьценнай надбудоўкай на страсе; на купалавіднай страсе надбудоўкі драўляны пазалочаны васьміканцовы крыж. Столь, падлога і сьцены зробленыя з колатага дрэва (дуб і хвоя), цяпер ужо падгніваюць. У даны момант сельсавет проектуе па зачыненьні царквы і грунтоўнага рамонту будынку царквы, зьмясьціць у ім хату-чытальню.

На тры вярсты ад сяла ў паўночным напрамку ў урочышчы Марш ёсьць дуб ва ўзросьце каля дзьвесьці год, і гэткі-ж паасобнік ёсьць яшчэ ў урочышчы Увальле за чатыры вярсты ад сяла ў паўночна-паўночна-ўсходнім напрамку. З сяла Бараცьбы мы выехалі ў былую слабаду Лявонцьева, цяпер сяло Калініна.

У сяле жывуць браты Бяспалікавы—стараверскія абразапісцы. Гэтым яны займаюцца самастойна і ўжо многа год. Пісаньню старавэрскіх абразоў браты вучыліся ў свайго памёршага бацькі, які вывучыўся пісаньню абразоў, у сваю чаргу, у стараверскага абразапісца—

[1]) Пад гэтым імем яго можна адшукаць на карце трохвёрсцы.

Тодара Рагаткіна, жыўшага некалі ў горадзе Ветцы. Цяпер у Ветцы пісаньнем абразоў займаецца яго сын.

Абразы пішуць паводле гэтак званых „орыгіналаў"—(кніга-альбом абрысавых рысункаў асоб сьвятых з падрабязным апісальным тэкстам на царкоўна-славянскай мове староверскага друку) на дошках ліставога дрэва. Дошкі кітуюцца вадой з сталярным клеем і крэйдай. На закітаваную дошку накладваецца коп'явальная папера, а на апошнюю аркуш з абрысным рысункам сьвятога. Далей, спэцыяльнай алоўкавіднай прыладай водзяць па абрысах. Затым, пераведзеныя на дошку праз коп'явальную паперу абрысы з орыгіналу наразаюць разцом, пасьля чаго будучы абраз расьпісваецца. Фарба ў сухім парашку распускаецца выключна ў жаўтках курыных яек. Пэнзьлі робяцца выключна з мужчынскага воласу, які ўстаўляецца ў гусінае пяро. Пры пісаньні абразоў ужываюць рэйсфэдар, цыркуль і розныя пёркі.

Браты абразапісцы прымаюць заказы, а таксама займаюцца „паднаўленьнем"—рэстаўрацыяй старых абразоў.

З сяла Калініна мы выехалі ў слабаду Тарасаўку.

Едзем па шырокай вуліцы. Той-жа малюнак, што і ў іншых староверскіх слабодках, толькі амаль ва ўсіх хатах падмурак зроблены з чорных падобных да каменьняў камлыг.

— З чаго гэта падмуркі зроблены? — пытаюся я свайго фурманшчыка.

— А... з руды, там далей дык цэлыя хаты з яе пабудаваны; тут недалёка ёсьць такая руда ў зямлі, дык яе калісь бралі ды вось і хаты, склепы будавалі. Яна вельмі моцная.

І праўда, хутка мы ўбачылі тры чорныя, збудаваныя з руды і пакрытыя саломай хаты. Тып — аднолькавы з вакольнымі будынкамі, розьніца толькі ў будаўнічым матар'яле. Вялікія камяні балотнае руды—„Orsand", якая лёгка паддаецца апрацоўцы, пры дапамозе сякеравідных секачоў і звычайнага зубіла перарабляюцца на брускі простакутнай формы; яны накладаюцца адзін на адзін і змацоўваюцца глінай, як цэглы пры кладцы пачак. Сьцены гэткіх будынкаў зьвязвалі камлыгі вугольнай формы. Унутры будынка ставіліся ў кутох слупы, на якія накладаўся вянец з дрэва; ён зьвязваўся ўпоперак балькамі і служыў асновай страхі. Вянец з унутранага боку падшываўся дошкамі, якія зьяўляліся стольлю. З унутранага боку сьцены пры дапамозе зубіл рабіліся шаршавымі, гарбатымі, што дазваляла іх тынкаваць. Будынкі з руды трывалыя, але патрабуюць у зімовы час падвойнага апалу, прычым зусім бясьпечны ў пажарных адносінах.

Рудой таксама абкладаюць драўляныя будынкі, захоўваючы тыя-ж, што і ў першым выпадку, нормы працы з ёю.

На сяле ёсьць чатыры хаты, зробленыя з руды, і шмат у каго склепы.

Руда сялянамі раней здабывалася на лузе (на поўкілёмэтра ад сяла), падглебай якога зьяўляліся яе наклады. Тоўшча пласта дасягала 0,7 мэтра, а плошча лугу мела каля двох гэктараў. Частка руды яшчэ захавалася, і цяпер, бязумоўна, забаронена яе выкарыстоўваньне, а дзякуючы дбайнасьці селяніна, сенакос якога знаходзіцца на гэтым лузе, выпадкаў крадзяжу ня бывае.

На чатыры кілёмэтры ад сяла раскінулася на абшары каля 96-і гэктараў Хуфінскае балота, абмежаванае з трох бакоў узгаркаватай мясцовасьцю, якая парасла лесам. Вада займае чацьвертую частку балота і мае выгляд як-бы возера. Тут-жа на дне ёсьць многа

карэньняў і рэштак апаленых ствалоў дрэў. Балота існуе ўжо больш як сто год. Заходняя частка яго і заходняя мясцовасьць, што прылягае да балота, зьяўляюцца як-бы натуральным заказьнікам, дзе ў вялікай колькасьці жывуць розныя гады, вужакі; тут таксама багата ўсялякай дзічыны. За апошнія гады былі выпадкі вялікіх пажараў на балоце.

З сяла Тарасаўкі я вярнуўся ў Ветку. Сход краязнаўчага таварыства не адбыўся, бо, па прыватных прычынах, не маглі сабрацца яго сябры.

Раніцай наступнага дня я вярнуўся ў Гомель.

---

К. С. Баеў.

# Да пытаньня аб крыніцах і літаратуры па гісторыі Гомеля і Гомельшчыны.

Наша мінулае цікавіць, вядома, кожнага краязнаўцу, а між тым ёсьць вельмі мала выданьняў, прысьвечаных спэцыяльна Гомелю і Гомельшчыне. Звычайна, гаворачы аб мінулым Гомеля, карыстаюцца тымі весткамі, якія надрукаваны ў вялікай працы А. Дэмбавецкага „Описание Могилевской губ.“, выданьне 1882 г.; яна ў сваю чаргу грунтуецца ў частцы гістарычнай на Бэз-Карніловіча „Ист. сведения о примечательных местностях в Белоруссии“ 1855 г. Весткі гэтых кніжак (некаторыя факты з летапісаў, гістарычных актаў, з Поўнага Збору Законаў) носяць выпадковы і адрывісты характар. Гэткі-ж характар носяць і спэцыяльна прысьвечаныя Гомелю выданьні: А. Вінаградаў, „Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142—1900 г.“, выд. 1910 г. і колектыўная праца аб Гомелі (Сербаў, Жудро і інш.), зьмешчаная ў „Записках С.-Зап. Отдела Р. Г. Об-ва“, 1911 г. кн. II (ёсьць і асобны адбітак). На працы Дэмбавецкага заснованы артыкулы і ў Энц. Слоўніку Брокгаўза (палутом 17), і ў мясцовых выданьнях: „Гомель і его уезд“, 1915 г. і „Весь Гомель на 1922 г.“, выд. Гомдруку. Шэраг вестак даюць IX т. выд. Дэврыена „Россия“ (рэд. Сямёнава)—„Верхнее Поднепровье и Белоруссия“, 1905 г. і артыкулы ў „Живописной России“ выд. Вольфа. Кароткія весткі аб Гомелі з паказаньнем на літаратуру ёсьць і ў „Географ.-Стат. Словаре“ Сямёнава, 1863 г. і ў „Еврейской Энциклопедии“. Літаратура, якая тычыцца Гомеля, паказана і ў спэцыяльным бібліографічным выданьні „Полесье. Библиографические материалы по истории и пр.“ 1883 г. (паказаны выданьні з 1855 па 1880 г.).

Археолёгіі Гомельшчыны прысьвечан „Очерк Гом. уезда в археолог. отношении“, Е. Р. Раманава (кн. I „Записок С.-Зап. Отдела Р. Г. Об-ва“, 1911 г.; ёсьць і асобны адбітак).

Для тэй часткі Гомельшчыны, якая ўваходзіла раней у Менскую губ. ёсьць выданьні: „Описание Минской губ.“ Стрэнга 1848 г.; „Описание Минской губ.“ Зяленскага, 1864 г. (выданьні Гал. Упр. Гэнэр. Штабу); „Истор.-стат. описание Минской губ.“, выд. Менск. Стат. Ком., 1870 г.; „Истор. стат. описания Минской епархии“ выд. 1864 г.; С. Смародзкі, „Столетие Минской губ.“ 1893 г.; С. Рункевіч, „История Минской архиепископии“, 1893 г. і інш.

Амаль нявыкарыстанымі крыніцамі гісторыі Гомеля і Гомельшчыны ў першую чаргу зьяўляюцца гістарычныя акты, выдадзеныя Віленскай і Віцебскай археографічнымі камісіямі. Праўда, і там вестак аб Гомелі мала—у мінулым Гомель ня быў значным цэнтрам, гандлёвым ці політычным.

Для 18 і 19 стагодзьдзяў маюць вялікае значэньне і Поўны Збор Законаў і наогул офіцыйныя выданьні, як цэнтральныя, гэтак і мясцовыя, напр. справаздачы міністэрстваў, артыкулы ў урадавых часапісах (напр. „Журнал Мин. Гос. Имущ.“, „Журн. Мин. Нар. Просв.“, „Горный Журнал“, „Военный Журнал“ і інш.); гэткія выданьні, як „Статист, изображение городов и посадов Рос. Импер. на 1825 г.“, „Обозрение состояния городов в 1833 г.“, „Таблицы о состоянии городов в 1842 г.“, „Общественное хозяйство и устройство городов“, 1858 г., „Экономическое состояние городов“, 1863 г„ „Городские поселения“, ч. III, 1863 г.; выданьні Ц. Стат. Ком., напр. „Статистика поземельной собственности Белоруссии“, 1882 г.; выданьні, якія тычацца рэформы 60-х гадоў (напр. „Материалы редакц. Комиссий“); справаздачы губэрнатараў і розных урадавых, грамадзкіх і прыватных устаноў, напр. выданьні земства (протоколы, даклады, справаздачы, каштарысы і інш.), справаздачы навучальных і дабрачынных устаноў, цыркуляры Віл. вуч. акругі, памятныя губэрскія кніжкі, памятныя кніжкі дырэк. нар. вучылішч; губэрскія эпархіяльныя ведамасьці. У апошніх выданьнях ёсьць паасобныя артыкулы, прысьвечаныя мінуламу Гомеля.

Для гэткай эпохі, як 1812 г., у шэрагу іншых выданьняў (не выключаючы і спэцыяльна вайсковых) павінны быць весткі ў апублікаваных да стагодзьдзя 12-га году архіўных матар'ялаў (напр. „Акты“ сабраныя К. Военскім).

Можна ўспомніць яшчэ аб такіх выданьнях, як напісаныя на падставе архіўных матар'ялаў, гісторыі вайсковых частак, якія стаялі ў Гомелі (напр. гісторыі палкоў 5-й дывізіі, якія адбывалі ў 30—40 гады лягерны збор у Гомелі).

Матар'ялы для мінулага Гомеля ёсьць і ў польскай літаратуры, напр. Balinski. Starożytna Polska, W. 1846 г; Polujanski, Opisanie lasów, W. 1855 г; Łukaszewicz, Historya szkół. Пазнань 1849—1852 г.; артыкулы ў польскіх энцыкл. слоўніках і інш.

Апроч таго, абавязкова павінны быць выкарыстаны і ўсе выданьні, напісаныя на падставе першакрыніц, і якія тычацца дзеячоў з якойнебудзь прычыны меўшых дачыненьні да Гомеля, напр. выданьні, прысьвечаныя Кацярыне II (прабываньне яе ў межах Гомельшчыны ў 1787 г.), Румянцаву, Паскевічу (уласьніку Гомеля), Сестранцэвічу (плябану ў Гомелі 1763—1773), Мураўёву-Віленскаму (Магілеўскі губэрнатар у 30-х гадох) і г. д.

Тыя ці іншыя весткі, якія захаваліся ў крыніцах аб Гомелі, выкарыстаны, вядома, і ў агульных гістарычных працах і ў асобных монографіях у тэй меры і ў тых выпадках, калі гэтага вымагалі тэмы і задачы, якія стаялі перад аўтарамі гэтых прац. Ёсьць весткі аб Гомелі і ў Карамзіна, Салаўёва, Бястужава-Руміна, Кастамарава, Ражкова і інш. Аўтараў асобных монографій няма патрэбы пералічаць—галоўнейшая літаратура па гісторыі Беларусі паказана ў артыкулах „Белоруссия“, „Белоруссы“, т. V „Б. С. Э“.

Знаёмства з агульнымі працамі па гісторыі Беларусі тым больш неабходна, што бяз веданьня гісторыі цэлага—Беларусі—нельга зразумець мінулае аднэй з частак гэтага цэлага—Гомеля і Гомельшчыны.

II.

У краязнаўчай працы нельга абыйсьціся бяз кніг, і ня толькі бяз тых, якія даюць розныя мэтодычныя і організацыйныя паказаньні і асьвятляюць краязнаўчую працу, якая праводзіцца цяпер, але і бяз тых, якія заключаюць у сабе вынікі папярэдніх прац і досьледаў і ў якіх ёсьць той ці іншы матар'ял адносна вывучаемага краю. Не без падстаў складаньне бібліографічных паказьнікаў, азнаямленьне з тым, што было ўжо надрукавана аб краі, зьяўляецца першай працай краязнаўцы.

І вось у гэтых адносінах, у справе кніжок, у Гомельскай акрузе ня ўсё добра. Справа ня ў тым, што няма кніжок, а ў тым, што кнігі знаходзяцца ў такім стане, гэтак захоўваюцца, што ня толькі цяжка іх выкарыстаць, але зьяўляецца нават непакой, ці ня зьнішчацца яны з часам.

Гомель ніколі ня быў ні навуковым, ні асьветным цэнтрам; у дарэволюцыйны час гэта быў пераважна горад гандлёвы, горад камісыянэраў, банкаў і гасьцініц; асабліва навуковай працы ў Гомелі не вялося, але ўсё-ж такі былі і пэдагогічнае і мэдыцынскае таварыствы, і дзяржаўныя навучальныя ўстановы з досыць багатымі фундамэнтальнымі бібліотэкамі, былі і бібліотэкі таварыства распаўсюджаньня ведаў сярод яўрэяў і польская бібліотэка пры рымска-каталіцкім таварыстве. Набывалі кніжкі, і часта каштоўныя, і прыватныя асобы, не гаворачы ўжо аб такой буйнай бібліотэцы, як бібліотэка был. ўласьніка Гомелю Паскевіча.

За час свайго існаваньня ўсе гэтыя бібліотэкі сабралі многа кніжак каштоўных для краязнаўцаў, а між тым лёс іх даволі сумны.

Кніжкі з фундамэнтальных бібліотэк дзяржаўных мужчынскіх гімназій і духоўнага вучылішча былі перададзены, галоўным чынам, у Гомельскую Цэнтральную бібліотэку імя Гэрцэна (якая ўзьнікла з бібліотэкі таварыства распаўсюджаньня ведаў сярод яўрэяў), а частка іх у іншыя нанова створаныя бібліотэкі (у доме Працасьветы, пэдагогічным музэі, саюзе савгандльслужачых ім Чарнышэўскага і інш.). У бібліотэцы Гэрцэна кнігі гэтыя, аднак, не засталіся. Калі гады тры таму назад сярод працаўнікоў Архіўнага бюро зьявілася мажліва і правільная думка аб утварэньні пры акруговым (тады яшчэ губэрскім) архіве асобнай гістарычнай бібліотэкі, дык бібліотэка Герцэна ахвотна перадала ў Бюро амаль увесь свой кніжны архіў. У бюро-ж былі перададзены кнігі з чыгуначнага тэхнікуму (был. чыгуначнае вучыл.), з паштовай канторы, мажліва і з іншых бібліотэк і ўстаноў. Перадача кніжак, напрыклад з бібліотэкі Герцэна, адбывалася бяз усякіх сьпісаў; у выніку здарылася тое, што першыя тамы некаторых выданьняў засталіся ў бібліотэцы Герцэна, а наступныя аказаліся ўжо ў Архіўбюро.

Упарадкаваць атрыманыя кніжкі архіў, ня меў ні магчымасьцяй, ні сродкаў, асабліва пасьля таго, як штат Архіўбюро быў скарочаны; ня мае архіў і асобнага памяшканьня для гэтых кніжак. Частка іх больш ці менш разьмяркована адносна ў парадку, большая-ж частка складзена на гары архіву; гары, якая, між іншым, працякае (усяго ў архіве лічаць 10—12 тысяч кніжак).

Трэба ўсё-ж адзначыць, што працаўнікі архіву прымаюць усе меры да лепшага захаваньня кніжных каштоўнасьцяй, і ва ўсякім разе з іх боку вялікая заслуга, што гэтыя кнігі яшчэ захаваны. Тое-ж трэба сказаць і аб бібліотэчных працаўнікох іншых бібліотэк, якія захоў-

ваюць так ці іначай свае кніжныя архівы, хаця, вядома, бібліотэкі пры абмежаваным ліку сваіх супрацоўнікаў ня могуць аддаваць шмат часу і ўвагі гэтым архівам. Але калі кнігі такім чынам пакуль што ўсё-ж захоўваюцца, дык ім гразіць небясьпека з другога боку. Для бібліотэк шырокага карыстаньня многія кніжкі зьяўляюцца непатрэбнымі, і не без падставы адна з гомельскіх бібліотэк клапоціцца аб абмене часткі кніжок праз кніжную палату на сучасныя выданьні. Апроч таго, на некаторыя выданьні і нават цэлыя бібліотэкі прэтэндуюць цэнтральныя ўстановы. Гэта б. бібліотэка Паскевіча, а між тым кнігі гэтай бібліотэкі, набытыя ўласьнікам на прыбытткі, атрыманыя з гомельскіх сялян і захаваныя ў рэволюцыю гомельскімі рабочымі, бязумоўна павінны застацца ў Гомелі.

Якія-ж каштоўнасьці знаходзяцца ў гэтых кніжных архівах? Досыць сказаць, што ў кніжным, так званым, складзе Архіўбюро, ужо пры павярхоўным аглядзе можна знайсьці „Yolomina Legum", „Акты Виленской археографической комиссии", „Акты Зап. России", „Акты Южн. и Зап. России", „Сборник русск. истор. об-ва" (амаль поўны комплект); досьледы Лербэрта, „Географ. Словарь. 1789 г.", „Вестник Зап. России", Гаворскага, „Сборник документов о лат.-пол. пропаганде, зборнік Шалковіча, слоўнікі Плюшара, Толя, Бярэзіна Старчэўскага; „Известия географ. об-ва"; амаль поўныя комплекты, ад заснаваньня, „Журнала Мин. Нар. Просв.", „Русской Старины", „Исторического Вестника", „Русского Вестника"; „Библиотека для чтения" за 40-я гады; „Отечественные записки" 40—60 гадоў; „Современник" 50-х гадоў: „Адреса-календари" 30—40-х гадоў; „Памятныя книжки" Менскай і Магілеўскай губэрній; падручнікі 30—40-х г. г.; некаторыя выданьні XVIII ст. (напр. „Др. Рос. Вивлиофика") і інш.

У бібліотэцы Герцэна, апроч выданьняў Віленскай археографічнай камісіі і лепшых выданьняў старых гісторыкаў (Карамзін у выд. Эйнэрлінта, Кастамараў у выд. Кажаншкова), ёсьць „Собрание Гос. грамот", „Софийский Временник", „Сборник" Муханава, „Архив белорус. древних грамот"; і г. д.; таксама працы Антановіча, Дашкевіча, Зубрыцкага („История Галицкого княжества", 1852 г.), Максімовіча, Куліша, Каяловіча, Ефіменка, Крапотава („Жизнь Муравьева"), „Библиографический указатель по Полесью" 1883 г. і г. д.

У бібліотэцы Дому Працасьветы — „Сборник постановлений по Мин. Нар. Просв."; амаль поўны комплект цыркуляраў па Віл. вуч. акрузе, „Памятные книжки Вил. уч. округа"; мясцовыя выданьні, якія тычацца гомельскіх навучальных устаноў, напр. Максімаў, „Истор. очерк Гом. муж. гимназии", Шалонін, „Ист. очерк Гом. мел. жен. гимн."; затым наогул некаторыя гомельскія выданьні, напр. Лакачэўскі „Грамотность", 1891 г.; Эльяшоў, „Уголовное законодательство", і шэраг выданьняў, якія маюць адносіны да Гомельшчыны.

У бібліотэцы Пэдмузэю — Раманаў, „Археолог. очерк Гом. уезда"; некаторыя працы Смородзкага па Меншчыне; „Атлас уч. заведений Петерб. уч. окр." 1862 г. (у гэты час Магілеўская і Менская губ. уваходзілі ў склад Пецяр. акругі). Атлас гэты, між іншым, перададзен цяпер у бібліотэку краязнаўчага таварыства.

У бібліотэцы савгандальслужачых ім. Герцэна — некаторыя тамы „Полн. Собр. Летоп."; „Памятники древней письменности" (стараверскі сінодзік і справа Твэрыцінава); „Акты, относящиеся к России" Абаленскага; запісы Гербэрштэйна, Фокеродта; Лілееў, „Раскол в Стародубье и на Ветке" і інш.; мясцовыя выданьні, напр. справаздача

гомельскага губэрскага земства за першае трохгодзьдзе (1911—1914), справаздачы мясцовых навучальных устаноў і г. д.

Што тычыцца б. бібліотэкі Паскевіча, дык цяжка, вядома, пералічыць усе тыя каштоўныя выданьні, якія там ёсьць; тут ёсьць і рукапісныя весткі па Магілеўскай губ. 1835 г. (даныя Казённай палаты), „Хроника Могилева“ Грубніцкага, справаздачы міністэрстваў 30—50-х гадоў, часапісы і пэрыодычныя выданьні тых-жа гадоў („Мин. Гос. Имущ.“, „Мин. внутр. дел.“, „Лесной журнал“, „Труды Вольн. Экон. Об-ва“, „Отечеств. Записки“ і інш.), адрас-календары, старыя падручнікі географіі і статыстыкі, шэраг выданьняў актаў („Акты истор.“, „Акты юридич.“, „Собарние госуд. грамот и договоров“, „Акты и грамоты о католич. церкви“, „Памятники дипломат. сношений“, „Сборник Московск. гл. архива“ і інш.); архіў Варанцова, архіў Куракіна; выданьні прысьвечаныя 1812 г. (мэмуары, запіскі і інш.), шмат географічных карт і інш.

Выданьні, якія заслугоўваюць увагі, бязумоўна ёсьць і ў іншых бібліотэках і ўстановах Гомеля, напр. у АкрЗА, у бібліотэцы чыгуначнага клюбу (б. чыгуначная бібліотэка) і г. д.

Могуць быць кнігі і ў раённых бібліотэках акругі. Ёсьць, напрыклад, весткі аб цікавых выданьнях у Лоеўскай бібліотэцы; у Рэчыцкую бібліотэку ў свой час паступілі кнігі з бібліотэкі Нараўлянскага маёнтку Э. Горвата (частка іх, праўда, адаслана ў Дзярж. Бібліотэку); магчыма, што яшчэ ўдасца адшукаць кнігі з бібліотэкі Чарнышова ў Чачэрску.

Вядома, падбор кніжак у бібліотэках, як відаць з пералічэньня, выпадковы, але ва ўсякім разе ў большай частцы гэтых выданьняў ёсьць надзвычайна многа каштоўнага, чым можа пакарыстацца краязнаўца. Але ў даным іх становішчы гэтымі выданьнямі амаль нельга карыстацца. На атрыманьне і адшуканьне іх трэба губляць шмат часу. Даволі сказаць, што напр. справаздачы навучальных устаноў Гомелю трэба шукаць і ў бібліотэцы савгандльслужачых, і ў доме працасьветы, і ў цэнтральнай бібліотэцы, і, нарэшце, нават у Пэдмузэі. Калі хто захоча пазнаёміцца з працамі спэцыяльна прысьвечанымі Гомеля, дык за Дэмбавецкім прыдзецца ісьці ў краязнаўчае т-ва, археолёгічны нарыс Раманава шукаць у Пэдмузэі, „Россию“ Сямёнава ў цэнтральнай бібліотэцы, а спэцыяльны нарыс аб Гомелі Сербава магчыма атрымаць толькі ў б. бібліотэцы Паскевіча. І пры гэтым няма ніякіх гарантый, што ў хуткім часе ўсіх гэтых кніжок зусім не акажацца ў Гомельскіх кнігасховах.

Такі парадак, вядома, ня можа быць цярпімы. Гомельскія краязнаўцы павінны быць забясьпечаны кнігамі. Адчыненьне або спэцыяльнай гістарычнай бібліотэкі, або аддзяленьня Дзярж. Бібліотэкі зьяўляецца неабходнай для Гомеля патрэбай. Гэта, вядома, не павінна быць аддзяленьне цэнтральнай бібліотэкі, якая мае зусім іншыя мэты ні, тым менш, склад Архіўбюро; хутчэй усяго мажліва арганізаваць такую бібліотэку пры дзяржаўным музэі; ва ўсякім разе б. бібліотэка Паскевіча, за выключэньнем белетрыстыкі, павінна быць уключана ў гэтую новую бібліотэку. У новай бібліотэцы павінен быць і краязнаўчы аддзел, які-б не выключаў і тых агульных гістарычных прац, у якіх ёсьць весткі аб Гомельшчыне; павінен быць і спэцыяльны аддзел выданьняў, вышаўшых у Гомелі, не выключаючы ні дробных брошурак, ні справаздач устаноў і прадпрыемстваў—гэтыя выданьні пакуль што яшчэ магчыма сабраць. Павінны быць і ўсе пазьнейшыя выданьні.

Даволі сказаць, што ў Гомельскіх бібліотэках няма цяпер поўнага комплекту выданьняў Інбелкультуі БДУ.

Організацыя бібліотэкі патрабуе і сродкаў і памяшканьня. І тое і другое павінны быць знойдзены.

Праўда, Гомель і зараз небагаты працаўнікамі, якія маглі-б цалкам аддацца вывучэньню мінулага Гомельшчыны, або хаця-б укладаньню бібліографічнага паказьніка; у нашых умовах такая праца да некаторай ступені мажліва зьяўляецца і раскошай, але бібліотэка павінна быць з'організавана хаця-б для будучых часоў.

Нельга дапускаць зьнішчэньня кніжок; досыць ужо таго, што намі ўжо загублены некаторыя архівы. Бязумоўна, усе кнігі, якія маюць тую ці іншую каштоўнасьць, як тыя, што зараз знаходзяцца ў Гомелі, гэтак і тыя, якія яшчэ можна адшукаць у акрузе, павінны быць захаваны і пакінуты ў Гомелі. І з гэтай працай трэба сьпяшацца, гэта неадкладная задача. Выкананьня яе вымагаюць зараз і інтарэсы навукі і інтарэсы рабочых і сялян, якія павінны ведаць гісторыю свайго краю.

---

У. Уладзіміраў.

# Рачны рак—Actacus leptadactylus.

Як вядома, рачны рак у 80-х гадох мінулага стагодзьдзя ў Заходняй Эўропе, а ў 90-х гадох—у нас пачаў хутка прападаць ад так званай ракавай чумы. Да гэтых гадоў мясцовыя жыхары помняць, калі лавілі рачных ракаў кошыкамі, саламянымі капялюшамі, а то і проста шапкамі. З чаго сталі гінуць ракі, жыхар ня ведаў.

Праўда, рачны рак у нас ня меў шырокага прамысловага значэньня і зьяўляўся некаторою прысмакаю часткова ў мэню самога селяніна, а часткова ў продажы ў буфэтах на станцыях чыгунак. Але ва ўсесаюзным маштабе ракі вывозіліся ў значным ліку за граніцу і асабліва ўва Францыю.

Адным з месц, дзе вадзіліся ракі на тэрыторыі Бырысаўскага раёну, зьяўляецца рэчка Мужанка, якая пачынаецца каля вёскі Раннoе і ўліваецца ў Бярэзіну супроць вёскі Глівін.

У гады, калі ракавая чума дакацілася і да Мужанскіх ракаў, яны пачалі хутка пакідаць свае норы. Мясцовыя жыхары расказваюць, што быццам ракаў нешта так падварушыла, што яны ўцякалі кудысьці нават па сухіх берагох. Некалькі гадоў аб рачным раку і гутарка ня йшла, бо, як ужо палміналася, прамысловага значэньня ён ня меў у жыцьці мясцовага насельніцтва, а таму і гібель яго ня прымусіла аб гэтым гаварыць.

У 1926-27-28 годзе ў рэчцы Мужанцы пачынаюць зьяўляцца, у досыць значным ліку, мінулыя ўцекачы, рачныя ракі. Пунктамі, дзе абаседліліся ракі, зьяўляюцца млын каля вёскі Меча і вучасткі рэчкі каля вёсак Завал і Дубровы.

Берагі рэчкі ў названых мясцох рывістыя, глеяватыя. з мноствам нор, на дне шмат карчоў, паленьня.

Паводле назіраньняў мясцовых жыхароў, ракі сюды зьявіліся з крыніц на невялікіх утоках Мужанкі, дзе яны захаваліся часткова ад чумы.

Мясцовае насельніцтва пачынае лавіць ракаў. Наш селянін зрабіўся цяпер практычным чалавекам і ня любіць абмінаць тое, за што можна ўзяць грошы. Вакольныя жыхары пачынаюць трохі „гандляваць“ ракамі. Асобныя аматары сачкамі на паджараную жабу за пару начэй вылоўлівалі ўлетку 1927, 28 гадоў ад 1 да 1½ пудоў ракаў.

Цяжка забараніць лоўлю ракаў у рэчцы Мужанцы, але пажадана было-б даць магчымасьць размножыцца ім.

---

# ХРОНІКА.

## Справаздача Цэнтр. Бюро Краязнаўства аб становішчы краязнаўчай справы ў БССР на 1-І 1929 г.

На працягу апошніх двох год Ц. Б. Краязнаўства ў сваёй дзейнасьці кіравалася пастановамі II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, які організацыйна аформіў краязнаўчы рух у БССР і вызначыў шляхі яго далейшага росту, гэтак і статутам Ц.Б.К. у кірунку гэтых пастаноў і адбывалася разьвіцьцё краязнаўчай справы за гэты час. Галоўная ўвага ЦБ Краязнаўства была зьвернута: на ўмацаваньне існуючых краязнаўчых організацый, асабліва раённых, на стварэньне навокал пытаньняў краязнаўства належнай грамадзкай думкі і на паглыбленьне зьместу правадзімай краязнаўчымі організацыямі працы.

У гэтых мэтах пытаньне аб месцы і значэньні краязнаўства ў сыстэме нашага сав. будаўніцтва ставілася ня раз перад адпаведнымі органамі: партыйнымі, савецкімі і профэсыянальнымі, і апошнімі месцам даваліся адпаведныя дырэктывы. Шмат было зроблена ЦБК у справе організацыйнага накіраваньня краязнаўчай справы ў БССР: увесь час вызначаліся ў часопісу „Наш Край“ тыя пытаньні, на якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага мясцовых краязнаўчых організацый. Рэгулярна ў плянавым парадку адбываліся пасяджэньні прэзыдыуму ЦБК, на якіх разглядаліся пытаньні організацыйнага характару, мэтодычнага, працы мясцовых краязнаўчых організацый, выдавецкай справы, увязкі з установамі навукова-дасьледчага характару і іншыя.

Сучасны стан краязнаўства і далейшы яго рост вымагаюць падрыхтаванага краязнаўцы. ЦБК было пастаўлена пытаньне перад НКА аб увядзеньні курсу краязнаўства ў тэхнікумах, якое і было вырашана ў станоўчым сэнсе. Апрача гэтага былі організаваны і праведзены курсы краязнаўства разам з т-вам кр-ва БДУ, на якіх прачытаны цыкль лекцый організацыйна-мэтодычнага характару і курсы-конфэрэнцыя па краязнаўству пры ЦБК.

Галоўным дасягненьнем у працы ЦБК за апошні час у галіне організацыйнай, апрача пытаньняў, аб якіх ужо пісалася (гл. час. „Наш край“ № 5 за 1928 ст. 56) зьяўляецца тое, што ЦБК дабілася ўрэшце кантактаваньня ў працы экспэдыцый навукова-дасьледчых устаноў цэнтру з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі. Амаль усе экспэдыцыі БАН, якія адбываліся ўлетку 1928 г., рабілі гэтую ўвязку і засталіся вельмі задаволены вынікамі ўвязкі. Як недахоп трэба адзначыць тое, што экспэдыцыі не заўсёды заставалі ў організацыі членаў праўленьня т-ва краязнаўства.

У галіне популярызацыйнай і навукова-мэтодычнай апрача праробленай ЦБК працы, аб якой пісалася раней (гл. час. Наш Край № 5 за 1928) зроблена: праводзілася праца па выкладаньні краязнаўства на наўстаніцкіх курсах улетку 1928, закончана і выпушчана мэтодычна-краязнаўчае апісаньне „Асіпавіцкі раён“ II ч., якое, разам з апісаньнем Горацкага раёну зьявіцца добрым мэтодычным дапаможнікам мясцовым краязнаўчым організацыям у справе вывучэньня сваёй мясцовасьці; наладжана і праведзена ўлетку 1928 г. першая краязнаўчая экспэдыцыя комплекснага характару ў Дубровенскі раён. Экспэдыцыя складалася ў большасьці з працаўнікоў-краязнаўцаў і мела мэтай, апрача вынікаў досьледаў, практычнае азнаямленьне ўдзельнікаў экспэдыцый краязнаўцаў з мэтодамі і спосабамі вядзеньня дасьледчай працы. У апошні час наладжаны і праведзены ЦБК курсы краязнаўства, на якіх прапрацавана 16 мэтодычна-практычных дакладаў па пытаньнях вывучэньня мясцовага краю. На курсах удзельнічала 45 краязнаўцаў, з якіх ад раённых організацый 29 асоб, акруговых і т-ва БДУ — 13 і ад Саюзных Рэспублік — РСФСР і Украіны — 3.

Амаль кожны год рабілася па два разы абсьледваньне і інструктаваньне акруговых таварystваў краязнаўства, а раённых організацый абсьледвана ў 1927 г. — 30, а ў 1928 г. — 35, што складае 65% раённых організацый. У будучым намячаецца павялі-

чыць лік інструктуемых організацый у год; бярэцца напрамак, каб мінімум на працягу двох год абсьледвана была ці абслужана кожная раённая краязнаўчая організацыя; у часе абсьледваньня зроблена мэтодычных дакладаў па краязнаўству — 34 і інформацыйна-інструкцыйных 60.

У справе школьнага краязнаўства і краязнаўства сярод нацменшасьцяй за апошні пэрыод пасьля папярэдняй справаздачы амаль нічога не палепшылася.

У галіне выдавецкай справы за два гады надрукована 20 нумароў часопісу „Наш Край“ памерам 120 аркушаў, Працы II Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду, 7 ар., краязнаўчае апісаньне. Асіпавіцкі раён I і II часткі 16 арк., — усяго памерам 143 ар. Часопіс „Наш Край“ запраўды стаў неабходным кіраўнічым органам краязнаўчай сеткі. За ўвесь час у ім была зьмешчана:

| | |
|---|---|
| а) артыкулаў агульна-кіраўнічага характару | 49 |
| б) навуковага | 45 |
| в) інструкцыйна-мэтодычнага | 50 |
| г) матар'ялаў з месц | 68 |
| д) заметак хронікі | 144 |

Рэдакцыйная калегія часопісу ўвесь час памятавала пастановы II Краязнаўчага Зьезду аб павялічэньні месца ў часопісу для матар'ялаў з месц і ў кожным нумары яго $^1/_3$ частку адводзіла для гэтай мэты. Таксама наладзілася рэгулярнасьць выпуску часопісу. Расьце лік супрацоўнікаў часопісу: на працягу толькі аднаго 1928 году друкаваліся працы новых 35 краязнаўцаў; дасылка матар'ялаў у часопіс значна ўзрасла ў параўнаньні з мінулым: зараз заўсёды ў рэдакцыі ёсьць матар'ялу на тры нумары наперад. Часопіс набыў аўторытэт сярод краязнаўцаў і стаў неабходнаю кнігаю ў жыцьці краязнаўцы. Справа з апрацоўкай матар'ялаў наладжана больш-менш. Недахопам у гэтым пытаньні зьяўляецца тое, што да гэтага часу не практыкуецца друкаваньне лепшых прац мясцовых краязнаўцаў у выданьнях тых ці іншых установ БАН. Да гэтага часу ўстановы абмяжоўваліся па гэтым пытаньні толькі добрымі пажаданьнямі і пастановамі. А між тым практыкаваньне гэтага спосабу магло-б значна пасунуць навукова-дасьледчую працу мясцовых краязнаўцаў наперад.

Заснаваная ў папярэднія гады праз часопіс „Наш Край“ сувязь з рознымі навукова-дасьледчымі і краязнаўчымі ўстановамі Саюзу падтрымлівалася бязупынна: усяго дасылалася ў абмен 66 экзэмпляраў часопісу. У апошнія два гады ўстанавілася і жывая сувязь з краязнаўцамі РСФСР і УССР. Абмен вопытам з краязнаўцамі іншых краін значна дапамог росту краязнаўчай справы.

——

# Краязнаўства ў вышэйшых школах і тэхнікумах у 1928/29 акад. годзе.

### Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. (Менск).

Аб патрэбе выкладаньня мэтодыкі краязнаўства на факультэтах унівэрсытэту было шмат пастаноў Народнага Камісарыяту Асьветы і Праўленьня Унівэрсытэту. Студэнты Унівэрсытэту, як і іншых навучальных установ Менску, вельмі цікавяцца мэтодыкай краязнаўства, веданьне якой будзе ім так патрэбна ў будучыні. Гэта даводзіцца тым, што ў дабрахвотным парадку нядзельныя курсы краязнаўства, наладжаныя Таварыствам краязнаўства БДзУ і ЦБК, наведвала звыш 200 студэнтаў. Шмат якія пастановы сьцьвердзілі непадрыхтаванасьць скончыўшых БДзУ і пэдтэхнікумы да навучаньня дзяцей на аснове краязнаўства, чаго вымагае програма школы.

Усё гэта прычынілася таму, што вясной, за тыдні тры перад заліковай сэсіяй, вырашана было прачытаць для студэнтаў усіх аддзяленьняў цыкль лекцый па мэтодыцы краязнаўства. Але лекцыі былі прызначаны на нядзелі, абслугоўваючы тэхпэрсональ і аўдыторыі былі не падрыхтаваны, і г. д., так што, хоць лектар і студэнты прыходзілі, гэты цыкль лекцый не адбыўся.

Рэктар БДзУ, заслужаны профэсар У. І. Пічэта, паведаміў нас, што мэтодыка краязнаўства з восені 1929 году будзе выкладацца ў БДзУ, як раўнапраўны з іншымі прадметамі.

Я. Машкевіч.

### Магілеўскі Зямляўпарадчы Тэхнікум.

Мэтодыка краязнаўства ў Магілеўскім Зямляўпарадчым Тэхнікуме не выкладалася. Трэба, каб Цэнтральнае Бюро Краязнаўства дамаглося ад Народнага Камісарыяту Асьветы паўторнага загаду Тэхнікуму аб уключэньні ў навучальны плян яго мэтодыкі краязнаўства з пачатку 1929/30 акад. году. Адначасна трэба паклапаціцца ўлажэньнем програмы мэтодыкі краязнаўства адпаведна задачам і характару працы гэтага Тэхнікуму.

М. Ламака.

### Менскі Дзяржаўны Політэхнікум.

Мэтодыка краязнаўства ў Політэхнікуме пачала выкладацца з 9 сакавіка 1929 году, і то дзякуючы захадам дырэктара яго, т. Станкевіча. Выкладалася краязнаўства на другім курсе Політэхнікуму дзьве гадзіны ў тыдзень, прычым гідротэхнічнае аддзяленьне слухала асобна, а архітэктурнае і дарожнае аддзяленьні злучаліся разам. Усяго працавалі 20 акад. гадзін на гідротэхнічным аддзяленьні і 18 акад. гадзін на іншых двох; па дзьве гадзіны супроць пляну не адбылося. Выкладаньне вялося лекцыйным спосабам.

Толькі па дзьве гадзіны працавалі аддзяленьні самастойна і практычна. Наведваемасьць лекцый была 75—80%. Праверка ведаў рабілася на лекцыях і спэцыяльных гутарках у нелекцыйны час. Тое, што выкладалася, усвоілі 83 чал. з 85. У аснову выкладаньня была паложана програма апублікаваная ў № 6-7 „Нашага Краю“ за 1928 г., але з значнымі зьменамі адпаведна задачам Політэхнікуму. Як студэнты, так і выкладчык карысталіся ў працы комплектам „Нашага Краю“ (1925—1929 г.г.), „Краязнаўствам“ М. Касьпяровіча, „Краязнаўствам“—вып. I і часткамі рукапісу падручніку па краязнаўству для тэхнікумаў і вышэйшых школ. Вялікімі хібамі працы трэба лічыць тое, што, з прычыны познага пачатку працы, прадмет ня мог быць узгоднены з іншымі прадметамі курсу, не скарыстоўваліся ляборатoрыі Політэхнікуму, праца вялася лекцыйным спосабам, ня было сталай програмы і г. д.

У наступным годзе трэба працу весьці выключна сэмінарскім, лябораторным і экскурсыйным мэтодамі, цесна зьвязаць яе з прапрацоўкай іншых прадметаў, мець сталую програму і падручнік. Програма выпрацавана наступная:

*А. Агульная мэтодыка.* Сутнасьць краязнаўства і яго розныя разуменьні. Значэньне мэтодыкі краязнаўства для працы тэхнікумаў (гідро, архітэктараў, дарожнікаў, тарпянікаў). Краязнаўства і марксызм. Марксыцкая мэтодолёгія і дынамічны прынцып у краязнаўстве. Об‘екты краязнаўчага дасьледваньня. Процэс краязнаўчай працы. Нагляданьні. Зьбіраньне матар‘ялаў. Колекцыянаваньне. Фіксацыя краязнаўчых матар‘ялаў. Запісваньне. Фотографаваньне. Зарысоўваньне. Апрацоўка краязнаўчых матар‘ялаў. Графікі. Дыяграмы. Картограмы. Організацыя краязнаўчых дасьледваньняў. Стацыянарны і экспэдыцыйны мэтод. Анкетны мэтод. Статыстыка і краязнаўства. Тыпы дасьледваньняў: прыродазнаўчыя, экономічныя, культурна-гістарычныя, этнографічныя і д. т. п.; асаблівасьці іх мэтодаў і формы організацыі. Ахова помнікаў прыроды і культуры. Музэі — агульнарэспубліканскія і краёвыя; прынцыпы іх організацыі. Архівы. Скарыстаньне матар‘ялаў устаноў і організацый. Краязнаўства і навуковыя ўстановы. Краязнаўства і бібліографія. Агульная і мясцовая бібліографія. Краязнаўства і соцыялістычнае будаўніцтва; скарыстаньне краязнаўчых матар‘ялаў для вытворчых і культурна-асьветных мэтаў. Краязнаўства і абарона старaны.

*Б. Мэтодыка грамадзка-практычнага краязнаўства.* Краязнаўства на Беларусі, беларускае краязнаўства і іх гісторыя. Сучасны стан беларускага краязнаўства і яго задачы. Краязнаўства ў нашых усходніх суседзяў (УССР, РСФСР). Краязнаўства ў заходніх суседзяў (Польшча, Літва, Латвія). Організацыя краязнаўчага руху і яго мэтодыка. Віды краязнаўчых організацый. Зьезды і конфэрэнцыі. Масавая краязнаўчая праца сярод розных пластоў насяленьня.

*В. Спэцыяльная мэтодыка вывучэньня раёну.* Раён, як вытворча-экономічны і культурна-гістарычны комплекс. Мэтоды вывучэньня раёну об‘ектны і комплексны. Монографічныя дасьледваньні. Падыход і мэтавая ўстаноўка ў сучасным вывучэньні раёну. Плян і мэтодыка вывучэньня раёну: а) прырода, клімат, глебы, воды, расьліны і жывёлы, карысныя выкапні, геолёгічныя адкладаньні, фэнолёгія і г. д., б) экономіка — сельская гаспадарка, прамысловасьць — буйная і дробная; насяленьне і яго склад — нацыянальны, профэсыянальны і соцыяльны; формы вытворчасьці і абмену — коопэрацыя, прыватны гандаль і г. д. Пэрспэктывы разьвіцьця раёну; в) гісторыя раёну — дагістарычнае мінулае; рэшткі першабытнай культуры; старажытныя насельнікі; стан раёну ў розныя часы; факты гісторыі мясцовай культуры; гісторыя рэволюцыйнага руху. Адміністрацыйна-політычны стан раёну ў сучасны момант. Асаблівасьці вывучэньня гораду і вёскі, як соцыяльна-экономічных організмаў. Мястэчка і асаблівасьці яго вывучэньня.

*Г 1. Практычная мэтодыка для гідротэхнічнага аддзяленьня.* Месца гідротэхніка у агульнай краязнаўчай справе. Вывучэньне вод мясцовага краю. Вывучэньне сучаснага стану тэхнічнага скарыстаньня вод краю. Вывучэньньне гісторыі разьвіцьця апошняга. Гідролёгічныя нагляданьні. Выкарыстаньне гідролёгічных работ краязнаўчымі організацыямі і іхні ўдзел у гэтых работах.

*Г 2. Практычная мэтодыка для тарпянога аддзяленьня.* Тэхнік-тарпянік, як краязнаўца. Вывучэньне балот мясцовага краю. Спэцыяльнае дасьледваньне тарпяных балот. Сучаснае скарыстаньне балот. Паказ мясцовых балот у мясцовым музэі. Вывучэньне колектыўных пачынаньняў у справе мясцовых торпараспрацовак.

*Г 3. Практычная мэтодыка для архітэктурнага аддзяленьня.* Архітэктар-тэхнік як краязнаўца. Вывучэньне мясцовага сялянскага дойлідзтва, яго сучаснага стану і гісторыі. Вывучэньне мясцовых помнікаў грамадзянскай і культавай архітэктуры. Паказ мясцовага будаўніцтва ў мясцовым музэі. Архітэктар-тэхнік, як консультант мясцовай краязнаўчай організацыі па пытаньнях гістарычна-мастацкага і этнографічнага вывучэньня мясцовага будаўніцтва.

*Г 4. Практычная мэтодыка для дарожнага аддзяленьня.* Тэхнік дарожнік, як краязнаўца і консультант мясцовай краязнаўчай організацыі па пытаньнях тэхнічнага і этнографічнага вывучэньня шляхоў зносін. Вывучэньне чыгункі і яе ролі ў жыцьці мясцовага краю. Вывучэньне судаходных і сплаўных вадзяных шляхоў. Вывучэньне шашы, шляху і іншых грунтаваных дарог і сьцежак, мастоў і іншых перапраў на іх і г. д. Гістарычнае дасьледваньне шляхоў краю. Роля шляхоў краю ў экономічным і культур-

ным жыцьці краю. Паказ шляхоў краю ў мясцовым музэі.

Прапрацоўка гэтай програмы павінна адбывацца на кожным аддзяленьні асобна, у мэтах большага спэцыялізаваньня, па 2 акад. гадзіны на кожным. Політэхнікум да гэтага імкнецца.

*М. Касьпяровіч.*

### Гомельскі пэдагогічны тэхнікум.

Програмай я карысталася тою, якая апублікавана ў 6-7 № „Нашага Краю" 1928 г., толькі, дзякуючы нязначнай колькасьці часу, адведзенага на мэтодыку краязнаўства, прышлося частку матар'ялу адкінуць, як напрыклад: архівы, бібліографія, краязнаўства і навуковыя ўстановы, асаблівасьці краязнаўства ў розных рэспубліках, краязнаўства і нацменшасьці, асаблівасьці вывучэньня гораду і вёскі, як соцыяльна-экономічных організмаў, мястэчка і асаблівасьці яго вывучэньня, краязнаўства ў школьных падручніках, мэтод проекту, як мэтод вытворча - краязнаўчы, краязнаўчая праца політасьветных устоноў. Уведзена была тэма: школьны краязнаўчы музэй і як яго організаваць. На тэорэтычную прапрацоўку матар'ялу пайшло 22 гадзіны, а на практычную 10 гадзін, але фактычна пайшло болей, бо частка працы праводзілася студэнтамі ў час, вольны ад заняткаў. Экскурсіі адбыліся ў саматужніцкія майстэрні, на завод і экскурсія цэлы дзень у вёску. У будучым пажадана, каб час для экскурсій увахodзіў у агульны плян, каб ня прыходзілася займаць дні і час адпачынку студэнтаў. Мэтод працы быў мяшаны: частка матар'ялу прапрацавана сэмінарскім шляхам, частка лябораторным і нязначная частка матар'ялу лекцыйным шляхам. Для некаторых прац карысталіся прыладамі з габінэтаў природазнаўчага і хэмічнага. Прадмет быў узгоднен толькі з мэтодыкай палітасьветнай працы, на долю якой быў аднесены разгляд краязнаўчай працы політасьветных установ; з другімі мэтодыкамі ўзгадняць ня прышлося, бо на чацьвертым курсе яны ўжо не праходзяцца, а толькі мэтодысты прысутнічаюць на практычных лекцыях студэнтаў. Веды студэнтаў ацэньваліся па здачы імі заданьняў, па залічваньні дакладаў і выніках практычнай працы. Адносіны студэнтаў да прадмету былі здавальняючыя: яны цікавіліся рознымі пытаньнямі, ахвотна ішлі на экскурсіі, але-ж была частка студэнтаў, якая неахвотна бралася за практычную працу і выконвала яе нядбайна. Падручнікаў адпаведных програме ня было, дастаць у Маскве не змаглі, прышлося карыстацца рознымі артыкуламі ў „Нашым Краі", „Краеведении", зборніках розных, а таксама кніжкамі: Гейнике: Книга краеведа, Муратов: Изучение местного края, Гринкевич: Краеведение и школа, Феноменов: Изучение быта в деревне, Звягинцев: Локализация в школе, Клетнова: Изучение края.

Пажаданьні на наступны год гэткія:

1) Неабходна мэтодыку краязнаўства перанесьці на 3 курс; тады яе лёгка будзе ўвязаць з мэтодыкай прыродазнаўства, грамадазнаўства і др. Акрамя таго, у часе летніх вакацый з наступнага году студэнты будуць мець магчымасьць замацаваць свае веды і набыць неабходныя звычкі ў вядзеньні розных краязнаўчых абсьледваньняў. На чацьвертым курсе ўсё гэта наладзіць надта цяжка, бо студэнты перагружаны працай і рыхтуюцца да сканчэньня тэхнікуму. 2) Неабходна павялічыць лік гадзін да 2 у тыдзень і зьменшыць аб'ем тэорэтычнай часткі курсу, каб усе практычныя працы і экскурсіі можна было праводзіць у вызначаны па програме час. 3) Неабходна прыняць усе меры к таму, каб выдаць неабходныя падручнікі, дзе можна было-б знайсьці ўвесь матар'ял. За апошні час зьявілася кніжка Касьпяровіча і Програмы, якія часткова папоўняць гэты недахоп, але ня зусім.

П. Забела.

### Рагачэўскі Пэдтэхнікум.

На мэтодыку краязнаўства адводзіцца па пляну НКА 1 тыднёвая гадзіна, г. зн. пры 15 тыднях тэорэтычных заняткаў IV-ых курсаў (па 2 гадзін)—30 гадзін за год. Фактычна-ж дадзена—57 гадз. (90% больш). Дзякуючы гэтаму ўдалося прапрацаваць наступны матар'ял.

Агульная мэтодыка—12 гадз., з якіх 9 тэорэтычных і 3 практычных. Праведзена экскурсія на с. г. выстаўку і „распрацавана і падагульнена анкета „Інтарэсы і нахілы рагачэўскага студэнцтва".

Краязнаўства як грамадзкі рух—7 гадз.

Вывучэньне краю і паасобных раёнаў 24 гадз. Гэты разьдзел быў прапрацован наступным чынам: пасьля кароткага тэорэтычнага ўвядзеньня былі наладжаны наступныя практычныя працы: „Мікольскі кірмаш" у разрэзе: што дае вёска гораду і атрымоўвае ад яго; разам з гэтым было праведзена дэмографічнае дасьледваньне. Праца заняла IV Б курс на 6 гадз. (апроч працы організацыйнай і падагульненьня).

IV А курс правёў працу па зьбіраньні матар'ялаў на тэму: „г. Рагачэў як соцыяльна-экономічны організм". Організацыя гэтае працы і падагульненьне рабіліся ў час акадэмічных заняткаў, а зьбіраньне матар'ялаў— у пазашкольны час. 25-26 мая абодвы IV курсы правялі краязнаўчае дасьледваньне Збароўскага с/с у разрэзах: прырода і гаспадарка, калгасы Збароўскага с/с, быт і культура і рэволюцыйны рух. Пасьля ўстаноўкі мэты экскурсіі ўсе студэнты былі пабіты на групы, згодна вышэйадзначаных разьдзелаў дасьледваньня; выдзелены былі мастакі для зарысоўкі цікавых тыпаў, беларускае вопраткі, характэрных аздоб будынкаў, краявідаў і д. т. п.; быў запрошаны фотограф-аматар для фотоздымкаў цікавых будынкаў, тыпаў

і г. д. Програму дасьледваньня распрацавала камісія ў складзе выкладчыкаў: грамадазнаўства мовы і мэтодыкі краязнаўства. Гэтая экскурсія разам з апрацоўкаю матар'ялаў і падагульненьнем (справаздачы ўдзельнікаў) заняла 3 вуч. дня—18 гадзін. У выніку маецца значная колькасьць пісанага матар'ялу, 28 зарысовак, шэраг дыяграм, 6 фотоздымкаў (апошнія крыху „падкачалі", дзякуючы невялікай „кваліфікацыі" фотографа - аматара). Асабліва добра распрацаваны тэмы—культура і быт: запісана багата песень, прыпевак, забабонаў, апісаны рэлігійныя сьвяты, абрады на радзіны, хаўтуры, вясельле, хрэсьбіны і шмат інш.; добра распрацавана і тэма: калгасы: „Nei Weg" (яўрэйскі калгас) і „Культура". У экскурсіі прымалі ўдзел 65 чал. Краязнаўчыя мэтоды ў школьнай працы і Краязнаўчы музэй—14 гадз., з якіх 5 гадз. выкарыстана на падагульненьне гадавой тэорэтычнай працы.

Мэтод працы на тэорэтычных занятках, з прычыны поўнай адсутнасьці падручнікаў у студэнтаў, лекцыйны. Увесь год прышлося даваць студэнтам конспэкты, якія складаліся выкладчыкам з розных крыніц.

У гэтым годзе быў організованы Краязнаўчы музэй пры Пэдтэхнікуме, які, разам з іншымі габінэтамі п/т, значна дапамог у працы, хаця дзякуючы малой колькасьці экспонатаў і інш. відавочных дапамог, выкладаньне тэорыі было даволі сухім.

Каляндарны плян працы быў выкана765 поўнасьцю.

Асаблівае ўзгодненасьці прадмету з іншымі дысцыплінамі не рабілася, хаця выбар тэм для практычных прац і распрацоўка іх плянаў рабілася пры значным удзеле грамадазнаўцаў, мовазнаўцы (з прыродазнаўствам была самая цесная ўвязка, бо выкладчык мэтодыкі краязнаўства выкладае і прыродазнаўства).

Для ацэнкі ведаў студэнтаў ужываліся: контрольныя працы (адказы ў пісоўнай форме на вызначаныя пытаньні), вуснае апытваньне і вусныя і пісоўныя справаздачы студэнтаў аб выкананьні тых ці іншых практычных заданьняў.

Што тычыць адносін студэнтаў да прадмету, то трэба адзначыць, што яны праявілі значную зацікаўленасьць ім, што відаць з наступнага: на лекцыях часта былі выказваньні студэнтаў, задавалася багата пытаньняў: практычныя працы часта выконваліся ў пазашкольны час, што пры вялікай перагрузцы ўсялякімі відамі гуртковай і грамадзкай працы была з боку студэнтаў вялікаю ахвяраю; асабліва багата прыходзілася працаваць орг. групам, якія прымалі ўдзел у распрацоўцы анкет і апрацоўцы паданага матар'ялу. Пры падагульненьні гадавой працы ніводзін студэнт не атрымаў нездав. ацэнкі, бо тыя з іх, якія ў тэорыі былі непасьпяховымі (3-4 чал.), сумленна аднесьліся да практычнай працы і выканалі яе здавальняюча.

Фактычнае наведваньне лекцый студэнтамі было такое-ж, як і па іншых прадметах: у сярэднім былі прысутнымі 90—93% усіх студэнтаў.

Падручнікамі настаўніку служылі наступныя кніжкі: „Книга краеведа" Гейнике, Елашна і інш. „Познание местного края"— Дзенс-Литовского, „Краеведческий музей в школе" Круглікава, „Энциклопедия комплексного преподавания", „Краязнаўства" Касьпяровіча, час. „Наш Край", „Краеведение", сборник „Краеведение в школе" і шэраг іншых. У студнэтаў, як ужо вышэй адзначана, апроч конспэкту, падручнікаў ня было.

Як відаць з справаздачы, слаба распрацован аддзел вывучэньня прыроды, што тлумачыцца тым, што на IV курсе няма магчымасьці даваць летнія заданьні па вывучэньні прыроды. Наогул трэба зазначыць, што выкладаньне мэтодыкі кр-ва на IV курсе нямэтазгодна, бо дзякуючы пэдпрактыкуму, зрываецца значная частка гадзін. Каб распрацаваць больш-менш стала гэты прадмет, зусім недастатковa аднае гадзіны ў тыдзень. Калі ў гэтым годзе ў Рагачэўскім пэдтэхнікуме ўдалося прапрацаваць мэтодыку кр-ва здавальняюча (адносна!), то толькі дзякуючы таму, што адміністрацыя пэдтэхнікуму пайшла насустрэчу і дала тры дні за кошт іншых дысцыплін, а выкладчык мэтодыкі краязнаўства ня лічыўся зусім з тым, што аплаты за праведзеныя звыш навучальнага пляну лекцыі ён не атрымлівае. Трэба прыняць пад увагу і тое, што і студэнты значную працу правялі ў пазашкольны час.

С. Велішчанскі.

## Школьна-Краязнаўчы рух у Полацку.

Па ініцыятыве Акр. Праўленьня Т-ва Краязнаўства ўвосені 1927 г. амаль пры ўсіх навучальных установах гораду Полацку былі засноўваны Краязнаўчыя гурткі.

У сучасны момант ува ўсіх гуртках налічваецца да 450 юных краязнаўцаў.

Трэба адзначыць, што дзейнасьць школьна-краязнаўчых гурткоў вельмі рознастайная і разам з тым надзвычайна багатая вынікамі свае працы.

Зьмест работы гэтых гурткоў наступны:

1) Правядзеньне фэнолёгічных, мэтэоролёгічных і гідролёгічных назіраньняў.
2) Утварэньне жывых куткоў прыроды;
3) Зьбіраньне расьлін і розных колекцый;
4) Зьбіраньне матар'ялаў па народнай творчасьці;
5) Зьбіраньне Слоўнікавага матар'ялу;
6) Зьбіраньне ўзораў тканін;
7) Вывучэньне мясцовай прамысловасьці;
8) Распрацоўка матар'ялаў аб помніках Старажытнасьці гораду Полацку;
9) Вывучэньне гісторыі Полацку;
10) Распрацоўка розных тэм з мясцовага жыцьця;

11) Зьбіраньне розных экспонатаў для Акр. Краязн. Музэю.

Гурткамі наладжваюцца экскурсіі, як у акруговы Краязнаўчы музэй, так і па Старажытным Полацку. Кіраўнікамі гурткоў зьяўляюцца больш актыўныя настаўнікі—краязнаўцы. Час ад часу кіраўнікі краяпа гораду, прыцягнуўшы ўвагу некалькіх тысяч грамадзян. У гэты дзень была пастаўлена каля 250 шпакоўніц.

У сярэдзіне чэрвеня будзе праведзена 4-я школьна-краязнаўчая конфэрэнцыя, на якой будзе зроблены падлік працы краязнаўчых гурткоў, а таксама будзе дадзены




знаўчымі гурткамі зьбіраюцца для абгаварэньня формаў і мэтодаў школьна-краязнаўчае работы.

У мэтах абуджэньня ў вучняў зацікаўленасьці да вывучэньня мясцовага краю ўсімі школамі гораду выпісваецца часопіс „Наш Край“.

За гэты час праведзены тры агульнагарадзкія школьна-краязнаўчыя конфэрэнцыі, якія значна ажывілі працу ў краязнаўчых гуртках.

Акрпраўленьнем у адзнаку 10-годзьдзя існаваньня БССР у памяшканьні гортэатру была організавана школьна-краязнаўчая этнографічная вечарына, якая прайшла з надзвычайна вялікім посьпехам.

14 красавіка г. г. была праведзена вялікая Грамадзка-Карысная Кампанія „Дзень Птушкі“. На пляцу Волі адбыўся мітынг, пасьля чаго вучні ў ліку каля 1200 асоб на чале з оркестрам музыкі N палка стройнымі шэрагамі з сьцягамі, плякатамі, лёзунгамі, гнёздамі, шпакоўніцамі і чучаламі розных карысных птушак прайшлі дэмонстрацыяй шэраг чарговых заданьняў па вывучэньні мясцовага краю юнымі краязнаўцамі ў часе летніх вакацый.

С. Мялешка.

## Казкі пра волатаў на Чэрвеншчыне.

На Чэрвеншчыне яшчэ і зараз бытуе вельмі многа казак пра волатаў. Часамі яны расказваюцца, як апавяданьні пра запраўдныя здарэньні, што адбыліся даўно ці зусім нядаўна. У такім выпадку расказчыкі вераць ў праўдзівасьць свайго апавяданьня і злуюць, калі яго лічаць казкай. Так расказваюць, што: а) на р. Сьвіслачы ёсьць камень з сьледам нагі валатоўны, якая калісь пераступіла раку; б) у возеры Дзікім ля Чэрвеня волатамі затоплена царква з людзьмі і таму ў пэўныя дні там чуваць звон; в. р. Волма пацякла з галавы аднаго волата, які быў забіты ворагамі; г) у курганох ля Бушавіч пахаваны волаты; д) калі памёр найбольшы волат, то душа яго загарэлася на небе зоркай; е) у Горкаўскім сельсавеце ляжыць вялізны камень—скамянелы волат і г. д. Ёсьць

цікавыя казкі, як напр.: а) як волат у заморскага цара забраў сабе валатоўну за жонку; б) як даўней усе людзі былі волатамі ды пасьля здрабнелі; в) пра Пакаці-Гарошку і д. т. п. Шмат такіх паданьняў і казак запісана мясцовымі маладымі краязнаўцамі пасьля закліку да гэтага газ. „Чырвоная Зьмена". У хуткім часе ўсе яны будуць адасланы Акадэміі Навук.

Іван Касьпяровіч.

## Барысаўскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

*(Красавік 1928 г.—Красавік 1929 г.).*

У склад Т-ва ўваходзіць усяго 77 ч-к, якія разьмяркоўваюцца наступным чынам: у горадзе 51 ч-к і раёне 26. Мужчын 35 ч-к і жанчын 39. Па роду заняткаў—настаўнікаў 71 ч-к, савецкіх і партыйных працаўнікоў 4 і 2 сялян. Па партыйнасьці—сяброў КПБ—7 ч-к, сяброў ЛКСМ—3 ч-к і беспартыйных 67 ч-к.

Праўленьне складаецца з 7 асоб: 1) Нікіфаровіч (старшыня), 2) Кушнір (сакратар), 3) Уладзіміраў (скарбнік), 4) Кегелес (загадчык Музэю), 5) Рамановіч, 6) Мазінч і 7) Пшанічны.

За справаздачны пэрыод адбылося 14 пасяджэньняў Праўленьня, на якіх разгледжана 33 пытаньні і праведзена 3 агульныя сходы. Сябрамі Т-ва зьмешчаны ў часопісе „Наш Крня" 8 артыкулаў, выдан часоп. „Наш Раён", № 2 (у 100 паасобніках на шапірографе).

У красавіку 1928 г. Т-ва прыняло ўдзел у Першай Усебеларускай выстаўцы Краязнаўчых фотографій і зарысовак. На выстаўку было прадстаўлена 50 фотогр. здымкаў Барысаўшчыны. Адаслана ў ЦБК некалькі анкет па вывучэньні прыродных фарбаў Беларусі. Рэгулярна вяліся і адсылаліся ў ЦБК мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні. Гідролёгічныя назіраньні адсылаліся ў Гідролёгічны Інстытут (Ленінград),

У раённы Музэй паступілі наступныя рэчы: 1 топографічная трохвярстовая карта Раёну, 1 карта дзесяцівярстовая, 1 глебавая трохвярстовая карта раёну, 6 табліц фэнолёгічных назіраньняў за 5 год, 4 табліцы мэтэоролёгічных назіраньняў, 60 фотоздымкаў Барысаўскіх прадпрыемстваў, гістарычных помнікаў і інш., 25 відаў чучал мясцовых птушак, колекцыя шасьціножак і матылёў—48 відаў.

Зараз Т-вам вядзецца наступная праца. Заканчваецца апрацоўка матар'ялаў да зборніка „Барысаў за 10 год" (1918—1928). У зборніку будуць зьмешчаны наступныя артыкулы, якія характарызуюць дасягненьні Савецкай улады ў г. Барысаве: 1. Жыльлевае будаўніцтва, 2. Дабрабыт гораду, 3. Мясцовая прамысловасьць, 4. Прадрыемства Боргоркамбінату, 5. Рабочая Коопэрацыя, 6. Ахова здароўя, 7. Народная Асьвета. Зборнік будзе ілюстраваны фотографічнымі здымкамі новых будынкаў прадпрыемстваў (новая сярніковая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна"), амбуляторый, школ, клюбаў і інш.

Акрамя таго, Т-ва зьбірае і апрацоўвае матар'ялы да зборніка „г. Барысаў і барысаўскі раён". Думка аб выданьні такога зборніка зарадзілася ў праўленьня Т-ва яшчэ $1^1/_2$ гады таму назад, але запраўды, прыступілі да яе рэалізацыі толькі з лістапада 1928 г. Зборнік ахопіць наступныя пытаньні: прырода, сельская гаспадарка, прамысловасьць, экономіка, культура і гісторыя гораду і раёну. К сучаснаму моманту амаль усе тэмы разабраны сябрамі Т-ва і прыступлена да працы. Некаторыя матар'ялы ўжо падрыхтаваны. Тэрмін друкаваньня зборніка будзе залежаць у значнай меры ад матар'яльных сродкаў, якіх у Т-ва зусім няма.

У пачатку 1929 г. організавана некалькі гурткоў пры сельсаветах раёну. У склад гурткоў пераважна ўваходзяць вясковыя настаўнікі, паступова ўцягваюцца таксама працаўнікі зямлі і лесу і сяляне. Для гурткоў Праўленьнем быў складзен плян працы на зімова-веснавы пэрыод. Некаторыя гурткі (Кішчына-Слабодзкі) распачалі працу і падтрымоўваюць сувязь з Раённым Т-вам. Досыць актыўнымі працаўнікамі Раёну зьяўляюцца т. Няварко (настаўнік К.-Слабодзкай школы) і. т Мачульскі (настаўнік Мётчанскай школы), якія вельмі акуратна выконваюць усю даручаную ім працу. На вялікі жаль, яшчэ да гэтага часу ня ўсё настаўніцтва ўявіла сабе ўсю важнасьць і неабходнасьць краязнаўчай працы. Ад некаторых гурткоў (як, напр., Зембінскага, дзе ёсьць сямігодка) ніякіх вестак аб працы не паступала.

Школьна-Краязнаўчая Сэкцыя Т-ва распрацавала шэраг тэм прыродазнаўчага, экономічнага і культурна-гістарычнага характару, якія разасланы па ўсіх школах гораду для распрацоўкі і збору матар'ялаў у летні час. У сувязі з падняцьцем ураджайнасьці асаблівая ўвага зьвернута па вывучэньне шкоднікаў сельскай гаспадаркі (кузурак, пустазельляў і інш.).

З гурткоў пры школах працуюць пры Пэдтэхнікуме Гурток Натуралістых (пры 7-ай і 1 шк. сямігодках). Гурток Натуралістых існуе 5 г. Праца яго наступная: 1) вядуцца рэгулярныя мэтэоролёгічныя назіраньні Мэтстанцыі II разр. пры Пэдтэхнікуме, 2) сталыя фэнолёгічныя назіраньні. Вынікі гэтых назіраньняў апрацоўваюцца і будуць надрукаваны ў зборніку „Барысаўшчына", 3) вывучаюцца шкоднікі сельскай гаспадаркі. Сабраны адпаведныя энтомолёгічныя колекц., 4) Вывучаюцца мясцовыя птушкі. З 1928 г. прыступілі да кальцаваньня птушак. Закальцована 14 штук. Весткі аб акальцованых птушках адсылаюцца ў ЦБЮН (Масква). 5) Вядуцца гідролёгічныя назіраньні. Гурткі пры 7-й і 1-ай шк. вывучаюць мясцовыя прадпрыемствы, быт рабочых, шкоднікаў гароду і саду і інш.

Грашовыя сродкі Т-ва складаліся з сяброўскіх узносаў (21 руб. 65 кап.), паступіла ад рэалізацыі часоп „Наш Раён" (44 р. 85 кап.), атрымана ад Горсавету на выдавецкую справу 170 руб., усяго 236 р. 50 к. Выдаткавана 155 руб. 53 кап. Застаецца на 1 траўня 1929 г. 80 р. 97 к. Па каштарысу ніякіх сродкаў не адпушчана, з прычыны чаго немагчыма разгарнуць сталай працы. Няма тэхнічнага працаўніка ў музэі, бібліотэцы. Няма сродкаў на папаўненьне Музэю, бібліотэкі, выдавецкую справу. Некалькі разоў зварочвалася Т-ва ў РВК з просьбай аб грашовай дапамозе, але заўсёды атрымоўвала адказ.

С. Н.

## Азарыцкая раённая краязнаўчая конфэрэнцыя.

(*Мазыршчына*).

30 мая 1929 г. у м. Азарычах адбылася III раённая краязнаўчая конфэрэнцыя. Удзел у працах конфэрэнцыі прынялі мясцовыя партыйныя, комсамольскія профсаюзныя і грамадзкія організацыі праз сваіх прадстаўнікоў. Конфэрэнцыя была прыстасавана да раённай асьветніцкай конфэрэнцыі, улічваючы, што 50% краязнаўчае організацыі складаюць асьветнікі. Дзеля абмежаванасьці часу конфэрэнцыя змагла абгаварыць толькі наступныя пытаньні: даклад праўленьня т-ва аб праробленай працы, плян далейшае працы і перавыбары праўленьня і рэвізійнае камісіі т-ва. Усяго прысутнічала на конфэрэнцыі 73 краязнаўцы і 21 іншых. Па дакладу праўленьня выказалася 16 чалавек, што трэба лічыць значным дасягненьнем, бо раней звычайна выказвалася 2-3 чал. і то заўзятых краязнаўцаў. Прадстаўнікі РВК, райкому КПБ у сваіх выступленьнях прызывалі краязнаўцаў да сумеснай плянавай працы па вывучэньні свайго раёну. Абяцалі аказаць такую-сякую дапамогу—сродкамі.

Конфэрэнцыя адзначыла, што праца раённага краязнаўчага т-ва, не зважаючы на цэлы шэраг цяжкасьцяй (адсутнасьць сродкаў, малы актыў і іншае) усё-ж такі мае дасягненьні, як у галіне організацыйнай, так і сыстэматычнага вывучэньня раёну. Асаблівая ўвага конфэрэнцыі завострана на пашырэньні раённага краязнаўчага музэю, які па думцы конфэрэнцыі зараз можа больш шпарка разгарнуць сваю працу. Асобныя краязнаўцы (Стрэльчын і Валатоўскі) скардзіліся на „Наш Край", які мала зьмяшчае мясцовага матар'ялу і позна выходзіць.

У сваіх пастановах конфэрэнцыя адзначыла: а) неабходнасьць актывізацыі наяўнага складу членаў організацыі, б) уцягненьне ў краязнаўчую працу сялянства, в) організацыю гурткоў пры буйных сельсаветах і наладжваньне ў іх працы, г) наладжваньне экскурсій па раёну, д) увязка краязнаўчае працы з практычнаю працаю раённых установаў і організацый і іншае.

У склад новага праўленьня т-ва абраны: 1. Т. Кулакоў (Старш.), 2. Гладкоў (нам, старш.), 3. Бань — сакратар, 4. Валатоўскі, 5. Рэву, 6. Слосман і 7. Варабей (селянін); кандыд: Тамковіч, Палуян і Гарбацэвіч. Рэвізыйная камісія: Раманчык, Робан, Валковіч і канд. Бедашоў.

Т. Куленац.

## У парадку соцыялістычнага спаборніцтва.

Бяруся распрацаваць і пераслаць Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук да 1-га студзеня 1930 году дзьве краязнаўчыя тэмы: адну з жыцьця гораду, другую з жыцьця вёскі.

Выклікаю зрабіць тое самае краязнаўцаў: 1) Альтшулера М. А., 2) Бычкова, 3) Вільчака, 4) Вянюкова, 5) Гарбацэвіча, 6) Лаўрэнцьцева, 7) Лубоўскага, 8) Мацьвяёнку І. К., 9) Машкоўскага, 10) Сташэўскага.

М. Ламака.

## Беларускі Навукова-Краязнаўчы гурток у Латвіі.

У межах сучаснай Латвыі жыве каля 100.000 беларусаў, засяляючы компактнымі масамі пераважна Латгалію. У нязначнай меры культурныя запатрабаваньні іх абслугоўвае каля 30 пачатковых школ, гімназія (Дзьвінск) і двохгадовыя настаўніцкія курсы (Рыга) ды шэраг грамадзкіх інстытуцый. Да апошніх належыць і Навукова-Краязнаўчы гурток у Рызе. Ён працуе каторы год і мае значныя дасягненьні. У зборах гуртка ёсьць цікавыя матар'ялы. Члены гуртка наладзілі экскурсію па Курляндыі і падарож у Вільню. Друкуюцца анкеты, як, напр., апытальнік аб волатах у № 9 (1) часопісу „Беларуская школа ў Латвіі", (Рыга) за 1929 год. Наогулжа гурток кіруецца ў сваёй працы наступнай праграмай, апублікаванай у № 59 газэты „Голас Беларуса" (Рыга) за 1928 год, з наступнай заўвагай:

„Навукова-Краязнаўчы Гурток пры Т-ве „беларусаў-выбаршчыкаў" зьвяртаецца да беларускага настаўніцтва, студэнтаў, вучняў беларускае гімназіі, курсантаў вучыцельскіх курсаў, да старэйшых вучняў пачатковых школ і да ўсіх пісьменных беларусаў з гарачым заклікам зьбіраць матар'ялы аб усіх ніжэй пералічаных рэчах і надсылаць весткі аб іх на імя старшыні Гуртка, па ніжэйпаказаным адрасе.

Кожны граматны і ўважлівы чалавек можа зрабіць надзвычайна цікавыя і карысныя назіраньні, якія дадуць багатыя ўклады ў беларускую навуку, бо ўсе сабраныя матар'ялы будуць надрукаваны.

Асабліва нас цікавіць вось што:

1. Песьні, казкі, прыказкі, легенды, апавяданьні, замовы, частушкі. Запісваць трэба

найлепш ад няпісьменых жанчын сьпявачак, бабак-павітух, дзяцей дашкольнага ўзросту і іншых грамадзян, мова якіх не папсавана русіцызмамі ў часе доўгага пражываньня дзеколечы на чужыне, — ці то ў войску, ці то на фабрыках. Усё запісванае трэба пісаць на адным баку паперы, каб другі бок быў чысты. Пасьля кожнага запісу трэба адзначыць: дзе, калі, ад каго і хто запісаў. Зьбіраньне гэтых матар'яляў асабліва патрэбна таму, што аб беларусах, якія жывуць у іншых мясцовасьцях, панапісана ўжо шмат вялікіх кніжак, а аб нашых латгальскіх беларусах вядома зусім мала, і беларускія вучоныя вельмі цікавяцца нашым жыцьцём і творчасьцю.

2. Назовы мяйсцовасьцяй, лясоў, палёў, лугоў, урочышчаў, узвышшаў, нізін і інш. Добра даваць плян мяйсцовасьці з паказаньнем адлегласьці аднаго мейсца ад другога і з абавязковым адзначэньнем вазёр, рэк і цікавых крыніц і ўзгор'яў.

3. Крыніцы і калодзежы, у якіх кепская вада: салёная, кіслая, горкая, або з брыдкім пахам. Калі дзе пры капаньні новых калодзежаў будуць газы, або „кепская" вада, дык студні гэтыя не зарывайце, пакуль мы не накіруем да вас на мейсца дасьледчыка. Гэтак званая „кепская" вада, якую людзі ня п'юць, што кіслая, або брыдкая, дужа часта зьяўляецца вельмі каштоўнай вадой, якой магчыма лячыць розныя цяжкія хваробы, а таму аб усіх такіх крыніцах зараз-жа трэба даваць нам весткі.

4. Ва ўсіх выпадках, калі дзе з-пад зямлі, каля рэк, равоў, канаў,—выходзіць сплашны камень, або каменны пласт, — трэба зараз-жа паведаміць нас з падрабязным паказаньнем мяйсцовасьці. Асабліва важна, калі камень, ломіцца пліткамі, або можа гарэць. Цікава ведаць, дзе і якога колеру ёсьць гліна (чырвоная, жоўтая, белая, блакітная).

5. Малюнкі і фотографіі мяйсцовасьцяй, зарысоўкі ўзораў тканін, вышывак і кружава, фотографіі цікавых тыпаў — усё гэта дае вельмі цікавыя весткі аб мяйсцовасьці, калі на картках і малюнках адзначана: калі, дзе, хто і ад каго запісаў іх.

6. Ва ўсіх выпадках, калі капаючы студні, або канавы натрапіце на касьцякі чалавека і жывёлы, трэба зараз-жа нас паведаміць з падрабязным апісаньнем, а косьці захаваць да нашага адказу. Асабліва важна гэта тады, калі па форме сваёй і выгляду косьці здаюцца непадобнымі да касьцей сучасных стварэньняў.

7. Старыя монэты, медалі, бранзалеты, тапары, стрэлы, шаблі, нажы, гліняныя гаршчкі і нават чарапкі гаршчкоў, калі яны адкапаны разам з чалавечымі касьцямі, трэба пільна захаваць. — Усё гэта цікавая спадчына старадаўнасьці, надзвычайна важная для вучоных і для музэяў.

8. Каменныя тапары, коп'і, нажы, скрабкі можна знайсьці у распаханым полі, у размытых берагоў ракі, пры капаньні канаў і калодзежаў. Сёлета дажджы размылі курганы, дык трэба ўважліва іх агледзіць (раскапеваць курганы забаронена), бо магчыма, што на паверхню вышлі і вымыты старасьвецкія рэчы.

9. Вельмі важна ведаць, калі ў кождай мяйсцовасьці пачынае ісьці сьнег, калі бывае першая навальніца і гром, калі прылятаюць і адлятаюць розныя птушкі, колькі яны і калі выводзяць пцянцоў, калі распушчаюцца розныя кветкі і цьвітуць дрэвы, лугавыя травы, а таксама жыта, канюшына. Каб усё гэта адзначцаь трэба вясьці дзеньнік і туды штодня запісваць свае назіраньні за цэлы год, а потым пераслаць дзеньнік нам. Мы гэтыя рэчы будземо друкаваць для агульнага ведама.

10. Трэба сабраць ўсе назовы, якія ўжываюцца ў вашай мяйсцовасьці для азначэньня хатніх рэчаў, начыньня, сельска-гаспадарчых прылад, збруі і інш., прычым добра-б было гэтыя рэчы хаця-ж-бы зусім проста намаляваць, падпісаўшы як завецца ўся рэч і кожная яе частка паасобку.

11. Якімі хваробамі найбольш хварэюць у вашай мяйсцовасьці, як, чым і ў каго лечуцца. Ці многа у вас хварэюць, напр., на глісты, тыфус, панос, зоб. З гэтым пытаньнем асабліва зьвяртаемося да тых мяйсцовасьцяй, дзе ёсьць вялікія вязёры, як у Люцыне, дзе на лёд зімою вывозяць з выграбаных ям. Заўважана, напр., што асабліва многа глістоў там, дзе вада забруджана чалавечым памётам, у якім ёсьць яечкі глістоў; гэтыя яечкі праглынае рыба, а зьеўшы такую рыбіну, адаровы чалавек набывае себе глістоў. Насельніцтва з году-ў-год хварэе, а прычыны хваробы ня ведае. Якія ў вас санітарныя варункі: ці ёсьць аптэка, доктар, фэльчар. Ці няма шаптуноў і шаптух, і як да іх адносіцца жыхарства.

12. Яшчэ адна вельмі важная справа. Намі ўже заўважана, што ў беларусаў і латышоў шмат агульных слоў, якіх няма ні ў маскалёў ні ў палякоў. Трэба ўважліва і старанна запісваць усе агульныя словы, якія ёсьць і ў нас і ў латышоў і ў латгальцаў з паказаньнем мяйсцовасьці, дзе вы пачулі слова, і з паясьненьнем ягонага значэньня.

13. Якія ў вас экономічныя варункі жыцьця: колькі зямлі ў ваколіцах прыпадае на душу, колькі малазямельных і безьзямельных, чым зарабляюць сабе на жыцьцё малазямельныя і безьзямельныя; якія крамы, склады, прыватныя і коопэрацыйныя ёсьць у вашай мяйсцовасьці і хто імі кіруе; які сярэдні гадавы бюджэт (абарот з гаспадаркі) мае ў вашым раёне многазямельны, серадняк і малазямельны селянін.

14. Якія полытычныя партыі і кірункі ёсьць у вашым раёне. Да каго цягнуцца розныя групы сялянства. Якія вымаганьні сяляне ставяць політычным партыям, чым задаволены і чым незадаволены. Якіх чакаюць і жадаюць зьмен.

Усе назіраньня і весткі накіроўваць старшыне Навукова-Краязнаўчага Гуртка па адрасу: Канстантыну Езавітаву, Рыга, Альбертоўская вул., дом № 5, кв. 9. У сьпешных выпадках можна званіць па тэлефону № 2-7-4-7-8.

Найбольш актыўныя зьбіральнікі будуць залічаны ў лік сталых супрацоўнікаў Гуртка ў якасьці корэсподэнтаў. За найбольш карысныя і поўныя зборы будуць выдавацца прэміі навуковымі і літаратурнымі выданьнямі, а ў асаблівых выпадках і грашовы гонорар.

Вялікаю перашкодаю ў працы гуртка зьяўляецца адсутнасьць сродкаў. Але, калі гурток засну яшчэ большую сувязь з працоўнымі масамі, то дасягне ў сваёй чыннасьці каштоўных вынікаў.

## Мэтодыка краязнаўства ў пэдтэхнікумах.

12-15 чэрвеня 1929 г. у Менску адбыўся ўсебеларускі зьезд выкладчыкаў пэдагогічных тэхнікумаў, які, паміж іншымі, абмеркаваў і пытаньні выкладаньня мэтодыкі краязнаўства ў пэдагогічных тэхнікумах. Адмыслова ўтвораная камісія апрацавала рэзолюцыю, якую і зацьвердзіў пленум зьезду. Камісія мела два паседжаньні, ды прэзыдыум яе—адно. У камісіі быў прыняты проект рэзолюцыі ЦБК, укладзены навуковым сакратаром яго т. Касьпяровічам. Пленум зьезду, у сваю чаргу абмеркаваўшы проект, зацьвердзіў яго ў наступным відзе:

Выкладаньне мэтодыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах у 1928-29 акад. годзе, выкліканае неабходнасьцю падрыхтоўкі настаўнікаў, якія-б маглі весьці навучаньне ў школе па комплексных праграмах на аснове мясцовага краёвага матар'ялу, дасягнула значных вынікаў: студэнты апанавалі асновамі краязнаўства, усьвядомілі мэтоды організаваньня краязнаўчай працы вучняў у процэсе навучаньня іх па комплекснай сыстэме, навучыліся самастойна здабываць краязнаўчы матар'ял для сваёй навучальнай працы і г. д. Але побач з гэтымі дасягненьнямі ёсьць яшчэ шэраг недахопаў, як у справе сталага высьвятленьня мэтавай установкі мэтодыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах і на пэдфаку, так і ў справе дэталізаваньня програмы, вызначэньня яе абхвату і самых мэтодаў прапрацоўкі яе, ды сувязі з іншымі дысцыплінамі.

Конфэрэнцыя лічыць, што мэтаю выкладаньня мэтодыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах і на пэдфаку павінна быць:

а) падрыхтоўка настаўніка здольнага ажыцьцяўляць програмы Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту Народнага Камісарыяту Асьветы, пабудаваньня на аснове прапрацоўкі матар'ялаў мясцовага краю;

б) падрыхтоўка настаўніка, як організатара мясцовых краязнаўчых організацый, школьных і краёвых музэяў і выставак і наогул кіраўніка працай краязнаўчага руху мясцовага краю;

в) падрыхроўка настаўніка, які-б валадаў мэтодам дасьледваньня, зьбіраньня матар'ялаў мясцовага краю наогул і апрацоўкі матар'ялаў па сваёй спэцыяльнасьці;

г) падрыхтоўка настаўніка, што ўмеў-бы організаваць і пропагандаваць ахову помнікаў прыроды, працы і культуры свайго краю, якая ўваходзіць у заданьні Народнага Камісарыяту Асьветы;

д) падрыхтоўка настаўніка, які-б здолеў дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву ў галіне індустрыялізацыі, сельскай гаспадаркі і культуры на аснове сваёй краязнаўчай працы і грамадзка-карыснай краязнаўчай працы вучняў.

У сувязі з гэтаю мэтаю азнаямленьня студэнтаў з організацыяй, гісторыяй, мэтодолёгіяй і тэхнікай краязнаўства, а таксама —з комплексам ведаў аб мясцовым краі, у межах якога функцыянуе пэдагогічны тэхнікум, програма мэтодыкі краязнаўства для пэдагогічных тэхнікумаў павінна быць наступная:

*А. Агульная мэтодыка.*

I. Сутнасьць краязнаўства і розныя яго разуменьні. Краязнаўства, як мэтод і як дысцыпліна.

II. Краязнаўства, як мэтодычны прынцып, што праводзіцца ў розных навуковых дысцыплінах. Прынцып лёкалізацыі матар'ялу ў прыродазнаўчых і гуманітарных навуках.

III. Краязнаўства і марксызм. Марксыцкая мэтодолёгія і дынамічны прынцып у краязнаўстве.

IV. Об'екты краязнаўчага дасьледваньня і форм яго прапрацоўкі (дыяграмы, графікі, колекцыянаваньне, фотографаваньне і д. т. п.).

V. Організацыя краязнаўчых дасьледваньняў. Экспэдыцыі, экскурсіі, стацыянарнае нагляданьне. Тыпы дасьледваньняў—прыродазнаўчыя, экономічныя, культурна-гістарычныя, этнографічныя і д. т. п. Асаблівасьці іх мэтодаў. Формы іх організацыі. Анкетны мэтод. Статыстыка і краязнаўства.

VI. Скарыстаньне краязнаўчага матар'ялу для вытворчых і культурна-асьветных мэтаў. Скарыстаньне матар'ялу ўстаноў і грамадзкіх організацый. Выстаўкі. Ахова помнікаў прыроды і культуры. Музэі — агульна-рэспубліканскія і краёвыя; прынцыпы іх організацыі. Архівы агульныя і мясцовыя. Краязнаўства і навуковыя ўстановы.

VII. Краязнаўства і організацыя соцыялістычнай гаспадаркі. Прынцып раёнаваньня ў сучасным экономічным бадаўніцтве.

VIII. Краязнаўства і бібліографія. Агульная мясцовая бібліографія.

*Б. Краязнаўства, як грамадзкі рух.*

I. Краязнаўства ў нашых заходніх суседзяў.

II. Гісторыя краязнаўства ў Беларусі.

III. Сучаснае краязнаўства ў СССР і яго асаблівасьці ў розных рэспубліках. Краязнаўства і нацыянальныя меншасьці.

IV. Організацыйныя формы краязнаўчай працы. Гурткі, раённыя і акруговыя таварыствы краязнаўства, Ц.Б.К. Зьезды і конфэрэнцыі. Краязаўчая праца пры асьветных установах — школах, бібліотэках, хатах-чытальнях і г. д., пры профсаюзных організацыях. Краязнаўчая праца пры вышэйшых школах. Масавая краязнаўчая праца сярод розных пластоў насельніцтва. Краязнаўчыя выданьні.

*В. Спэцыяльная мэтодыка.*

I. Край, як вытворча-экономічны і культурна-гістарычны комплекс. Мэтоды вывучэньня краю — об'ектны і комплексны. Монографічныя дасьледваньні. Падыход і мэтавая ўстаноўка ў сучасным вывучэньні раёну.

II. Плян і мэтодыка вывучэньня раёну: а) прырода, клімат, глебы, воды, расьліны і жывёлы, карысныя выкапні, геолёгічныя адкладаньні, фэнолёгія і г. д. б) экономіка— сельская гаспадарка, прамысловасьць — буйная і дробная; насяленьне і яго склад — нацыянальны, профэсыянальны і соцыяльны; формы вытворчасьці і абмену — коопэрацыя, прыватны гандаль і г. д. Пэрспэктывы разьвіцьця раёну; в) гісторыя раёну — дагістарычнае мінулае; рэшткі першабытнай культуры; старажытныя насельнікі; стан раёну ў розныя часы; факты гісторыі мясцовай культуры; гісторыя рэволюцыйнага руху. Адміністрацыйна-політычны стан раёну ў сучасны момант.

III. Асаблівасьці вывучэньня гораду і вёскі, як соцыяльна-экономічных організмаў. Мястэчка і асаблівасьці яго вывучэньня.

*Г. Практычная мэтодыка.*

I. Краязнаўства і пэдагогіка. Месца краязнаўства, як пэдагогічнага прынцыпу ў гісторыі пэдагогічных ідэй (радзімазнаўства, бацькаўшчыназнаўства). Сутнасьць сучаснага школьнага краязнаўства ў комплексных програмах.

II. Формы школьнай прапрацоўкі краязнаўчага матар'ялу.

III. Об'екты школьнай прапрацоўкі.

IV. Організацыя школьна-краязнаўчай працы (школьнае краязнаўства ў нутраной працы школы і па-за ёю). Школьнае краязнаўства ў 1 і 2 концэнтры. Краязнаўства, як пэдагогічны прынцып у розных вучэбныд дысцыплінах (грамадазнаўства, літаратура, прыродазнаўства і г. д.). Програмна-краязнаўчыя дасьледваньні.

V. Удзел школы ў краязнаўчай працы. Краязнаўчыя гурткі ў сельскай і гарадзкой школе.

VI. Краязнаўства і грамадзка-карысная праца школы.

VII. Мэтод проекту, як мэтод вытворча-краязнаўчы.

VIII. Падлік краязнаўчай працы школы (програмны і па-зашкольны).

IX. Краязнаўства ў школьных падручніках 1 і 2 концэнтру.

X. Краязнаўчая праца політасьветных устаноў (хат-чыталень бібліотэк, музэяў і г. д.).

*Д. Наш Край.*

I. Наш Край, як вытворча-экономічны і культурна-гістарычны комплекс.

II. Месцаразлажэньне, паверхня, воды, глебы, расьліны, жывёлы, карысныя выкапні нашага краю.

III. Сельская гаспадарка, прамысловасьць, гандаль і насяленьне нашага краю.

IV. Рэшткі першабытнай культуры ў нашым краі, старажытныя насельнікі яго, яго гісторыя і гісторыя культуры і рэвруху ў ім. Адміністрацыйна-політычны стан нашага краю ў сучасны момант.

V. Пяцігадовы плян будаўніцтва ў нашым краі.

З тае прычыны, што пэдагогічны факультэт працуе ў агульна-беларускім маштабе і што для яго краёвы матар'ял быў-бы вельмі складаным і важкім, а таксама дзеля таго, што студэнцтва на пэдфаку з усяе Беларусі, конфэрэнцыя лічыць, што частка „Д" програмы для пэдфаку павінна быць выключана і замест яе павінна адбывацца больш глыбокая прапрацоўка іншых частак програмы.

Мэтодыка краязнаўства ў пэдтэхнікумах і на пэдфаку павінна прапрацоўвацца сэмінарскім, экскурсыйна-дасьледчым і лябораторным мэтодамі з дапушчэньнем лекцый толькі для ўводзін у курс працы і абагульненьняў вынікаў яе.

Пры гэтым выкладаньне мэтодыкі краязнаўства павінна скарыстоўваць усе габінэты, лябораторыі і інш. дапаможныя ўстановы пэдтэхнікумаў і пэдфаку ды ўсе іншыя дысцыпліны, асабліва мэтодыкі, з другога боку, павінны быць цесна ўвязаны з мэтодыкай краязнаўства.

У сувязі з апошнім курс мэтодыкі краязнаўства павінен выкладацца на трэцім курсе, прычым для прапрацоўкі азначанай програмы неабходна вызначыць адну тыднёвую гадавую гадзіну.

Конфэрэнцыя лічыць неабходным, каб адбывалася краязнаўчая практыка студэнтаў падобна школьнай, а таксама пажаданым, каб побач з плянавай і абавязковай прапрацоўкай мэтодыкі краязнаўства, у пэдагогічных тэхнікумах разгортвалася грамадзка-карысная краязнаўчая праца ў гуртках краязнаўства пэдтэхнікумаў.

Разам з тым, конфэрэнцыя падкрэсьлівае, што як выкладаньне мэтодыкі краязнаўства, так і праца гурткоў краязнаўства ні ў якой меры не павінна паслужыць прычынай зьмяншэньня лёкалізаваньня выкладаньня ўсіх іншых дысцыплін у пэдтэхнікумах і на пэдфаку.

Конфэрэнцыя даручае Навукова-Мэтадалёгічнаму Камітэту дэталізаваць азначаную праграму, выпрацаваць прыкладны плян працы гурткоў краязнаўства ў пэдтэхнікумах і паклапаціцца аб хутчэйшым выданьні падручніка па мэтодыцы краязнаўства.

## Чарговыя задачы краязнаўства на Мешчыне.

Зараз па Менску адбываецца шмат экскурсій, як менчан, так і прыежджых; было-б вельмі пажадана, каб кожнай з такіх экскурсій даваліся весткі аб краязнаўчым руху і яго чарговых задачах. Спробу такой працы навуковы сакратар ЦБК Касьпяровіч даў у заключным слове працы экскурсіі членаў саюзу працасьветы і савгандльслужачых па Менску. Ён ахарактарызаваў краязнаўчы рух Меншчыны і яго чарговыя задачы, спыніўшыся на наступных момантах:

Вывучэньне Менску пачалося яшчэ да Кастрычнікавае Рэволюцыі. Тады яго ажыцьцяўлялі чарнасотніцкі Менскі Царкоўны-Гістарычна-Археолёгічны Камітэт (1907—1917) і лібэральнае Менскае Таварыства Аматараў Прырадазнаўства, Археолёгіі і Этнографіі (1912—1916). Менскае дарэволюцыйнае краязнаўства ў значнай меры абапіралася на тагочаснае Менскае настаўніцтва і мела таксама практычныя задачы, як наша пасьлярэволюцыйнае. Але клясавая прырода яго была зусім іншая. Дарэволюцыйная праца па вывучэньні Менску і Меншчыны колькасна значна большая за працу Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства: адных выданьняў было выдана—Камітэтам 5 кніг на 2047 ст. і Таварыствам I кніга на 58 стар.; Менскае-ж Акруговае Таварыства ў гэтым годзе выдала толькі „Лагойскі раён"—невялікую кніжачку. Паміж тым умовы для разьвіцьця нашага савецкага краязнаўства ў Менску найбольш спрыяючыя, чым у іншых мясцох БССР: шмат сконцэнтраванага ў адным месцы настаўніцтва і школ, шмат устаноў і організацый па сутнасьці роднага краязнаўству характару, шмат навуковых працаўнікоў, дзьве вышэйшыя школы, дзьве навуковыя акадэмічныя ўстановы, тэхнікумы, дзяржаўная і Пушкінская бібліотэкі і г. д. Пры жаданьні сродкі таксама знайшліся-б хутчэй, чым у іншых акругах. Належнае грамадзкае зданьне навокал справы таксама лягчэй утварыць, чым у іншых мясцох. Сама-ж Меншчына і Менск зьяўляюцца сьвежым месцам для вывучэньня і дасьледваньня. Ва ўсіх галінах навукі яна яшчэ амаль не зачэплена дасьледчыкамі і краязнаўцамі. Паколькі ўсебаковае дасьледваньне Менску настаўнікамі-краязнаўцамі (і вучнямі ў мэтах пэдагогічных, а таксама ў мэтах выкананьня грамадзка-карыснай працы школаю) у кароткі час немагчыма,—трэба заснаваць чарговасьць выкананьня задач усебаковага вывучэньня яго. Сярод гэтых задач будуць і такія, якія павінны выконвацца на працягу доўгага часу. Плян працы Менскай гарадзкой краязнаўчай організацыі павінен грунтавацца на пытаньнях: а) популярызаваньня краязнаўства сярод шырокіх гарадзкіх мас і ліквідаваньня краязнаўчай няпісьменнасьці горадзкога актыву; б) мэтодычнай падрыхтоўкі краязнаўцаў і в) уласна дасьледчай працы. Адпаведна гэтым разьдзелам для працы Менскай гарадзкой краязнаўчай організацыі на першы год можна вызначыць: 1): а) выданьне 6 нумароў краязнаўчага часопісу на шклопісе ці іншым множніку і зьмяшчэньня 8 інформацый у друку аб сваёй дзейнасьці; б) правядзеньне аднэй агульна-гарадзкой краязнаўчай конфэрэнцыі і аднэй вучнёўскай агульна-гарадзкой краязнаўчай конфэрэнцыі; в) чытаньне 8 популярызацыйных дакладаў і 5 дакладаў для сувязі; г) організаваньне 4 краязнаўчых вечарын; д) організаваньне адпаведных аддзелаў аб Менску ў дзяржаўным музэі; е) організаваньне 6 экскурсій па Менску і ваколіцах; э) організаваньне аднэй выстаўкі. 2): ё) організаваньне студыі для падрыхтоўкі маладых краязнаўцаў і чытаньне 6 мэтодычных дакладаў для груп, якія выконваюць працу колектыўна. 3): ж) укладаньне бібліографіі Менску і колекцый выразак з газэт на тэмы аб Менску; з) фэнолёгічныя назіраньні; і) гідролёгічныя назіраньні; й) запаўненьне 4 экзэмпляраў праграмы аб асаблівасьцях мовы акраін Менску; к) зьбіраньне 100 экспонатаў для музэю; л) зьбіраньне матар'ялаў для слоўніка мовы Менску і пакварталынага апісаньня Менску; м) абсьледваньне базараў; н) прыродазнаўчае вывучэньне сада Профінтэрна, ваколіц Менску і фаўны Сьвіслачы, і ў сувязі з гэтым ахова помнікаў прыроды і птушак; о) вывучэньне рэволюцыйнай топографіі Менску і ўкладаньне падарожніка Менску наогул; п) як адбіўся Менск: 1) у выяўленчым мастацтве і 2) у літаратуры (у сувязі з гэтым адшуканьне магілы Янкі Лучыны); р) Менскі тэатр; с) Менскі друк; т) карта пісьменнасьці Менску; у) законадаўства Горсавету; ф) піонэрскі рух у Менску; х) Менскія фабрыкі і заводы; ц) клясавы склад насельніцтва Менску і г. д. Менская гарадзкая краязнаўчая організацыя таксама павінна быць перадавым аддзелам праўленьня акруговага таварыства краязнаўства ў справе вывучэньня ўсёй Меншчыны. Праца ў гэтым кірунку можа адбывацца адпаведна вышэйапісаным аддзелам, але галоўным заданьнем зьяўляецца хутчэйшае выданьне зборніку „Меншчына". Выкананьне ўсебаковага вывучэньня Менску і Меншчыны і ажыўленьне краязнаўчай працы на Меншчыне наогул магчыма толькі пры самым шырокім і актыўным удзеле галоўнай культурнай сілы—асьветнікаў, што ў значнай меры дапаможа разам з тым школьнай працы па падрыхтоўцы маладых будучых савецкіх грамадзян.

Урэшце, экскурсавод заклікаў экскурсантаў уваходзіць у краязнаўчыя організацыі

для ажыцьцяўленьня названых ім задач. Гэта лекцыя выклікала ў многіх экскурсантаў жаданьне ўзяцца за краязнаўчую працу.

## Валатоўкі і зьвязаныя з імі перажыткі.

*(Першапачатковыя вынікі дасьледваньня).*

Ужо тры гады, як на Беларусі вядзецца зьбіраньне матар'ялаў аб валатоўках і вывучэньне іх. Пры дапамозе мясцовых краязнаўцаў сабрана надзвычайна многа фактчыных матар'ялаў, якія ўжо дазваляюць зрабіць першапачатковыя абагульненьні.

Ушо даўно шмат якімі дасьледчыкамі адзначалася, што на тэрыторыі паміж Нёманам, Дзьвіной, Дняпром і Прыпяцьцю, якая ахоплівае сучасную этнографічную Беларусь, знаходзіцца надзвычайна многа розных археолёгічных помнікаў: гарадзішч, валоў, курганоў і д. т. п. Беларускія, польскія і расійскія дасьледчыкі налічвалі іх дзесяткі тысяч. Больш за ўсё ёсьць, зразумела, курганоў. Завуцца курганы мясцовым насяленьнем у сучасны момант у розных мясцох паразнаму. Рознае называньне іх спатыкаецца часамі і ў аднэй мясцовасьці. Так, адны завуць іх валатоўкамі, другія—сопцамі, трэція капцамі, чацьвертыя—курганамі. Пад уплывам беларускай літаратурнай мовы, якая ў нашаніўскі час аддала перавагу гэтаму слову, у апошнія час сярод пісьменных людзей пераважвае назва курган. Але, як відаць, так было не заўсёды.

Прынамсі ў актавай мове XVI-XVII ст. вельмі часта ўжывалася слова валатоўка, як назва кургана. У XIX і XX ст. ст. шмат якія дасьледчыкі, пачынаючы Даленгам-Ходакоўскім (Адам Чарноцкі) і канчаючы Ляўданскім, адзначалі і адзначаюць існаваньне на Беларусі называньня мясцовым насяленьнем курганоў валатоўкамі ў паасобных краінах або ўва ўсёй старане. Такія весткі ёсьць у К. Тышкевіча, Е. Тышкевіча, Вільчынскага, Весялоўскага, Семянтоўскага, Сьпіцына, Пакроўскаго, Вяроўкіна, Шпілеўскага, Татура, Раманава, Завітневіча, Вандаліна-Шукевіча і інш.

Польская Акадэмія Навук (Кракаў) і розныя сучасныя дасьледчыкі: Ластоўскі, Сербаў, Ляўданскі і інш., у якіх мы знарок пыталіся аб гэтым, сцьвердзілі існаваньне называньня курганоў валатоўкамі на азначанай вышэй тэрыторыі. Такое-ж пацьверджаньне гэтага факту мы знайшлі і ў картотэцы Катэдры археолёгіі Беларускай Акадэміі Навук.

Усё-ж, улічваючы, што да сяго часу ніхто спэцыяльна гэтым пытаньнем ня цікавіўся, прышлося зрабіць дасьледваньне яго шляхам даступнай беларускаму дасьледчыку беларускай тэрыторыі і апытаньня мясцовых краязнаўцаў. Для апошняга была выдана адпаведная анкета, а таксама зьмешчаны пэўныя пытаньні ў кругабегавым друку. У выніку было атрымана 1507 адказаў з 98 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і з-за межаў яе (картограма № 1). Даныя адказаў былі праверваны аб'ездам усіх 8 акруг Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і кароткатэрміновым побытам у Дзьвінску.

Уся гэтая праца докумэнтальна сьцьвердзіла існаваньне ў сучасны момант называньня курганоў валатоўкамі ва ўсёй Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы, у Нэвельскім і Смаленскім паветах Расійскай Савецкай Соцыялістычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі і ў Дзьвінскім павеце Латвійскай рэспублікі. Літаратурныя даныя сьцьвердзілі гэта для Заходняй Беларусі. Адначасна ўдалося ўстанавіць межы распаўсюджаньня называньня валатоў валатоўкамі. З адказу Польскай Акадэміі Навук ня відаць існаваньня такога называньня ў Польшчы і яно, як відаць, абмяжоўваецца заходнімі ўскрайкамі этнографічнай Беларусі. На поўначы яно абмяжоўваецца, мабыць, усходняй Ковеншчынай і Латгаліяй. На ўсходзе і поўдні, згодна шматлічным адказам розных устаноў і дасьледчыкаў, мяжа яго праходзіць мала дальш на ўсход і на поўдзень, чым паказана гэта на нашай картограме распаўсюджаньня называньня курганоў валатоўкамі (№ 2), гэта значыць абрываецца ў б. б. Смаленскай і Бранскай губэрнях ды за Прыпяцьцю.

Разам з тым сумежна докумэнтальна засьведчана месцазнаходжаньне валатовак у 141 мясцовасьці 38 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі (карта № 3).

Згодна некаторым даным адпаведнай літаратуры і картотэкі археолёгічных помнікаў Катэдры археолёгіі Беларускай Акадэміі Навук, а таксама вынікам нашага дасьледваньня, амаль на ўсёй цікавячай нас тэрыторыі бытуюць народныя паданьні аб тым, што ў валатоўках пахаваны волаты, нашы продкі. У Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспубліцы існаваньне такога паданьня ўстаноўлена ў 32 мясцовасьцях 26 раёнаў (карта № 4). Менш за ўсё даных гэтага роду ёсьць адносна Заходняй Беларусі, дзе беларусам усё яшчэ немагчыма весьці навуковую працу. З паданьняў падобнага характару шмат якія кажуць аб волатах не як аб асобных адзінках, а як аб цэлым народзе, часамі спатыкаюцца паказаньні, што яны — нашы продкі.

У б. Дзісьненскім павеце і ў сучасным Чэрвенскім раёне Менскай акругі засьведчана існаваньне звычаю заходзіць на радаўніцу на валатоўкі перад тым, як зайсьці на магілы сваіх блізкіх, для таго, каб пакінуць у валатоўцы яйцо і іншую ежу, а часамі і пачаставацца.

Але ня толькі насяленьне Беларусі мае ўяўленьне аб волатах, як народзе, у сувязі з археолёгічнымі помнікамі. Падобнай думкі трымаюцца і шмат якія дасьледчыкі: Сьпіцын, Ластоўскі, Буслаеў, Татур, Шафарык і шмат іншых. Разам з тым лічыцца, хоць і ня ўсімі, што беларускае слова волаты азна-

чае старажытны народ велетаў, які зваўся інакш ваўкамі або люцічамі. Апошняе імя з часам магло зьмяніцца ў назву дзяржаўнага ўтварэньня Літвы і яго насяленьня—літоўцаў, ні ў якай меры, зразумела, да самых апошніх часоў не называючы ім сучаснай Літоўскай дзяржавы і яго народу, г. зн. жмудзінаў. Імя славянскага народу волатаў успамінаецца ўпяршыню Птолёмеем у сьпіску народаў эўропейскай Сармацыі і на карце апошняй.

У часы Птолёмея волаты жылі на Балтыйскім беразе каля Нёману, але яны „былі яшчэ зусім невядомы Плінію і Тацыту, жывучы тады ў глыбі краю", як правільна сьцьверджваў Шафарык, адкуль частка іх і зьявілася на ўзьбярэжжа. Пазьней яны ўславіліся каля Одэру і ў іншых мясцох на Захадзе, маючы ў сваім складзе некалькі пляменьняў. Аб славянскім народзе волатах на беларускай тэрыторыі не захавалася ніякіх гістарычных вестак.

Праўда, географ Равенскі на сваім месцы называў р. Люту, географ Баварскі казаў, што люцічы маюць 98 гарадоў дзесь пасярод славян-рускіх і Парфіра Гэнэці паказваў сугучных ульцінаў, але ўсё гэта можа толькі нагадваць аб волатах дзесь каля драўлян, г. зн. недалёка ад Птолёмеевых волатаў.

Волаты, што засталіся на сучаснай беларускай тэрыторыі, маглі зьмяніць сваю назву, захоўваючы ўсё-ж вядомы час некаторыя племянныя назвы. Апошняе даводзіцца існаваньнем на гэтай тэрыторыі пляменьняў вядомых сярод заходніх волатаў і суседніх ім іншых славянскіх народаў. Да такіх належаць крывічы, драгавічы і пеняны—тутака і сярод заходніх волатаў, драўляны—тутака і сярод заходніх бодрычаў, жыцічы—тутака і сярод палабскіх сербаў і г. д. Апошнія маглі пасяліцца ня з усім народам волатаў, а сярод родных ім славянскіх народаў, чаму і быць тамака вядомымі, а не сярод уласна волатаў. Але перажыткі народных назваў волатаў захаваліся таксама ў мясцовых геаграфічных і фамільных назвах, што не адзін раз паказвалі шмат якія дасьледчыкі: Шафарык, Сабалеўскі, Весялоўскі, Шпілеўскі і інш.

І запраўды, назва волатаў падобна назьве валатовак, часта сустракаецца ў докумэнтах XV-XVIII ст. ст., азначаючы то геаграфічныя об'екты р. Волата, Валатоўск і д. т. п., то ўласныя імёны, прозьвішчы і мянушкі людзей: волат, валатоўнік, і д. т. п., зьмяняючы часамі паасобныя гукі або нават часткі слоў, быць можа, па віне пісароў.

Вельмі часта спатыкаецца яно і ў сучасным называньні геаграфічных об'ектаў: р. р. Волата, Валатоўка, Волта і др., а таксама звыш 56 назваў паселішчаў, раскіданых амаль па ўсёй тэрыторыі этнографічнай Беларусі (карта № 5). Спатыкаецца таксама шмат назваў, якія нагадваюць сабою і старажытную форму гэтага народнага імя—велетаў (у б. б. Віцебскай і Менскай губ.) і вільцінаў (у б. б. Віцебскай, Віленскай і Ковенскай губ.). Апрача паказаных 56 геаграфічных назваў на ўсёй тэрыторыі этнографічнай Беларусі, зафіксавана яшчэ 161 назва на тэрыторыі 59 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі (карта № 6). Адначасна намі ўстаноўлена, што імёны, прозьвішчы і мянушкі з асноваю волат бытуюць у 170 паселішчах 63 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі (карта № 7).

Другая народная назва волатаў—люцічы таксама захавалася ў старажытных докумэнтах, называючы тамака то геаграфічныя об'екты, то людзей, а таксама і ў сучасных геаграфічных і фамільных назвах. Па ўсёй этнографічнай Беларусі зарэгістравана 70 геаграфічных назваў з коранем лют і, апрача іх, толькі ў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы 81 назва ў 44 раёнах яе.

Імёны, фаміліі і прозьвішчы людзей з каранем лют бытуюць у 158 паселішчах 58 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Тут-жа непараўнальна большая колькасьць у актавай мове і ў сучаснай запраўднасьці знайдзена геаграфічных і фамільных назваў сугучных трэцяй народнай назьве волатаў, г. зн. з асновай воўк.

Па ўсёй этнографічнай Беларусі зарэгістравана 430 геаграфічных назваў і, апрача іх, па Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы—248 назваў у 73 раёнах яе. Прозьвішчы, імёны і мянушкі людзей з асновай воўк зафіксаваны ў 412 паселішчах 80 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Зразумела, частка гэтых назваў можа быць вытлумачана наяўнасьцю воўка на вывучаемай тэрыторыі і адлюстраваньнем яе ў апошніх. Але гэта частка ня можа быць шматлічнай, як і групы іншых назваў, што адлюстроўваюць тыя ці другія элемэнты мясцовага краявіду. З параўнаньня колькасьці такіх назваў на аснове аднародных даных у губэрнях былой Расіі відаць, што частка іх можа быць аднесена да перажыткаў народнай назвы ваўкоў. Побач з памянёным адлюстраваньнем народных назваў волатаў у геаграфічных і фамільных імёнах устаноўлена такое ў актавай мове і ў сучаснай запраўдносьці адносна племянных назваў волатаў, якія вядомы нам ужо сярод заходніх волатаў.

Першае месца тутака займаюць назвы сугучныя племянному называньню велінцаў з р. Вельлёй і гор. Вільнай (Вельнай) на ёй. За імі ідуць геаграфічныя назвы сугучныя імёнам другіх пляменьняў волатаў—сітнян, ратараў, ранаў, пенян і г. д.

Такім чынам, значная сконцэнтраванасьць назваў курганоў, вазёр, рэк, урочышчаў, паселішчаў і іншых геаграфічных об'ектаў (дубоў і д. т. п.), а таксама іменьняў, прозьвішчаў і мянушак людзей, якія адлюстроўваюць перажыткі народных і племянных наз-




Кар. № 1. Картаграма атрыманых адказаў на анкету аб волатах.




Кар. № 3. Карта раёнаў, у якіх дакумэнтальна засьведчана месцазнахаджэньня валатовак.




Кар. № 2. Картаграма называньня курганоў валатоўкамі.




Кар. № 4. Карта раёнаў, у якіх засьведчана бытаваньне паданьня аб тым, што ў валатоўках пахаваны волаты.




Кар. № 6. Картаграма геаграфічных назваў з асноваю волат, апрача паказаных у кар. № 5.




Кар. № 5. Картаграма паселішчаў з асноваю волат у назьве.




Кар. № 7. Карта раёнаў, у якіх засьведчана бытаваньне прозьвішч з асноваю волат.




Кар. № 8. Карта раёнаў, у якіх засьведчана бытаваньне казак пра волатаў.




Кар. № 9. Карта раёнаў, у якіх засьведчана разуменьне волата, як гіганта.

ваў славянскага народу волатаў можа сьведчыць аб запраўдным калішнім пражываньні яго на тэрыторыі паміж Нёмнам, Дзьвіной, Дняпром і Прыпяцьцю і расьсяленьні яго ўласна адсюль на захад і ўсход, бо нешматлічныя падобныя назвы ў іншых мясцох могуць паказваць толькі на колёнізацыйны рух волатаў.

Разам з тым шмат якія дасьледчыкі адзначалі, што аб пражываньні тутака волатаў могуць сьведчыць таксама і баечныя матар'ялы. Да апошніх залучалі і казкі аб ваўкалаках, зьвязваючы іх паходжаньне з вывучаемай краінай. Але на першым месцы павінны, зразумела, стаяць паданьні, легенды і казакі аб волатах. Да сяго часу дакумэнтальна ўстаноўлена, што апошнія бытуюць у 141 паселішчы 59 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі (карта № 8). Больш шырока распаўсюджаны казкі і легенды аб асілках, часамі аналёгічныя казакам аб волатах, з тэй толькі розьніцаю, што слова волат у апошніх падменена словам асілак у першых.

Бытаваньне казак аб асілках дакумэнтальна засьведчана ў 712 паселішчах 94 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Зьвязваныя з цікавай для нас тэрыторыяй казкі аб ваўкалаках таксама шырока распаўсюджаны.

Існаваньне іх зафіксавана ў 615 паселішчах 92 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Значыць і ўсеагульная распаўсюджанасьць казак аб волатах, асілках і ваўкалаках можа быць далучана да папярэдняга доваду аб старажытным засяленьні волатамі зямель паміж Дняпром, Нёманам, Дзьвіной і Прыпяцьцю.

Само слова волат у сучаснай беларускай мове азначае гіганта, вялікалюда. Калі яно адносіцца да чалавека, то называе асобу надлюдзка вялікую і надлюдзка дужую. Такое разуменьне слова волат зафіксавана ў 405 паселішчах 81 раёну Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі (карта № 9). Некаторыя провінцыяльныя разуменьні слова волат не парушаюць гэтага ўсеагульнага сэнсу яго, падобна таму, як некаторыя провінцыяльныя тлумачэньні слова валатоўка не падмяняюць асноўнага яго значэньня, як назвы кургана. У беларускай літаратурнай мове, як старадаўняй так і сучаснай, слова волат таксама азначае гіганта. Падобная падмена зьместу слова, як назвы народу, зьместам яго, як назвы гіганта, наглядаецца і ў іншых народаў: расійскае исполин ад спалеи, польскае olbrzym ад обраў і г. д. Праформаю слова волат лічыцца *velt, *uelt, якую можна зьвязаць і з другою назваю волатаў—люцічамі. Як ужо было сказана, слова волат часамі падмяняецца словам асілак з тым-жа значэньнем. Але ўсё-ж слова асілак ўсеагульным значэньнем сваім мае называньне асобы з надлюдзкай сілай, у той час як у ўсеагульным значэньнем слова волат зьяўляецца назва асобы з надлюдзкай сілай і надлюдзкай велічыні.

Такое ўсеагульнае разуменьне слова асілак зафіксавана ў 947 паселішчах 97 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Слова ваўкалак на сучаснай беларускай мове азначае чалавека, які па сваёй або чужой воле стаў воўкам назаўсёды або на пэўны час, прычым ваўкалакам завецца ён незалежна ад таго, ці выступае ён ужо воўкам або чалавекам да таго ці пасьля таго як стаць воўкам.

Такое разуменьне слова ваўкалак зафіксавана ў 455 паселішчах 89 раёнаў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Існуюць некаторыя провінцыяльныя значэньні слова ваўкалак, як і слова асілак. Слова люты ў беларускай мове мае амаль усе значэньні зарэгістраваныя ў слоўніку Срэзьнеўскага.

Гэта ўстанаўленьне зьместу памянёных слоў дапаможа далейшай працы аб казках пра волатаў, асілкаў і ваўкалакаў, пэўным уступам да якой і зьяўляецца даная. Памянёных казак ёсьць шмат у розных зборніках фольклёру, а таксама прыслана надзвычайна многа мясцовымі краязнаўцамі на працягу апошніх двох год. Аб іх гутарка будзе ў другі раз. Трэба адзначыць для зацікаўленых, што больш падрабязнае высьвятленьне абмеркаванага тут пытаньня зьмяшчаецца ў працы пад назваю „Волаты“, якая надрукавана ў II томе Прац Катэдры Этнографіі БАН.

М. Касьпяровіч.

# Краёвая бібліографія.

Кораткаў, К. Н. і Іваноў І. Т. Грунтовыя воды Горацкага раёну. Праца Т-ва па вывуч. Бел. 927. т. IV. с. 55—64.

Коратноў, К. Н. і Іваноў І Т. Гліны Горацкага раёну. Працы Навук Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 46—53.

Красиков, И. проф. Анализ вод на территории в окрестностях Горецк. С.-Хоз. Ин-та. Материалы Запомо 922. № 1. с. 23—31.

Котаў, Т. І. Вясельле. II. Купальле [Горацкі раён]. Праца Навук. Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. 927. т. III. с. 202—215.

Кучынскі, Пётра. Глебы Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. 927. т. III. с. 15—34.

Кучынскі, П. Глебава-географічны нарыс паўночнай Аршаншчыны. Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 926. т. 1. с. 147—165. 7. табл. з малюнкамі. [Тэзісы на нямецкай мове].

Лайкоў, М. Аддзел ажыцьцяўленьня Горацкае раённае дасьледчае станцыі і праграмма работ экономічнага аддзелу. Сш. XIII. Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі". т. II. 1927 г. Горкі 927. с. 173—181.

Лисовский. О работе союза работников просвещения Оршанского округа. Асьвета. 925. № 4. с. 100-101. Хроніка.

Лунгэрсгаўзэн, Ф. В. проф. Нарыс геолёгічнае пабудовы Аршаншчыны. Аршаншчына. 926. ч. I. с. 8—12. [Сьпіс літаратуры: 12 назваў].

Люнгэрсгаўзэн, Ф. В. проф. „Нарыс геолёгічнае пабудовы Горацкага раёну" (з дадаткам 4-х малюнкаў) Праца Навук т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. т. 927. т. III. С. 1—14.

Лявіцкі, А. Ю. Статыстыка і дынаміка пажыўнога рэжыму Стэбутаўскага дасьледчага поля (з работ аграхэмічнага аддзелу Горацкай Дасьледчай Станцыі пры Бел. Дзярж. Акад. С.-Г. Зап. Бел. Дз. Акад. С.-Г. 928. № VII. с. 178—207. (Тэзісы на нямецк. мове).

Лясная гаспадарка Аршаншчыны ў 1926 г. Зборнік артыкулаў. Ворша, выд. Аршанскай лясной сэкцыі Саюзу с.-г. і лясных рабочых т-ва прыхільнікаў лесу Аршанскае акругі. 927. с. 32.

Майсеенка, П. Клюбны дзень. (З практыкі Горацкай сямёхгодкі). Асьвета. 927. № 1 с. 58—60.

Марозаў. Малочная коопэрацыя на Аршаншчыне. Шлях-Коопэрац. 927. № 1. с. 51.

Мельнік, С. П. проф. Сучасны стан „Старога Парку пры Беларуск. Дзяржаўнай Акад. Сельск. Гаспадаркі. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 927. т. II. с. 154—182, 2 таб. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Мельник, С. П. Плодоносящие деревья и кустарники окрестностей гор. Горы-Горок. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 925. т. III. ч. II. с. 157—164. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Мельнік, С. П. проф. „Стары Парк" пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельск. Гаспадаркі. (З гісторыі Горацкага Дэндралёгічнага Саду). Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 926. т. I. с. 108—129. 2 пляны. [Рэзюмэ на нямецк мове].

Мельнік, С. П. проф. 1. Кароткая справаздача працы Горацкай Лясной Дасьледчай Станцыі за 1922-25 г. г. 2. Арганізацыйная і грашова-матар'яльная справаздача за 1925-26 год. 3. Навуковая справаздача.

Працы Навук.-Дасьл. Ін-ту С. і Л. Гаспадаркі 927. т. 1. № 1/3, с. 1—87. 2 пляна. Апошнія працы з рэзюмэ расійск. мове.

Мельнік, С. П. проф. Лесаводныя фітафэнамэтрычныя нагляданьні ў Горацкім дэндралёгічным гадавальніку (ў 1924 г.) Зап. Бел. Дз. Ак. С.-Г. 926. № 2. с. 163—178. 3 табл.

Марохин, Д. Рост древесной растительности близь г. Горок Белорусск. республики, летом 1923 г. Зап. Горец. С.-Х. Ин-та 925. т. II. ч. II. с. 62—88. 4 черт. [Тэзісы на немецк. яз.].

Мэдзіш, М. Галоўнейшыя захварэньні культурных расьлін у ваколіцах Горак у 1926 г. Сш. V. Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі", т. II. 1927. Горкі 927. С. 71—76.

Мядзьведзеў, А. Г. Мікрарэльеф лесавых плято і ўплыў яго на глыбіню пакладу карбанатнага пазему. (З нагляданьняў на Стэбутаўскім дасьледчым полі.). Зап. Бел. Дз. Акад. С. Г. 926. № 2. с. 201—222 І к. [Тэзісы на нямецк. мове].

Мяцельскі, В. В. Актыўная расьліннасьць (р. Н.) глебы ф. Іванова. Сш. XV.

Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі“ т. II. 1927. Горкі. 927. с. 185—192.

Навіцкая. Н. К. Арудавыя шкоднікі зярневых прадуктаў у Горках і ваколіцы. (Мошкі і павука-падобныя). Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 926. т. I. с. 11—21. [Рэзюмэ на нямецк. яз.].

Найдзёнаў, Н. З прац аддзелу жывёлагадоўлі Горацкай дасьледчай станцыі Сш. XI. Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі“. т. II. 1927. Горкі. 927. с. 143—181.

Несьцярчук, Г. І. Сьпіс грыбоў, знойдзеных у лясным гадавальніку № 2 Бел. Цэнт. Лясн. Дасьл. Станцыі пры Бел. Дзярж. Акадэміі С.-Г. ў 1926 годзе. Запіскі Бел. Дз. Акад. Сел. Гасп. 1927. № 5, ст. 132—138. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Несьцярчук, Р. У. Дасьледваньне колькаснага і якаснага пашкоджаньня дрэўных парод расьлінными шкоднікамі ў Горацк. дасьл. лясной дачы ў 1926 г. Зап. Бел. Дз. Акад. С.-Г. 927. т. 4. с. 109—112. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Несьцярчук, Г. І. Шкоднікі дрэўных парод у розных дрэвастанах Горацкай дасьледч. дачы Горацкага лясьніцтва Аршанскай акругі ў 1926. Праца Т-ва па вывуч. Бел. 927. т. IV. с. 65—89. Рэзюмэ на нямецк. мове.

Несьцярчук, Г. І. Лясы Горацкага раёну. Праца Нав. Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. 927. т. III. с. 134—140.

Новик, Е. Итоги 2-го Оршанского Окружного с'езда пожарных работников. Бюл. СНК. БССР. 926. № 6. с. 42-43.

Очерки по народному хоз-ву Оршанского Округа 2-му с'езду советов. Орша. Изд. Оршанского Окружн. Исполкома. 927. с. 2. II. 344. II.

Пастановы Пленуму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту, прынятыя па заслуханых дакладах у пасяджэньні ад 28—31 жніўня 1926 г. Орша. 926. 24. ст.

Паўлаў, Т. Колькі можна атрымаць малака ад сялянскае каровы Горацкага раёну. Плуг. 928. № 6. с. 23—26.

Пелехаў, Н. Аб становішчы сялян Горацкага раёну ў палове мінулага сталецьця. Праца Нав. Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С. Г. 927. т. III. с 155—168.

Пераход, В. І. проф. Яловая „рамень“ Гарацкай лясной дачы. Наш Край. 926. № 8-9. (11-12). с. 19—25. з малюнкамі.

Пераход, В. І. проф. Дрэвастаны сярод палей. (Аршанчына). Наш Край. 927. № 3. с. 10-11.

Пераход, В. И. Временный план хозяйства Прилукской лесной дачи Минского уезда. Нар. Хоз-во Бел. 926. № 3. с. 14—21.

Переход, В. И. Об одном способе устройства б. частно-владельческих лесов Минской губ. Нар. Хоз-во Бел. 923. № 7. с. 73—79.

Перельман, И. М. ассист. I. хир. кл. БГУ. (Минск). Впечатления и итоги хирургической работы в Горецкой районной больнице летом 1926 г. Бел. Мэд. Думка. 927. № 1-2. с. 126—140.

Писарько, Х. Наблюдения над водным режимом западин на полях фермы Горецкого С.-Х. Института. Материалы Запомо 924. № 3. С. 180—183.

Пісаркоў, Х. А. Рост махавога балота Горацкай лясной дачы і ўплыў забалочваньня на прыраст сасны Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 3. с. 28—35.

Письмо Оршанского Окружкома КП(б)Б, Оршанского Окрисполкома и правления потребсоюза, всем Райкомам КП(б), Рикам, потребобществам, Ревкомиссиям, Сельсоветам и Кресткомам Оршанского Округа. Орша. 926. 11 ст.

Пісьмо к сялянам і сялянкам, рабочым і работніцам Аршанскае акругі. Ад Арш. Акр. К-ту КП(б)Б. аб дасягненьнях у савецкім будаўніцтве за год і значэньні дню ўраджаю. (11—14. X. 925. г.)—Ворша 12. ст.

Плятнэр. Х. А. Эканоміка сельскае гаспадаркі Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 927. т, III. с. 86—134.

Пудаў, В. Галоўныя моманты арганізацыйна-эканомічнага стану каляктыўных гаспадарак Аршанскай акругі ў параўнаньні з сялянскаю гаспадаркаю. Праца Навук Т-ва па выв. Бел, 927. т. IV. с. 142—153.

Протоколы 1-й Оршанск. Окружн. Конфэренции Профсаюзов. 1—3. 1925 г. Орша. 925. 169 стр.

Пратасеня, Г. І. Ёмістасьць паглынаньня і ступень ненасычанасьці глеб Горацкага раёну (з работ Аграхэмічнай лябараторыі). Зап. Бел. Дз. Акад. С.-Г. 927. т. III. с. 216—237. [Тэзісы на нямецк. мове].

Прахін, М. Папярэдняя справаздача аб геоботанічных дасьледваньнях ў Аршанскай акрузе ўлетку 1927 г. Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. 2. с. 66—73.

Праца Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Бел. Дзярж. Акадэміі Сельск. Гаспадаркі ў Горках. Горкі. Інст. Бел. Культ. 926—28. т. I—V.

Рего, Г. Обследование хлебов в районе Горецкой Сел.-хоз. Опытной Станции. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та. 926. т. III. с. 17—199. [Тэзісы на нямецк. мове].

Рэзолюцыі 3-й Аршанскай Акруговай партконфэрэнцыі. Ворша. 927. с. 80.

Рэзолюцыі 3-й Аршанскай Акруговай канфэрэнцыі ЛКСМ Бел., якая адбылася 5—8. 1927 г. Ворша. 927. с. 39.

Рэзолюцыя 4 Аршанскай Акруговай канфэрэнцыі КП(б)Б. Ворша. 928. С. 62.

Рэзолюцыі, прынятыя VIII пленумам Аршанскага Акруговага Выкан. Каміт. 1-га скліканьня, адбыўшагася 3—5. XII. 1926 г. па дакладах, стаяўшых на абвестцы дню Пленуму. Ворша, выд. Сакратарыяту АВК. 926. 16 стар.

Рэзолюцыі прынятыя II Пленумам Акрвыканкому 2-га скліканьня. (На вокл.: Рэзолюцыі 2-га Пленуму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту II-га скліканьня 18-19 VII. 1927 г.). Ворша. 927. С. 16.

Рэзолюцыі III-га Пленуму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту II-га скліканьня 5—8 сьнежня 1927 г. Ворша. 927 С. 40.

Рэзолюцыі IV-га Пленуму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту II скліканьня 2—4 красавіка 1928 г. Ворша. 928. С. 20.

Рэзолюцыі V-га Пленуму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту II-га скліканьня 18—20 верасьня 1928. Ворша. 928. С. 20.

Рэнард, К. Г. проф. і Рэго, Ю. Р. асыст. Матарыялы па організацыі навуковадасьледчай і практычна-сэлякцыйна-насеннаводнай працы на Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі за 1925-26 г. Горкі. (НКЗБ. Горацкая С. Г. Дасьледчая Станцыя. Сэлякцыйны Аддзел). 927. С. 24. Асобны водціск з Працы Горацк. с.-г. дасьледч. станцыі" т. II.

Савельеў, А. Ц. Вапна і матыльковыя расьліны на глебах Горацкага раёну Праца Навук. Т-ва па выв. Беларусі 926. т. I. с. 41—54. [Рэзюмэ на нямецкай мове].

Савельеў. Крытычная вільготнасьць у жыцьці культурных расьлін на розных глебавых тыпах Горацкага раёну. (З вынікаў вэгэтацыйных досьледаў катэдры агульнага земляробства Бел. Ак. С.-Г. За 1925—27 г.г.) Зап. Бел. Дз. Акад. С.-Г. 928. № VII. С. 69—86 [Тэзісы на нямецк. мове].

Савельеў, А. Кароткі нарыс якасьці насеньня некаторых культурных расьлін Горацкага раёну. (З прац лябоатарыі агульнага земляробства 1927 г.). Зап. Бел. Ак. С.-Г. 928. № VI. с. 164—191. [Тэзісы на нямецк. мове].

Савецкае будаўніцтва Аршаншчыны, за 1925-26 г. (Справаздача 2-му Акруговаму Зьезду Саветаў. Ворша, выд. Сакратарыяту АВК. 927. С. 2. 74.

Салаўёў, П. Цікавы рачок ў Горках. Наш Край 928. № 1. с. 30-31.

Салаўеў, П. проф. Аб бабрах у Дрыбінскім раёне. Наш Край. 927. № 8-9. с. 20—24.

Салаўеў, П. Ф. Проф. Бел. Ак. С.-Г. Фэнолёгічныя назіраньні ў 1925 годзе. [Горацкі раён]. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 926. т. I. с. 1—10. [Рэзюмэ на нямецкай мове].

Салаўёў, П. проф, Сьпіс птушак, якіх я назіраў у ваколіцах Гарак [79 відаў]. Наш Край. 926. № 8-9. (11-12). с. 40—42.

Салаўёў, П. проф. Фэнолёгічныя нагляданьні ў 1926 г. ў Горках. (шырыня 54° 17°, даўжыня 30° 59°). Наш Край. 926. № 12. (15). с. 49—52.

Салаўёў, П. проф. Краязнаўчая дзейнасьць Гарацк. С.-Г. Акадэміі імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі і Навуковага Т-ва. Наш Край. 927. № 10. с. 31—33.

Салаўёў, праф. Фаўна Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва Бел. пры БДАСГ. 927. т. III. с. 74—85.

Салаўёў, П. Ф. проф. Фаўна Аршаншчыны. Аршаншчына. 926. ч. I. с. 12—15.

Салаўёў, праф. Кароткі абгляд дзейнасьці Гарацкага Раеннага Т-ва Краязнаўства. (1924—27). Зап. Бел. Акад. С.-Г. 928. т. VI. с. 83-84.

Соловьев, П. Ф. проф. Наблюдения над новыми видами хермесов. Chermes a laeviridis n. sp. u Chermes niger n. sp. (Rhynchota, Phytophtires, Aphidae, Phylloxeridae). [в Горы-Горках]. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 925. т. II. ч. II. с. 129—135.

Соловьев, П. Ф. Фенологические наблюдения (в Горы-Горах). Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 926. т. III. с. 30—43. [Тэзісы на нямецк. мове].

Самохин, Ф. К вопросу восстановления плодородия почв на Оршанщине. Сав. Буд-ва. 927. № 6. с. 143—153.

Самохин, Сельско-хоз. кооперация в Оршанском округе. Сав. Буд-ва 926. № 7. с. 189—201.

Самохин, Ф. Колхозы Оршанщины. Сав. Буд-ва. 926. № 10. с. 277—286.

Самохин, Ф. Предпосылки к развитию сельско-хоз. промышленности на Оршанщине. Сав. Буд-ва. 928. № 8-9. с. 195—204.

Самохин, Ф. Экономический обзор Оршанского округа. Сав. Буд-ва. 928. № 2. с. 141—150.

Самцэвіч, В. Вёска Дакудава (Крупск. р., Аршанск. акр.). Культурна-гістарычны нарыс). Наш Край. 927. № 8—9. с. 38—45.

Скандракоў, С. праф. Арганізацыя і праца аддзелу агульнага ральніцтва Горацкае раённае с.-г. дасьледчае станцыі Сш. VIII. Асобны водціск з „Працы Горацк. с.-г. дасьледчай Станцыі" т. II. 1927 г. Горкі. 927. г. с. 109—116.

Спарро, Р. О болотной опытной станции в Горецкой Лесной даче. Материалы Запамо 922. № 1. ст. 15—17.

...Справаздача Расьнянскага Райвыканкому Калінінскае акругі БССР. За тэрмін сакавік--кастрычнік 1925 г. Віцебск. 925. 50 стар.

Сраговіч, М. М. Яўрэйскае насельніцтва Горацкага раёну. (Мінулае і сучаснае). Кароткі гістарычны агляд сацыяльна-эканомічных і культурна-бытавых момантаў) Праца Навук. Т-ва Бел. пры БДА С.-Г. 927. т. III. с. 177—201. [Рэзюмэ на яўрэйск. мове].

Стасевіч, В. Аб выніках Аршанскага сакавіковага пленуму АК. Бальш. Бел. 928. № 3. с. 88—90.

.....Статут Горы Горацкага Навуковага Т-ва для вывучэньня Беларусі. Працы Навук. Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 242—245.

Страж, Р. Г. Буфэрнае дзеяньне глеб Горацкага раёну. Працы Навук. Т-ва па выв. Бел. 928, т. V. с. 39—45.

Сьвірскі, Я. Н. Аб распаўсюджваньні Bellis perennis L. у Горы-Горках. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 67—70.

Сьціван. Аршаншчына на шляху сацыялістычнага аднаўленьня. Плуг. 928. № 12. с. 9—11.

Сяргейчык, П. М. студэнт. Сьвята ўраджаю ў Горках. Плуг. 926. № 11. с. 10—11.

Турицын, Ф. Естественное заболевание ели в Горецкой даче. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та. 925. т. II. ч. II. с. 89—96; 926. т. III. с. 279—281. [Тэзісы на нямецк. мове].

Турицын, Фед. Смена древесных пород при сплошнолесосечных рубках в Горецкой лесной даче. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 924. т. I. ч. 2. с. 121—133.

...1905 г. на Аршаншчыне. Зборнік. Ворша. (Аршанская Акруговая Камісія па ўшанаваньню 20-ці годзьдзя Рэволюцыі 1905 г. пры Выканаўчым Комітэце Саветаў Аршанскае Акругі БССР). 926. 105 стар.

Уласенка, Я. Аб працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў пры Горацкай раённай с.-г. дасьледчай станцыі. Плуг. 928. № 12. с. 42-43.

Устав кооперативного об'единения инвалидов Горецкого района, Оршанского округа БССР. Горкі. 925. 17 стр.

√ Федарака, Б І. Паляваньне ў Горацкім раёне. (З запісной кніжкі студэнта Горацкай С.-Г. Акадэміі. Паляўнічы Бел. 928. № 1. с. 12—14).

Фролов, Н. С. Из опыта небольшого обследования. (Горская волость, Горецкого уезда) [Мелиорация]. Материалы Запомо. 922. № 1. с. 18—27. 1 сх.

Фрыдлянд, Р. Становішча і праца сельска-гаспадарчай коопэрацыі Аршанскае акругі. (Паводле матар'ялаў абсьледваньня Белсельсаюзу). Шлях Коопэрац. 928. № 89. с. 62—66; № 10. с. 25—28.

√ Фэдэрака, Б. І. Кароткі нарыс паляўнічай гаспадаркі Гарацкага раёну. Праца Навук. Т-ва Бел. пры БДАСГ. 927. т. III. с. 141—148.

Хандурын, А. Ф. Вынікі досьледаў з угнаеньнем на Іваноўскім дасьледчым полі Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі за пэрыяд 1922—26 г. Сш. IX. Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьлед. станцыі". т. II. 1927, Горкі. 1927. с. 117—128.

Хейфец, Л. Отчетно-перевыборная компания по кустпромкооперативам Оршанского округа. Шлях Коопэрац. 928. № 4. с. 33-34.

Цехановіч, Е. Пячорная царква і падземны ход ў Варшанскім Кутэінскім манастыры. Наш Край. 926. № 2-3. (5-6). с. 55.

√ .....Цікавая знаходка. (Аршанская акруга). [Біўні маманта]. Наш Край. 926. № 10-11 (13-14). Хроніка. с. 75.

Шумейка, Становішча культпрацы саюзу працасьветы Аршаншчыны за 1925 г. Асьвета. 925. № 7. с. 132.

---

# Бібліографія

**Інстытут Беларускае Культуры.** *Зборнік артыкулаў. Этнографія, антраполёгія, псыхолёгія, псыхотэхніка і навуковая організацыя працы. Гісторыя мастацтва.* Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск 1928 г. стар. 307. цана 4 р. 50 к.

Ёсьць навуковыя галіны, якія займаюць нейкае пасрэднае месца паміж навукамі чыста гуманітарнымі, як напрыклад літаратура, і чыста натуралістычнымі, як ботаніка. Ня толькі псыхотэхніка і навуковае організацыя працы, але і самая псыхолёгія цяпер паводле мэтодаў досьледу набліжаецца да прыродазнаўства. Гісторыя мастацтва мае пэўныя пункты сутычнасьці з тэхнікаю будаўніцтва і г. д. Таму, як бачым, на кніжцы стаіць просты надпіс: „Інстытут Беларускае Культуры" бяз усякіх паказаньняў на гуманітарны або прыродазнаўчы аддзел, хоць вышэй паказаныя дысцыпліны належаць да катэдраў гуманітарнага аддзелу.

Для шырокіх чытацкіх колаў найцікавейшым артыкулам у зборніку зьяўляецца досьлед І. А. Сербава „Вічынскія паляне" (52 старонкі). Увесь чысты быт гэтых палян цікавага плямя, мова якога ня чыста беларуская, а ўжо напаўукраінская,—ахоплен гэтым артыкулам. Аўтар абяцае, аднак, даць і другую частку ў адным з наступных зборнікаў. Трэба думаць, што там ужо будуць зьмешчаны дакладныя статыстычныя матар'ялы ды інш.

Увесь уклад жыцьця гэтага адсталага плямя, поўнага розных забабонаў, даволі неахайнага, але стараннага і працавітага, яскрава малюецца перад нашымі вачыма. Ёсьць і некаторыя ўзоры мовы і фольклёру. Шмат фотоздымкаў рознастайных і даволі прыгожых. Ёсьць і вопраткі і будынкі і інш.

Проф. А. К. Ленц напісаў артыкул: „Матар'ялы да організацыі антраполёгічных дасьледваньняў на Беларусі". У артыкуле выказана цікавая думка, што цялесная будова нават буйных груп насельніцтва залежыць ад соцыяльна-экономічных умоў, у якіх яны жывуць. Такім парадкам нацыі, якія складаюцца з так званых раней „ніжэйшых" клясаў грамады, павінны пры роўных правах усіх працоўных — значна паздаравець і падужэць нават у простым і беспасрэдным фізыолёгічным сэнсе. Да артыкулу дададзена аўтарам поўная бібліографія ў абсягу разгледжанага ім пытаньня.

Падрабязны досьлед д-ра А. А. Сьмірнова „Антраполёгічная характарыстыка групы беларусаў Менскае акругі (рэкруты нараджэньня 1904 г." зьмешчаны разам з кароткім рэзюмэ, напісанным панямецку. Для палягчэньня антраполёгічных досьледаў дактары Сьмірноў і Багараз склалі „Табліцы чарапных

і тварных індэксаў" (стар. 88—108). Д-р Д. Л. Эйнгорн — надрукавала „Матар'ялы да антропомэтрычнага вывучэньня беларусаў і яўрэяў г. Менску ўва ўзросьце 6—14 год. З антропомэтрычнага габінэту Цэнтральнага Дзіцячага Дыспансэру". Доктар Р. М. Моносзон-Любіна дала артыкул „Аб фізычным стане вучняў працоўных школ г. Гомеля (з матар'ялаў Дзіцячае профіляктычнае Амбуляторыі)". Дзьве трэціх часткі з агульнага ліку дзяцей даюць дадатную рэакцыю на сродкі для выяўленьня сухотнае заразы. Гэткая вялікая колькасьць магчымых сухотнікаў зьяўляецца вынікам цяжкіх умоў нядаўняе мінуўшчыны.

Проф. Ленц і д-р Сьмірноў далі артыкул „Методика условных слюноотделительных рефлексов в применении к взрослым людям (нормальным и душевнобольным)". Паўлаўская мэтодыка досьледаў дапасавана цяпер да назіраньняў над людзьмі. Мэтод умоўных рэфлексаў даў некаторыя цікавыя вынікі. Артыкул напісаны парасійску з нямецкім рэзюмэ. Ад псыхофізыолёгіі пераходзім да псыхотэхнікі і Н. О. П. Для дзяржавы і грамады карысна ведаць кваліфікацыю службоўцаў. Цікавыя даныя мы знаходзім у артыкулах проф. С. М. Васілейскага „Спроба псыхотэхнічнае кваліфікацыі аўтобусных шофэраў". Навуковае дасьледваньне наагул не разыходзіцца надта рэзка з данымі службовае характарыстыкі. Тут часта ёсьць пэўная згоднасьць. А. Гайвароўскі даў і „Нарыс мэтодолёгіі профэсыографіі". Проф. В. І. Пераход даў артыкул „Навуковая організацыя працы і лесакіраваньне", М. П. Макараў „Аб бюджэце часу беларускага селяніна". Ёсьць і артыкул д-р. Дзіхцяра „Да мэтодыкі дасьледваньня ўплыву працы на організм чалавека", а ў канцы разьдзелу знаходзіцца „Справаздача аб працы асоцыяцыі Н. О. П. за 1926/7 г. Вялікі аздоблены малюнкамі і плянамі, артыкул М. Брунова аб беларускай архітэктуры XI-га і XII сталецьцяў паказвае вялікае значэньне Беларусі, як месца, дзе крыжаваліся паўднёвыя грузінскія ўплывы з некаторымі іншымі, ды і сама Беларусь уплывала на швэдаў, дзякуючы гандлёвым зносінам. Мова зборніка даволі пярэстая. Ёсьць памылкі: зм*а*чваюцца замест зм*о*чваюцца, стар. 46; аблак*а*чваецца, 42 разб*а*ўтываюць 48, (зам. разб*а*ўтваюць) кароў трымаюць 41, цэлевая ўстаноўка цэласнага (-суцэльнага) 211, 225). ды інш.

Л. Сталяціч.

---

**Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.**
Рэдактар **З. Бядуля.**
Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ.

Стар.


**В. Самцэвіч.**—Да пытаньня аб краязнаўчай працы ў нізавых краязнаўчых організацыях . . . . . . . . 3
**М. І. Касьпяровіч.**—На Асінбуд. . . . . . . . 7
**В. Скардзіс.**—Літоўцы на Беларусі . . . . . . . 10
**М. Азбукін.**—Да пытаньня аб вывучэньні сялянскіх будынкаў . 25
**М. Квываротчанка.**—Украінскае краязнаўства . . . . . 35
**Проф. П. Салаўёў.**—Аб тэрмінах сяўбы жыта ў сувязі з падвышэньнем ураджайнасьці . . . . . . . . 41


## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.


**Е. В. Кушалевіч.**—Кабылянскае балота . . . . . 45
**М. І. Сіламыкін.**—Дарожныя нататкі. . . . . . 58
**К. С. Баеў.**—Да пытаньні аб крыніцах і літаратуры па гісторыі Гомеля і Гомельшчыны . . . . . . . 65
**У. Уладзіміраў.**—Рачны рак—Actacus leptadactylus . . . 70


## ХРОНІКА.


Справаздача Цэнтр. Бюро Краязнаўства аб становішчы краязн. справы ў БССР на 1/1 29 г. . . . . . . . 72
Краязнаўства ў вышэйшых школах і тэхнікумах у 1928/29 акад. г. 73
Школьна-краязнаўчы рух у Полацку. . . . . . 76
Казкі пра волатаў на Чэрвеншчыне. . . . . . 77
Барысаўскае Раённае Т-ва Краязнаўства . . . . . 78
Азарыцкая раённая краязнаўчая конфэрэнцыя . . . . 79
У парадку соцыялістычнага спаборніцтва . . . . . 79
Беларускі Навукова-Краязнаўчы гурток у Латвіі. . . . 79
Мэтодыка краязнаўства ў пэдтэхнікумах . . . . . 81
Чарговыя задачы краязнаўства на Меншчыне . . . . 83
Валатоўкі і зьвязаныя з імі перажыткі . . . . . 84

Краёвая бібліографія . . . . . . . . 90

Бібліографія . . . . . . . . . 93

Цана 75 к.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |

Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і політасьветпрацаўніка.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ў рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнауства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.
Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.
Краязнаўчым організацыям скідка 25%.